+тэлепраграма № 15 (277) 19 красавіка 2002 г.

НАША НІВА

Заснаваная ў 1906. Адноўленая ў 1991. Выходзіць у пятніцы

ПЕРШАЯ БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЭТА

**4 АПОШНІ БОЙ "ХАРТЫІ'97"** і зубры зь імі

**3 ІВАН, КУПІ "НАФТАН"** за мільярд

**6 САША І СІРОЖА** бурны рост беларускай папсы



# Дом для дэпутатаў

**Цэнтар Менску, раён станцыі мэтро "Першамайская". Сярод даўно не рамантаваных "сталінскіх" будынкаў Казарменнага завулку новы, яшчэ ня скончаны 12-павярховік выглядае як Гулівэр між ліліпутаў: шыкоўныя зашклёныя бальконы, гіганцкі цокальны паверх, закрытыя ралетамі дзьверы ў падземны гараж...**

Узводзіла гэты 144-кватэрны дом упраўленьне капітальнага будаўніцтва Кіраўніцтва справамі прэзыдэнта. Праца пачалася ў жніўні 1999 г., пасьля таго як упраўленьне скончыла свой папярэдні "аб'ект" — водагразелякарню ў санаторыі "Баравое" пад Менскам. Цяпер, як кажа начальнік упраўленьня Вячаслаў Панасюк, будаўніцтва амаль скончанае. Засталіся "сэзонныя" працы, якія ўзімку ня зробіш. **Плошча кватэраў у доме большая за сярэднюю. Двухпакаёўка мае агульную плошчу ад 63 да 73 кв.м. Плошча чатырохпакаёвай кватэры — 114 кв.м** (разам з вялікім бальконам з драўлянымі насьцiламі на падлозе). Дом пабудаваны так, каб жыхары пры неабходнасьці маглі досыць лёгка перапланаваць кватэру.

Гэты дом быў пабудаваны па экспэрымэнтальных тэхналёгіях — зь "цёплымі" сьценамі, якія дазваляюць лепей захоўваць цяпло ў кватэрах у халодную пару году. Людзі кажуць, што ў цокальным паверсе будзе басэйн і трэнажорная заля. Сьцены дому складзеныя зь зеленаватага штучнага каменю "бэсэру". Матэрыял гэты вырабляецца па канадзкай тэхналёгіі на сумесным беларуса-амэрыкана-канадзкім прадпрыемстве "Бэсэр-Беларусь". Гэты матэрыял дазваляе эканоміць на фарбе: фасад новага дому не давядзецца фарбаваць гадоў 20—30.

Аўтар праекту архітэктар Барыс Школьнікаў распавядаць пра дом адмовіўся: "У мяне ёсьць замоўца, усе пытаньні вырашайце зь ім. Я ніякіх інтэрвію на гэты конт даваць ня буду". Дзіўная пазыцыя — звычайна аўтары ахвотна кажуць пра свае творы. Чаму спадар Школьнікаў ня хоча гаварыць пра будынак, які можна назваць шэдэўрам сучаснае менскае архітэктуры? Відаць, рэч у тым, што **з 72 здадзеных кватэраў 38 засялілі дэпутаты палаты прадстаўнікоў нацыянальнага сходу.** У цокальным паверсе аднаго з пад'ездаў на дзьвярах службовага памяшканьня вісіць шыльда з паведамленьнем, што тут месьціцца адміністрацыя службовага жытла ПП НС. Намесьнік начальніка сакратарыяту палаты прадстаўнікоў Мікалай Скарынін паведаміў "НН", што на Казарменным службовае жытло атрымалі тыя, хто дагэтуль ня быў уладкаваны ў сталіцы. Гэта новаабраныя няменскія дэпутаты другога складу ПП НС. Астатнія прадстаўнікі рэгіёнаў (іх у палаце недзе трэціна ад агульнай колькасьці) "матаюць" ужо другі тэрмін і нагрэць месьцейка ў Менску пасьпелі. Рэшта чальцоў ПП НС — менчукі. Ім службовае жытло ня трэба.

Хто будзе жыць у астатніх 106 кватэрах гэтага шыкоўнага дому? Вячаслаў Панасюк кажа, што дом узводзіўся на ўмовах долевага будаўніцтва. "У долю" ўвайшлі Беларуская чыгунка, аб'яднаньне "Белтэлекам" і "фізычныя асобы". Будаўнікі кажуць, што кватэры ў доме будуць ня толькі службовыя, але і прыватныя: "Можа, будуць прадаваць, а можа, ужо й прададзеныя ўсе". У менскіх жа рыэлтэрскіх фірмах пра магчымы продаж кватэраў у гэтым будынку нічога ня чулі. **Прыблізны сабекошт такога жытла ацэньваюць у 500—550 даляраў ЗША за квадратны мэтар. У сярэднім па Менску гэтая лічба складае 270—350 даляраў за кв.м.** У новым доме на вуліцы Беларускай, дзе кватэры прадаюцца (гэта недалёка ад Казарменнага завулку), сабекошт квадратнага мэтру сягае 450 даляраў. А якасьць дому на Казарменным лепшая, і месца тут лепшае. Во ў якім доме будуць жыць дэпутаты лукашэнкаўскай палаты прадстаўнікоў.

**Адам Воршыч**



BARCNEWS

**Гэты дом над Сьвіслаччу пабудаваны па экспэрымэнтальных тэхналёгіях — зь "цёплымі" сьценамі, вялізнымі напаўзашклёнымі бальконамі... Людзі кажуць, што ў цокальным паверсе будзе гараж, басэйн і трэнажорная заля. Новая эліта хоча жыць не абы-як.**

## Рэфэрэндум па прыватызацыі

**Нафтахімічны комплекс — самая прыбытковая галіна вытворчасьці, якая працуе на экспарт. Ён дае дзяржаве жывую валюту, гарантуючы эканамічную незалежнасьць. Ці ж ня мусіць у такім разе пытаньне пра ягоную прыватызацыю вырашацца шляхам усенароднага рэфэрэндуму? Такое пытаньне задалі мы экспэртам.**

**Аляксандар Класкоўскі, рэдактар інфармацыйнай кампаніі БелаПАН:**

— Я не лічу, што такія пытаньні варта вырашаць на рэфэрэндуме. Рэй тут мусяць весьці кіраўнікі й спэцыялісты. Калі б большасьцю галасоў вырашаліся пытаньні эканамічных пераменаў, краіна была б у стагнацыі. Але перамены ў нас мусяць адбыцца. Павінен прыйсьці капітал. І неістотна, што ён будзе расейскі: капітал ёсьць капітал. Ня трэба думаць, што гэта абавязкова будзе нейкі крымінальны капітал. Продаж прадпрыемстваў ня будзе продажам Радзімы. Вунь японцы валодаюць паловай Амэрыкі, і гэта не ідзе на шкоду краіне — Амэрыка толькі багацее.

**Міхаіл Кавалёў, дэкан эканамічнага факультэту БДУ:**

— Я адмоўна стаўлюся да такой ідэі. Канстытуцыя дае прэзыдэнту ўсе падставы й правы праводзіць прыватызацыю. Але гэтыя заводы — беларускае "фамільнае срэбра", якое распрадаюць толькі ў самы апошні момант.

**Працяг на старонцы 3.**

## Статус суседзяў Эўразьвязу

**Кіраўнікі дыпляматычных ведамстваў Эўразьвязу падтрымалі прапановы Вялікай Брытаніі й Швэцыі аб новых дачыненьнях зь Беларусяй, Украінай і Малдовай.** Гэтым краінам будзе прапанаваны адмысловы "статус суседзяў", што прадугледжвае паступовую лібэралізацыю гандлю з Эўразьвязам узамен за праца эканамічных і палітычных рэформаў.

**Б.Т.**

новы альбом "Нэйра Дзюбелю"

# Сапраўдны РОК



Ня ведаю, які сродак павінны вынайсьці парфумэры, каб нэўтралізаваць той пот, якім сьцякаюць музыкі гурту "Нэйра Дзюбель" падчас канцэртаў. Калі рэкляма такога сродку і зьвяўіца на тэлеэкранах, я ёй усё адно не паверу. Бо ня можа быць дзэзадаранту, здольнага забіць пах сапраўднай работы.

"Нэйра Дзюбель" належыць да ліку калектываў, якія заўсёды знаходзяцца ў апазыцыі. І ня толькі да афіцыйнай музыкі: "Нэйра Дзюбель" — гэта яшчэ апазыцыя музыкаў самім сабе. Ва ўсім тым, што Аляксандар Кулінковіч выдае са сцэны, няма ані кропелькі штучнага эпатажу, імкненьня зьвярнуць на сябе ўвагу, карыстаючыся пазамузычнымі сродкамі. Ягоная пазыцыя можа зьбянтэжыць абывацеля, што прызвычаіўся да "Скрыжаваньняў Эўропы" і для якога ўсё сваё, уласнае, — гэта калгас з усімі атрыбутамі — п'янствам, брыдкімі словамі, адсутнасьцю якой-кольвек адукаванасьці й інтэлігентнасьці. Чужому воку "Нэйра Дзюбель" якраз і выглядае як тыповае спараджэньне перавалена калгаснага ладу, калі былыя калгасьнікі, адчуваючы, што далей так жыць немагчыма, вырашылі выбрацца ў горад па "шчасьце", але да гораду так і не даехалі. Аселі недзе ў мястэчку, на паўдарозе.

Аднак давайце ня будзем блытаць "дзюбялёў" у жыцьці й на сцэне. Гэтую розьніцу асабліва адчуваеш, калі пачынаеш размаўляць з Кулінковічам пасьля ягонага сыходу са сцэны. У жыцьці ён зусім іншы, ягоную інтэлігентнасьць, якую ён дэманічна абвяргае падчас канцэрту, немагчыма не заўважыць, не адчуць. Дый ненарманай лексыкі амаль не ўжывае. І такое вось арганічнае суіснаваньне двух Кулінковічаў-блізьнятаў — найбольш загадкавы і вызначальны момант, які можа даць тлумачэньне фэномэну, што завецца "Нэйра Дзюбель". "НД" нечым вабіць. Але вось чым?

**Працяг на старонцы 2.**

# 33 гадзіны бяз Чавэса



**Зь дзясятак тысячаў кілямэтраў аддзяляюць беларускую апазыцыю ад таго, што магло б стацца сцэнарам разьвіцьця падзеяў у Беларусі. 11 красавіка ў Вэнэсуэле адбылася "буржуазна-дэмакратычная" рэвалюцыя, якая скінула прэзыдэнта-папуліста, Лукашэнкавага аднагодка Уга Чавэса, але той, дзякуючы пратэстам "вуліцы" і падтрымцы верных яму войскаў, ужо праз два дні здолеў вярнуцца ў сваё крэсла, каб ізноў абвесьціць сябе "верным абаронцам беднага люду".**

## Хроніка вуліцы

Заварылася ўсё з усеагульнага страйку, пачатага ў аўторак кіраўніцтвам Саюзу прадпрымальнікаў, кааліцыяй апазыцыйных правых партыяў, прафсаюзамі нафтавікоў, Асамблеяй NGO. Вайсковым вярхам таксама было не даспадобы тое, што Чавэс выкарыстоўвае жаўнераў для цывільных працаў і прапаганды "чавісцкай" рэвалюцыі. У чацьвер 11 красавіка на вуліцы вэнэсуэльскіх гарадоў выйшлі 600 тыс. чалавек, зь іх 300 тыс. у сталіцы. Бойкі з паліцыяй пачаліся яшчэ ўдзень, але піку яны дасягнулі пад вечар, калі маніфэстанты рушылі да прэзыдэнцкага палацу Мірафлёрэс.

**Працяг на старонцы 4.**

наш камэнтар

# Гульня ў замяталіна

Адыёзнага дэпутата Касьцяна паставілі кіраваць холдынгам дзяржаўных літаратурных выданьняў. Некаторыя пісьменьнікі адразу ўдарылі ў званы: “Гэтае прызначэньне — сьмерць беларускае літаратуры!”

Лукашэнкавы іміджмэйкеры ўмела лепяць вобраз цара-бацюхны. Толькі калі народу вінаватымі ў эканамічных правалах падносяць чыноўнікаў, апазыцыянэраў і іншых шкоднікаў, дык для інтэлігенцыі, якой найбольш баліць абхамленьне і русіфікацыя грамадзтва, ахвярным казлом выстаўлялі Замяталіна. Лёгка і зручна сьпісваць усе беды краіны не на эгаізм і безадказнасьць кіраўніка, а на беларусаедзтва ягонага лёкая.

Касьцян — гэта сапраўды новы замяталін. Аднак гэта наш замяталін. Не маскоўскі наглядчык, а мясцовы заходнерусіст, па-свойму беларускі да мозгу касьцей. Мясцовая пародыя расейскага прататыпа. Прызначылі ж гэтага заходняруса на зьдзек — паказваць Законьнікаву, як кіраваць “Полымем”, а Мацяш — пра што пісаць. Раней русафілаў падстаўлялі пад агонь, цяпер іх кідаюць пад ногі, у самы бруд. Прызначэньне Касьцяна можна параўнаць са спробай выпіхнуць Ярмошына ў кантору Барадзіна, кліента Даніэля Дэво.

Прызначэньне Касьцяна можна толькі вітаць. Значэньня ягоная пасада ня мае ніякага, затое шпілек ад савецкіх пісьменьнікаў ён атрымае пад бок і пад галаву. Гэтае прызначэньне яшчэ раз сьведчыць, што час Касьцянаў і Замяталінаў мінуўся, што Беларусь іх перарасла.

А літаратура — яна ня там, куды прызначаюць Касьцянаў.

ліст у рэдакцыю

# Рукі прэч ад Сафіі!

У шэрагу нацыянальных сымбаляў поруч стаяць крыж Эўфрасіньні Полацкай і полацкі Сафійскі сабор Усе яны кожны пасвойму сымбалізуюць Беларусь. І зразумела, ворагі беларушчыны і незычліўцы Беларусі заўсёды імкнуліся зьнішчыць, забараніць ці апаганіць іх або завалодаць, каб прыстасаваць да сваіх патрэбаў. Нядаўна Камітэт па справах рэлігіі і нацыянальных меншасьцяў загадаў полацкім гарадзкім уладам падрыхтаваць перадачу храму Расейскай праваслаўнай царкве. Мы лічым такі крок камітэту неабдуманым. Дзяржаўны орган ня мусіцьісьці на павадку ў сілаў, якія хочуць дэстабілізаваць сытуацыю, расpaліць у нашым грамадзтве міжрэлігійную варожасьць. У 70-80-х гадах помнікі дойлідзтва, а значыць і бажніцы, ратавалі ад зьнішчэньня беларускія патрыёты. На жаль, тады сярод абаронцаў Божых храмаў не было відаць аніводнага праваслаўнага сьвятара. Пад націскам інтэлігенцыі ў 80-х пачалася рэстаўрацыя полацкай Сафіі. Рэстаўрацыя праведзеная на высокім узроўні, у храме ўсталяваныя ўнікальныя арганы — гонар гораду і краіны. Было прынятае на той час адзіна правільнае рашэньне: сьвятыня павінна служыць ня вузкаму колу парафіянаў адной канфэсіі, яна павінна належаць усяму народу. У саборы быў створаны музэй сьвятыні і канцэртная заля. І храм стаў духоўным здабыткам усяе нацыі.

Усё павінна адбывацца мірна, з думкай пра Беларусь і бязь зьменаў статусу сабору сьв.Сафіі. Права ажыцьцяўляць свае набажэнствы ў Храме павінны мець усе хрысьціянскія суполкі, якія адраджаюць беларускую духоўнасьць і карыстаюцца ў набажэнствах беларускай мовай, што цалкам адпавядае беларускай талеранцкай традыцыі.

**Леанід Акаловіч, выкладчык і сьвятар; Рыгор Бакіевіч, рэжысэр; Сьвятлана Бельская, біёляг; Рыгор Барадулін, народны паэт Беларусі; Янка Брыль, народны пісьменьнік Беларусі; Радзім Гарэцкі, акадэмік НАНБ; Эдвард Зайкоўскі, кандыдат гістарычных навук; Аляксей Кароль, гісторык; Мікалай Крыжаноўскі, дэпутат ВС XII скліканьня; Мікола Крукоўскі, прафэсар; Уладзімер Кулажанка, прафэсар; Мікола Купава, мастак; Аляксей Марачкін, мастак; Уладзімер Пузыня, заслужаны дзеяч мастацтваў Беларусі; Уладзімер Содаль, літаратар; Вячаслаў Чамярыцкі, кандыдат філялягічных навук; Міхась Чарняўскі, гісторык; Юры Хадыка, прафэсар**

**(Ад рэд.: зварот пададзены скарочана.)**

# Сапраўдны рок

Працяг са старонкі 1.

Чаму іхная простая, часам нават прымітыўная музыка знаходзіць шлях да сэрца праз упарадкаваныя іншай, правільнай музыкай мазгі? Мо таму, што “Нэйра Дзюбель” — самае дакладнае ўвасабленьне таго, што можна назваць рок-музыкай, калі акрэсьленая ідэалягічная пазыцыя (што думаю — тое і кажу) падмацоўваецца выдатнымі акторскімі здольнасьцямі — дарэчы, ня толькі Кулінковіча, але й Юр’я Навумава, які канчаткова закінуў гітару і працуе цяпер як вакаліст. Або як удзельнік шоў: вакальныя партыі Навумава сьпевамі назваць цяжка, часам ён працуе ў падпеўках проста “міма”.

Зрэшты, на прэзэнтацыі альбому “Праўдзівыя гісторыі пра тое, як у Карлсана ўгналі камбінэзон” (рэкорд Беларусі па працягласьці назвы!) “Нэйра Дзюбель” граў надзіва зладжана. Чуваць былі ўсе інструмэнты, і гучалі яны там, дзе трэба, і столькі, колькі трэба. А гэта — прыкмета клясы, прыкмета такая, якую не перабіць нічым.



IREX-PROMEDIA

“Нэйра Дзюбель” узору 2002 г. — па-ранейшаму зьява двухзначная. Кулінковіч дзякуючы “Паляўнічаму і сайгаку” паспытаў айчыннага шоў-бізнэсу і зразумеў, што там ён чужы. Бо хто ж пусьціць у этэр песьню з назваю “Ё.Т.М.”, расшыфраваць якую — філялягічнай адукацыі ня трэба. Вось чаму сольны канцэрт у вялікай залі Палацу Рэспублікі “дзюбялям” не пагражае, хоць ненармаваная лексыка Кулінковіча куды больш інтэлігентная, чым нічым не нармаваны слоўны запас іншага лідэра, які часта выступае ў той залі.

Дарэчы, адносна лексыкі. Тыя, хто стае ў позу, пачуўшы сёе-тое слова, выглядаюць сьмешна, бо, напрыклад, айчынная міліцыя мусіла б увесь заробак выдаткоўваць на аплату штрафаў за публічнае брыдкаслоўе. Бяз мату міліцыянты проста перасталі б разумецца. З гэтай самай прычыны мы страцілі б і Ўзброеныя сілы. Аднак “ненармаваная” лексыка павінна выкарыстоўвацца ў дакладна вызначаным месцы і часе. Песьня “Ё.Т.М.” для мяне асабіста — не найлепшы прыклад ужываньня трывалых словаспалучэньняў, бо яны тут ня вельмі апраўданыя. Калі публіка зладжана паўтарае за Кулінковічам “тры чарадзейныя слоўцы”, ці не гаворыць гэта пра тое, што не музыкі падцягваюць аўдыторыю да ўласнага ўзроўню, а публіка дыктуе музыкам, якімі яны мусяць быць?

“Нэйра Дзюбель” мае шмат супольнага зь “Ляпісам Трубяцкім”. Колісь малавядомы “Ляпіс” нават разаграваў больш вядомых “Дзюбялёў” на канцэртах. Простасьць музыкі яднала тады гэтыя калектывы. Цяпер Міхалок, каб і захацеў даць волю языку падчас канцэрту, зрабіць тое ня ў стане: кантракт наўрад ці дапусьціць. Маючы супольныя карані, гэтыя гурты падзялілі аўдыторыю. Калі фаны “Ляпісу” — гэта збольшага школьнікі, якія яшчэ хаваюць цыгарэты ад бацькоў, дык публіка “НД” складаецца з тых, хто, магчыма, ужо кінуў паліць, перайшоўшы на даражэйшыя і мацнейшыя стымулятары.

Апошнім часам у рэпэртуары “Нэйра Дзюбелю” зьявіліся песьні на беларускай мове. Гэта ня выклікана аніякімі каньюнктурнымі павевамі. Як чалавек інтэлігентны, Кулінковіч ня можа адмахнуцца ад атачэньня, зь якім ён сутыкаецца штодня. Ён заўсёды, нават падсьвядома, стаіць у апазыцыі да яго. Пры ўмове нармальнай, актыўнай беларусізацыі грамадзтва Кулінковіч таксама сьпяваў бы па-беларуску, але вершы Караткевіча знарок пераклаў бы на расейскую. Цяпер ён сьпявае Караткевіча па-беларуску, сам піша беларускамоўныя тэксты. Чаму? Мабыць, таму, што таксама не жадае мець нічога супольнага з тымі, для каго беларуская мова — усяго толькі сродак для вырашэньня побытавых, палітычных і іншых праблемаў. У іх сродак — у Кулінковіча натуральная патрэба.

Зоркі эстрады на сцэне сьпяваюць прыстойныя песьні пра высокія чыстыя пачуцьці і пры гэтым турбуюцца, каб кропелька поту не парушыла грым. А за сцэнай даюць волю ненармаванай лексыцы. Кулінковіч і ягоныя калегі п’юць на сцэне з рыльца біклажкі, лаюцца, сплываюць потам, а пасьля канцэрту, бывае, наагул ня здольныя ад стомы вымавіць ані слоўца. Нават “нармаванага”.

**Дзьмітры Падбярэскі**

### сур’ёзна

Неяк Кулінковіч даваў інтэрвію на радыё. Пры канцы перадачы мусіла гучаць песьня “Нэйра Дзюбелю”. Вядучыя напрамілы бог прасілі, каб у ёй не было мацюкоў. Кулінковіч прынёс запіс. Калі першыя акорды прагучалі ў этэры, ён раптам схапіўся за галаву, згадаўшы, што адно ненарматыўнае слова там усё-такі ёсьць — яно аж тры разы паўтараецца ў прыпеве. Вырашылі, што Кулінковіч будзе перад ім махаць рукою, а гукаапэратар — глушыць гукавым сыгналам. Аднак сыстэма не спрацавала: сыгнал гучаў толькі пасьля слова. “Уё...шча піп! Уё...шча піп! Уё...шча піп!” — пачулі радыёслухачы.

погляд зь Вільні

# Акт беларускай драмы

**На расейскім тэлеканале НТВ 12 красавіка адбылося ток-шоў з удзелам Лукашэнкі. Расейская палітычная й культурная эліта выявілі сваю недасьведчанасьць, а беларускія апазыцыянэры — нямогласьць.**

Усё пайшло ня так ад пачатку. Дзень касманаўтаў. Вузкагруды вядучы, апрануты, як сутэнэр каўкаскага паходжаньня. Прыпылены Менск і прымарожаная Масква. Дэманстратыўна падзеленая публіка: налева — за Лукашэнку, направа — супраць. Што ў той расейскай студыі, што на “вуліцы” Менску. Тым ня менш, спадзеў заставаўся. Прынамсі, калі не на шчырыя адказы, дык хоць бы на шоў...

Лукашэнка трымаўся, наколькі мог, годна. Закочваў вочы, цяжка ўздыхаў, разводзіў рукамі, стукаў сябе ў грудзі. Пакуль не папаўзьлі па экране разьвітальныя тытры, спрабаваў нават не хаміць. Ён хлусіў. Хлусіў шмат. Пра свабоду слова й пра заробкі. Пра тое, што ў Беларусі жыве 12 мільёнаў чалавек, а “з гасьцямі” — 15. Пра “два дзясяткі прадацеляў”. Пра тое, што галоўная мэта беларускае апазыцыі — вярнуць у Беларусь свае этнічныя абшары, перарабіць мапы. Сыпаў аднаму яму ведамымі лічбамі. Зрэшты, для беларусаў гэта не навіны. А вось расейская аўдыторыя збольшага ўспрымала гэтую плынь сьведамасьці за праўду.

І было адно адкрыцьцё: што істэблішмэнт, што звычайныя грамадзяне — усе ў Расеі маюць пра Беларусь вельмі цьмянае ўяўленьне. Як з “лукашэнкаўскага”, гэтак і з “антылукашэнкаўскага” боку. Татальную недасьведчанасьць расейскае публікі зразумець няцяжка, зважаючы на заангажаванасьць іхных мэдыяў.

Так, сакратар Саюзу пісьменьнікаў Расеі, назваўшы Эдуарда Скобелева “найбуйнейшым інтэлектуалам”, баяў, што беларускія пісьменьнікі й сяляне падтрымліваюць Лукашэнку, а ён іх. Павал Барадзін, назваўшы японцаў “свалачамі”, а амэрыканцаў — “поскудзьдзю”, сыпаў прыкладамі, як выдатна працуе беларуская эканоміка й наколькі яна апярэджвае расейскую. Намесьніца думскага камітэту па адукацыі ўпэўненая, што беларускія настаўнікі атрымліваюць у два разы больш за расейскіх. Старшыня расейскага ПЭН-цэнтру наракаў на “выгнаньне” Быкава, Някляева й Алексіевіч, на тое, што “Пагоню” судзяць за прыпеўкі. Дэпутат і журналіст наракалі, што ў Беларусі няма як купіць даляраў. І ўсе з аплёмбам цьвердзілі, што беларусы сьпяць і бачаць сябе, нарэшце, у Расеі. Тэрмін “*воссоединение*” гучаў несупынна. Маўляў, праблема толькі адна: ці Беларусь далучыцца з Лукашэнкам, ці безь яго.

Здавался б, вось і шанец для ўдзельнікаў перадачы зь Менску: у жывым этэры давесьці сваю рацыю й выправіць уяўленьні расейцаў пра сябе. Але гэтага не адбылося.

Вельмі прафэсійна падзеленая на “за” і “супраць” менская публіка жыла адно сваім прыватным клопатам. Чалавек сталага веку прысягнуў у любові да Расеі, але згадаў, як ягонаму сыну там цяжка. Нейкая кабета папрасіла свайго прэзыдэнта яе прыняць. Яна зазначыла таксама, што ня мае дачыненьня да газэтаў, а таму ёй няма чаго сказаць пра свабоду слова. Ну а што ж беларуская эліта?

Дырэктар Беларускага ліцэю Ўладзімер Колас, папярэдне зазначыўшы, што ён, можа быць, толькі пакуль кіруе ліцэем, намякнуў на тое, што “прыгожыя фразы” — гэта толькі фразы, а ён хацеў бы застацца грамадзянінам Беларусі, бо “сутнасьць таго, што адбываецца”, на ягоную думку, у іншым, а ў чым, распавядзе за яго хто-небудзь іншы... Вінцук Вячорка, як сапраўдны настаўнік, заўважыў, што ў яго пытаньняў да Лукашэнкі няма, бо “ён тое, што робіць, робіць сьведама”... Ну, заставалася б толькі дадаць, як на бацькоўскім сходзе, што да ўсяго той яшчэ й задзіра. Валянцін Голубеў нагадаў Лукашэнку пра ягоныя абяцанкі сямігадовае даўніны. Студэнт Паўловіч зазначыў, што яго засудзяць па артыкуле 368-м, частцы першай, пра што, відаць, гледачы таксама мусілі б ведаць. А прафэсар Юры Хадыка, выйшаўшы з чарговага зьняволеньня, скарыстаўся мікрафонам, каб давесьці да ўсеагульнага ведама, што заробкі ў Акадэміі навук скарацілі. Спадар Лявон Баршчэўскі ў ролі простага настаўніка сказаў, што ў настаўнікаў заробкі меншыя за 100 даляраў. Андрэй Клімаў, які толькі выйшаў зь вязьніцы, проста ўсьміхаўся ў кадры. Падумалася: рыхтык як аўганскія дзеці, якія цікаўна зазіраюць у тэлекамэры, ня ведаючы, што гэта такое. Нехта махаў бел-чырона-белым сьцягам, а нехта — партрэтамі зьніклых палітыкаў. Пра апошніх ніхто нічога й не сказаў. Ні па той бок, ні па гэты.

Пра што яшчэ *не было* сказана ў той перадачы на НТВ? Ніхто ня ўзьняў пытаньня пра лёс беларускае мовы. Не сказана было, што за выкарыстаньне нацыянальнае сымболікі людзей штотыдзень перасьледуюць. Што парушаюцца не абстрактныя, а канкрэтныя правы беларускіх грамадзянаў, напрыклад права на сходы. Каму ж, як не апазыцыянэрам перад камэрай, было пра тое казаць?

Нічога не было сказана пра беларускую вёску. Пра паўтары тысячы стратных гаспадарак, колькасьць якіх расьце на вачох. Якія ня могуць дазволіць сабе набыцьцё новае тэхнікі. Тае тэхнікі, экспартам якое гэтак казырае Лукашэнка.

Ні слова ніхто не замовіў за “чарнобыльскія” зоны. За тысячы хворых і пакінутых сам-насам са сваім болем людзей.

І ніхто не прамовіў слова “незалежнасьць”. Адзін Лукашэнка падкрэсьліў, што ні пра якае “паглынаньне Беларусі Расеяй размовы быць ня можа...”. Тут бы яго і падтрымаць!..

Дзеячы апазыцыі ўдавалі (і ўдала!) людзей з вуліцы. А ці гэтак мусяць гаварыць палітычныя лідэры са сваім асноўным апанэнтам? Можна, вядома, даравацьім недасьведчанасьць, неспрактыкаванасьць у тэлевізійных тэхналёгіях. Можна зразумець жаданьне скарыстацца трыбунаю для вялізарнае аўдыторыі. Але па выніках ніхто не зразумеў, навошта яна ім. І гэты чарговы акт беларускае драмы, што быў разыграны на вачох шматмільённае аўдыторыі 12 красавіка, пакіне па сабе куды болей наступстваў, чым можна было чакаць ад заштатнае тэлевізійнае праграмы замежнага тэлеканалу. Бо справа не ў Лукашэнку й ягоных дзікіх ляпах (кшталту вершаў Быкава), а ў расчараваньні, зь якім адварочваліся беларусы ад тэлевізара. Нічога новага ў нашай старонцы.

**Гары Куманецкі**

# Беларусь можа страціць

## *стратэгічны кантроль над сваёй эканомікай*

**Што за пагадненьні былі падпісаныя ў Маскве ў часе візыту Лукашэнкі й Навіцкага?**

Замест заплянаванага падпісаньня чатырох міжурадавых пагадненьняў, прэм'еры Міхаіл Касьянаў і Генадзь Навіцкі падпісалі толькі два. Першае — "Пра стварэньне роўных умоваў у галіне цэнавай палітыкі". У адпаведнасьці зь ім, з 1 траўня на Беларусь пачынаюць распаўсюджвацца заходнерасейскія тарыфы на газ, пастаўлены "Газпромам", а з 1 ліпеня — на чыгуначныя перавозкі. Напрыклад, калі цяпер Беларусь плаціць Расеі за тысячу кубамэтраў газу 30 даляраў, то з траўня будзе плаціць толькі 22 даляры.

Аднак, па-першае, розьніца ў тарыфах на гэты момант невялікая, затое ўзамен Расея дабілася згоды Беларусі на ўдзел "Газпрому" ў прыватызацыі магістральных газаправодаў нашай краіны. Па-другое, беларускія прадпрыемствы вялікай выгады з гэтага пагадненьня не адчуюць, бо "Газпром" — не адзіны экспартэр газу ў Беларусь. Ёсьць яшчэ "Ітэра", якая цэны зьніжаць не зьбіраецца... Таму ў рэальнасьці цана газу для прадпрыемстваў зьнізіцца ўсяго з 59 да 56—57 даляраў за тысячу кубамэтраў.

Другое падпісанае прэм'ерамі пагадненьне "Пра разьвіцьцё супрацоўніцтва ў газавай галіне" можа прынесьці Беларусі прыбытак. Згодна зь ім, колькасьць транспартаванага на Захад празь Беларусь расейскага газу павялічыцца ўдвая. Аднак адбудзецца такое павелічэньне толькі ў пэрспэктыве, бо пакуль здабыча газу ў Расеі штогод зьмяншаецца з-за адсутнасьці інвэстыцый у распрацоўку новых радовішчаў. Узамен Беларусь абавязалася з 1 траўня скасаваць мытныя і падатковыя льготы для ўсіх прадпрыемстваў, якія імі карысталіся. Згода на гэта — вялікая параза беларускага ўраду. Лабісты расейскіх канкурэнтаў нашага "Гарызонту" і інш. навязалі свае правілы гульні, што можа выклікаць хвалю беспрацоўя ў краіне.

Затое так і не ўдалося беларускаму боку падпісаць пагадненьні пра прынцыпы спагнаньня ўскосных падаткаў і пра мэханізм кампэнсацыі стратаў беларускага бюджэту. Расея не пайшла на саступкі "саюзьнікам". Дакумэнты "адправілі на дапрацоўку".

**Падпісаньне пагадненьняў адбылося на фоне прыватызацыйных захадаў расейскага капіталу што да нашых "Паліміру", "Нафтану", "Азоту", "Хімвалакна", "Белшыны". "Хімвалакно" прывабіла кампанію "Сібур".**

На ўдзел у акцыянаваньні "Азоту", "Нафтану" і "Паліміру" прэтэндуюць некалькі расейскіх кампаніяў, аб'яднаных у два альянсы: "Ітэра" і "ЛУКойл" — "Сургутнафтагаз" і "Слаўнафта".

Між тым, кошт акцыяў усіх названых беларускіх прадпрыемстваў яшчэ ня вызначаныя. Так, на "Нафтане" зрабілі толькі балянсавую ацэнку прадпрыемства, неўзабаве будзе ацэнены і ягоны статутны фонд. На першым этапе прыватызацыі беларуская дзяржава абяцае захаваць за сабою кантрольныя пакеты акцыяў прадпрыемстваў. Лукашэнка, магчыма з папулісцкіх мэтаў, патрабуе ад расейскага капіталу "сацыяльных гарантыяў для працоўных".

Ужо само настойлівае імкненьне расейскіх бізнэсмэнаў укласьці грошы ў краіну, дзе інвэстыцыйныя рызыкі надзвычай высокія, выклікае падазрэньне. Гаворка для іх ідзе нават не пра пошук прыбытку, а пра атрыманьне стратэгічнага кантролю над беларускай эканомікай. Расейскія нафтагазавыя магнаты будуць інвэставаць не ў заводы, а ва ўладу.

Калі прыватызацыя адбудзецца па заплянаванай схеме, беларуская эканоміка пяройдзе пад стратэгічны кантроль расейскіх кампаній. Іх уплыў ня будзе ўраўнаважвацца заходнім капіталам. Гэта, у сваю чаргу, выкліча новую расстаноўку сілаў у палітычнай прасторы краіны. Лукашэнка страціць цяперашнюю неабмежаваную ўладу. Сувэрэнітэт краіны таксама будзе звужаны. У сытуацыі міжнароднай ізаляцыі і непрызнаньня лукашэнкаўскае адміністрацыі Расея, як аказваецца, можа навязваць сваю волю быццам бы "саюзнай" дзяржаве.

Лукашэнка трапіў у складаную сытуацыю. Прыватызацыя на расейскіх умовах нявыгадная для Беларусі. Аднак пры адмове ад яе расейская палітычная эліта пагражае зьмяніць сваё стаўленьне да яго. І, хоць на сёньня ў Беларусі няма ніводнае ўплывовае палітычнае сілы, на якую магла б абаперціся Масква ў барацьбе з Лукашэнкам, трапіць у сытуацыю супрацьстаяньня з Масквой для "гаранта канстытуцыі" ня звыкла. Нягледзячы на прамаруджваньне Лукашэнкі, расейскае кіраўніцтва няўхільна й пасьлядоўна прыціскае яго да сьценкі, прымушаючы адно за адным прымаць патрэбныя Расеі рашэньні.

У гэтых умовах беларуская апазыцыя захоўвае нэўтралітэт, апраўдваючы свае дзеяньні (ці, хутчэй, бяздзеяньне) тым, што прыход замежнага капіталу жыцьцёва неабходны беларускай прамысловасьці. Таму Лукашэнка застаецца сам-насам зь небясьпекай страты Беларусяй часткі сувэрэнітэту. Воляй лёсу ён можа зрабіцца галоўным ягоным абаронцам.

**Алег Тачоны**



IREX-PROMEDIA

### навіны гаспадарскія

**ПАЗЫКІ НА БЕЛАРУСКІЯ ТАВАРЫ** пачнуць даваць камэрцыйныя банкі. Найперш — сталым укладнікам, дзеля заахвочваньня. З пачатку году рублёвыя ўклады ў банках вырасьлі на 38,4%, а валютныя — на 4,7%. Агулам у банках беларусы трымаюць 451,8 млрд. рублёў і 329,5 млн. даляраў.

**БЕЛАРУСКІЯ ЦЫГАРЭТЫ** падаражэюць. Гарадзенская фабрыка ўздыме цэны на 7%, а менскі "Тытунь-Інвэст" – на 2,5%.

**23 НОВЫЯ ВАГОНЫ** набудуць сёлета для менскага мэтро. Абыдуцца яны ў 7 млн. даляраў. У кожнага цягніка зьявіцца дадатковы пяты вагон.

**ПАЛЯЎНІЧЫЯ З ЗАМЕЖЖА** летась купілі ў беларускіх лясгасах ліцэнзіяў на 138 тыс. нямецкіх марак. Найчасьцей замежнікі палявалі на аленяў, ласёў, дзікоў і глушцоў.

**4100 БЕЛАРУСАЎ** працавалі летась за мяжой па афіцыйных кантрактах. Палова зь іх — у Расеі. Аднак у Міністэрстве працы кажуць, што насамрэч гастарбайтэраў было ў некалькі разоў болей.

**БЕЛАРУСКІ ГАНДЛЁВЫ ЦЭНТАР** адчыніўся ў Рызе. Прадаваць у ім будуць тэлевізары, халадзільнікі і абутак.

**500 ТРАКТАРАЎ** аддамо сёлета Малдове за насеньне кукурузы. За грошы трактары МТЗ малдаване купляць ня хочуць.

**КАРТЫНГАВАЯ ТРАСА** зьявіцца ў Магілёве. Каля яе будзе зона адпачынку з рэстарацыямі, кавярнямі й крамамі. Фінансуюць праект бізнэсоўцы з Партугаліі.

**Сяржук Іваноўскі**

### навіны за тыдзень

#### ВУП і да ВУПу

**Сёлета ў першым квартале ВУП Беларусі вырас на 3,2% у параўнаньні з аналягічным пэрыядам мінулага году (у студзені-лютым 2002 г. гадавы рост склаў 3,1%).** Прамысловая вытворчасьць павялічылася на 2%. Аб'ём сельскагаспадарчай вытворчасьці вырас на 1,8%. Інвэстыцыі ў асноўны капітал узрасьлі на 7%. Уведзена ў эксплюатацыю 634 тыс. кв.м жыльля — гэта на 6% менш, чым у першым квартале 2001 г. Грузазварот транспарту павысіўся на 8,9%, у тым ліку чыгуначнага — на 9,9%. Розьнічны тавараварот у студзені-сакавіку павялічыўся на 15,7%.

#### Штрафы скасавалі

**Вярхоўны суд Беларусі скасаваў пастановы суду Ленінскага раёну Берасьця ў дачыненьні да Васіля Барболіна і Раісы Антанюк,** аштрафаваных за ўдзел у акцыі "Ланцуг неабыякавых людзей" 9 сьнежня 2001 г. Вярхоўны суд прыйшоў да высновы, што берасьцейцы, якія стаялі з партрэтамі зьніклых людзей, "не адлюстроўвалі грамадзка-палітычных, групавых ці асабістых інтарэсаў ці пратэсту, а канстатавалі факт зьнікненьня выяўленых на партрэтах". Спыненая і справа У.Вялічкіна.

#### За новую Беларусь

**15 красавіка ў Маскве быў створаны беларуска-расейскі фонд "За новую Беларусь" — спадкаемца аднайменнай грамадзкай арганізацыі, заснаванай перад выбарамі.** На ўстаноўчым сходзе былі абраныя апякунскі савет і праўленьне фонду. Старшынём апошняга стаў Уладзімер Някляеў. У апякунскі савет увайшлі Васіль Лявонаў, Міхаіл Чыгір, Аляксандар Ярашук, Станіслаў Багданкевіч і Ўладзімер Хілько. Фонд створаны, кажа Лявонаў, каб выправіць памылкі беларускіх палітыкаў, якія занадта спадзяваліся на краіны заходняй дэмакратыі і мала працавалі з Расеяй. Тады як адносіны зь ёй, мяркуе ён, нельга аддаваць "на водкуп аднаму чалавеку". Усе заснавальнікі фонду выступаюць за сувэрэннасьць Беларусі. А з расейскага боку сузаснавальнікамі выступілі шэраг праваабаронцаў і правых палітыкаў.

А Леанід Сініцын і былы кіраўнік РАТ "Адзіныя энэргасыстэмы Расеі" Анатоль Дзьякаў зарэгістравалі ў Маскве "Фонд сацыяльна-эканамічнага партнэрства". Арганізатары фонду маюць дапамагчы разьвіцьцю сувязяў бізнэсоўцаў дзьвюх краінаў.

**Б.Т.**

# Рэфэрэндум па прыватызацыі

Працяг са старонкі 1.

Трэба прадаваць спачатку тыя прадпрыемствы, зь якімі мы ня ведаем, што рабіць. Але ўсё ж наважыліся на такі крок. Чаму? Па-першае, трэба было пераламаць інвэстыцыйную сытуацыю. Па-другое, бяз нафты гэтыя заводы ня маюць каштоўнасьці. Нават Літва ў Мажэйкяі перапрацоўвае расейскую нафту, а не амэрыканскую. Аднак хацелася б, каб прыватызацыя прайшла не цішком, а праз адкрыты тэндэр. Трэба, каб уся працэдура была галоснай і празрыстай для ўсіх грамадзянаў Беларусі. Каб былі абвесткі ў газэтах, каб усё праходзіла ледзь не па тэлевізары.

**Міхась Чарняўскі, гісторык:**

— Рэфэрэндум не патрэбны, бо тады ледзь не па кожным пытаньні трэ будзе ладзіць рэфэрэндумы. А прыватызаваць гэтыя заводы трэба як найхутчэй. І ня дужа важна, чый там будзе капітал. Іншая рэч, што да нас ідзе капітал толькі з адной краіны.

**Станіслаў Шушкевіч, кіраўнік БСДГ:**

— Калі вырашаць гэтае пытаньне на рэфэрэндуме, будзе падобна на больніцу, дзе хворыя праводзяць галасаваньне, як лячыць іншага хворага. Але пытаньне прыватызацыі нафтахімічнага комплексу павінна вырашаць сапраўдная беларуская ўлада. Мусяць быць аднолькавыя ўмовы для ўсяго замежнага капіталу — расейскага, ангельскага, нямецкага... Прэфэрэнцыі могуць існаваць толькі для беларускага капіталу.

**Рыгор Барадулін, народны паэт:**

— Усё ідзе да таго, што рана ці позна Расея ў нас скупіць усё, што захоча. Гэтыя комплексы ў свой час былі нам навязаныя. Але ўжо цяпер, калі яны ў нас сядзяць, як скула, дык хай застаюцца. Я думаю, што паставіць пытаньне на абмеркаваньне варта. Аднак жа ў нас няма законаў, яны ня дзейнічаюць. Таму карысьць ад рэфэрэндуму сумнеўная.

**Радзім Гарэцкі, акадэмік:**

— Рэфэрэндумам такія пытаньні вырашаць нельга. Там улады як захочуць, так і зробяць: мы ўжо ведаем, як праходзяць рэфэрэндумы. Трэба, каб эканамісты разабраліся з гэтым і растлумачылі людзям. У нас жа большасьць слаба разьбіраецца ў такіх пытаньнях. Але трэба, каб вырашалася гэта галосна, а ня нейкай невялічкай кучкай.

**Алесь Гуркоў, уласьнік фірмы "Сотвар":**

— Калі прадпрыемства працуе й прыносіць прыбытак, дык і прыватызацыя не патрэбная — хай працуе на карысьць дзяржавы. А калі стратнае — дык трэба прадаваць. І тады лепей гэта вырашаць рэфэрэндумам, чым кулюарна. Але рэфэрэндум можа быць карысным, толькі калі даць людзям дакладную, праўдзівую інфармацыю пра гэтыя прадпрыемствы.

**Апытваў Аркадзь Шанскі**

### цытата тыдня

У пэрспэктыве Беларусі я бачу бойку Лукашэнкі з Алякпервым. Дык вось я – за Лукашэнку, бо – бачыў я таго Алякперава!..

**Алесь Чобат, публіцыст, Горадня, у гутарцы з карэспандэнтам "НН"**



# Станіслаў Багданкевіч: "Прадаць частку радзімы, каб захаваць свой рэжым"

**Сытуацыю з магчымай прыватызацыяй прадпрыемстваў беларускае нафтахіміі расейскім капіталам камэнтуе былы старшыня Нацбанку Станіслаў Багданкевіч.**



**"НН": Чым выкліканая сёньняшняя актыўнасьць расейскага капіталу ў справе прыватызацыі буйных беларускіх прадпрыемстваў і чаму да гэтага так абыякава ставіцца апазыцыя?**

**С.Б.:** Ініцыятыва продажу нашых элітных прадпрыемстваў нафтахіміі зыходзіць ад беларускага боку. У Беларусі сёньня 47% стратных прадпрыемстваў, нашая прадукцыя неканкурэнтаздольная, пэнсійны фонд пусты. Надышоў сапраўдны фінансавы крызыс. Каб пражыць яшчэ год, улады мусяць або прадаць уласнасьці на 300 млн. даляраў, або зрабіць эмісію грашовых знакаў на гэтую суму. Дапамагчы яшчэ могуць крэдыты, але хто ж іх дасьць?

У краіне на 80% знасілася абсталяваньне прадпрыемстваў. Многія заводы і фабрыкі ператварыліся ў мэталалом. Апазыцыя маўчыць, бо гэта разумее. Але яна настойвае на тым, каб прыватызацыя праводзілася пры шырокай галоснасьці. Каб быў конкурс, у якім мог бы ўдзельнічаць ня толькі расейскі, але й заходні капітал. Каб была канкурэнцыя. Дарэчы, не заўсёды да нас з Расеі прыходзіць уласна расейскі капітал. Як прыклад, тая ж "Балтыка"...

**"НН": Ці задаволіць Лукашэнка "апэтыты" расейскага бізнэсу ў поўным аб'ёме, ці ён будзе працягваць ранейшую гульню?**

**С.Б.:** Я амаль падтрымліваў Лукашэнку, калі ён таргаваўся з расейскім капіталам. Трэба таргавацца. Але Лукашэнка апынуўся ў цяжкой сытуацыі: ягоны эканамічны курс праваліўся, і ён мусіць прадаць частку радзімы, каб захаваць свой рэжым.

**"НН": Ці можа Лукашэнка вынесьці пытаньне пра прыватызацыю на рэфэрэндум?**

**С.Б.:** У нармальнай краіне такія пытаньні павінен вырашаць закон. Мы мусілі б запрасіць экспэртаў з Сусьветнага банку, каб яны ацанілі нашыя прадпрыемствы па аналёгіі зь іншымі краінамі. А супраць той практыкі, якая існуе ў Беларусі цяпер, трэба змагацца. На паперы мы пра гэта пішам. Нашая партыя пісала нават ва ўрад, іншая справа, што адказу не атрымліваем...

Супраць прыватызацыі беларускіх прадпрыемстваў замежным капіталам апазыцыя не павінна выступаць. На сёньня ў Беларусь ня йдзе ня толькі заходні капітал, але й расейскі. Нават у банкаўскай справе доля замежнага капіталу меншая за 10%, зь якіх расейскага — менш як палова. У прыбалтыйскіх краінах цалкам адваротная сытуацыя.

Лукашэнка спачатку абясцэніў усе нашыя заводы, акрамя нафтахімічных, а цяпер ён гэтую элітную вытворчасьць прадае. Між іншым, менавіта яна й карысталася падтрымкай усе апошнія гады. А трэ было спачатку зрабіць адпаведнае заканадаўства, а ўжо потым праводзіць прыватызацыю, прываблівацы капітал з-за мяжы.

**Гутарыў А.Т.**

# Апошні бой "Хартыі"

**Ідэя брэнду "Зубр" прыйшла ў галаву пісьменьніку Адаму Глёбусу. Гады тры таму ў гутарцы з Халезіным і Бандарэнкам ён выказаў меркаваньне, што "Зубром" мусіць называцца афіцыйная партыя Лукашэнкі: "Як у расейцаў — "Мядзьведзь", у беларусаў мусіў быць "Зубр", партыя ўлады". Дзейнасьцю рэальнага, антыўладавага "Зубра" Глёбус не задаволены: "Яны зрабілі з гэтага фарсавы спэктакль. Замест зуброў атрымаліся нейкія цяляткі, падшыванцы. Сутнасьць гэтай арганізацыі цалкам не адпавядае ейнай назьве".**

19 красавіка "Зубр" і "Хартыя'97" праводзяць у Менску марш пратэсту "Так жыць нельга!". Яе ініцыятары мяркуюць, што акцыя мае вялікае значэньне. Па словах актывіста "Зубра" Цімоха Дранчука, асноўная мэта акцыі — "прымусіць Лукашэнку выканаць перадвыбарныя абяцаньні: кампэнсаваць уклады насельніцтва ў банках, падняць узровень пэнсіяў і заробкаў" і "рэзка падвысіць дабрабыт народу". На думку Дранчука, акцыя гэтаму якраз дапаможа.

"Хартыя'97" была заснаваная ў лістападзе 1997 г. Яна задумвалася як "каардынацыйны цэнтар беларускай апазыцыі". Асноўнай мэтай ейнай дзейнасьці абвяшчалася аднаўленьне ў краіне законнасьці на аснове Канстытуцыі 1994 г. Пад зваротам да беларускага народу, ініцыяванага "Хартыяй'97", паставілі свае подпісы Васіль Быкаў, Павал Шарамет, Станіслаў Шушкевіч, Юры Хадыка, Рыгор Барадулін... Арганізатары заклікалі ўсіх беларускіх грамадзянаў паставіць свае подпісы пад зваротам "Хартыі'97", незалежныя газэты друкавалі лічыльнік з колькасьцю падпісантаў.

Аўтар звароту "Хартыі'97" палітоляг Уладзімер Мацкевіч лічыць, што "сапраўдная" "Хартыя" праіснавала толькі тры месяцы. Пасьля ж ён пабачыў, што Андрэй Саньнікаў і Зьміцер Бандарэнка "хочуць сфармаваць арганізацыйную структуру", а не ўзгадняць дзеяньні "розных палітычных суб'ектаў". Таму Мацкевіч упэўнены, што грамадзянскай ініцыятывы ў тым выглядзе, у якім яна задумвалася, даўно няма.

"Хартыстаў" узначальвалі Мікалай Халезін, Зьміцер Бандарэнка, Алег Бябенін, Андрэй Саньнікаў, Людміла Гразнова. Сапраўды, "Хартыя'97" ня стала масавым рухам, як плянавалася. Ня стала яна і адпаведнікам чэхаславацкай "Хартыі'77", якая ў часы савецкай акупацыі ачоліла праваабарончы рух.

На думку Валера Булгакава, асноўнай праблемай "Хартыі" было тое, што, апынуўшыся на першых ролях сярод апазыцыйных палітычных сілаў, яна выразна арыентавалася на расейскамоўную сярэднюю клясу, расейскамоўную інтэлігенцыю. Тым самым "Хартыя" расколвала адзінства апазыцыі, якая спавядала большую прыхільнасьць да нацыянальных каштоўнасьцяў.

"Хартыя" асноўную ўвагу надавала разьвіцьцю міжнародных сувязяў (за гэты напрамак адказваў Андрэй Саньнікаў, былы намесьнік міністра замежных справаў Беларусі), разбудове інтэрнэт-рэсурсу (Алег Бябенін). Час ад часу "Хартыя" ладзіла пікеты, выпускала ўлёткі, распрацоўвала дызайн апазыцыйных імпрэзаў. Чаго бракавала "Хартыі" — дык гэта ўласнай разгалінаванай структуры. Таму ўвосень 2000 г. у яе ўзьнікла ідэя стварэньня моладзевай арганізацыі, неафіцыйна падпарадкаванай "Хартыі" ды залежнай ад яе фінансава. Перад "хартыстамі" быў сьвежы прыклад Сэрбіі, дзе моладзевы рух "Адпор" стаў галоўнай сілай рэвалюцыі. Заходнія палітычныя тэхналёгіі было вырашана выпрабаваць на беларускай глебе.



IREX-PROMEDIA

"Зубры": сядзім мы перад будучыняй нашай

І ў студзені 2001 г. быў заснаваны "Зубр". Аўтарам назвы арганізацыі найчасьцей называюць журналіста Мікалая Халезіна. Між тым, яшчэ тры гады таму гэтая ідэя прыйшла ў галаву пісьменьніку Адаму Глёбусу. У гутарцы з Халезіным і Бандарэнкам ён выказаў меркаваньне, што "Зубром" мусіць называцца афіцыйная партыя Лукашэнкі: "Як у расейцаў — "Мядзьведзь", у беларусаў мусіў быць "Зубр", партыя ўлады". Дзейнасьцю рэальнага, антыўладавага "Зубра" Глёбус цалкам незадаволены: "Яны зрабілі з гэтага фарсавы спэктакль. Замест зуброў атрымаліся нейкія цяляткі, падшыванцы. Сутнасьць гэтай арганізацыі цалкам не адпавядае ейнай назьве".

Едучы ў студзені 2001 г. у Белавескую пушчу на двухдзённы ўстаноўчы сход арганізацыі, Халезін, Бандарэнка і Бябенін ужо вырашылі пытаньне з назвай арганізацыі — "Зубр". У Белавескую пушчу былі запрошаныя прадстаўнікі грамадзкіх арганізацый з многіх рэгіёнаў Беларусі — каля 40 чалавек. Першая акцыя мусіла адбыцца праз месяц пасьля стварэньня "Зубра". За гэты час трэ было падрыхтаваць каляровыя налепкі, масава расьпісаць сьцены й платы надпісамі "Зубр", стварыць рэгіянальныя аддзелы.

Праблемы пачаліся ад самага пачатку. Частка людзей з тых 40 амаль адразу адышла ад арганізацыі. Некаторыя спалохаліся актыўнай дзейнасьці "Зубра", іншыя і так добра пачуваліся ў сваіх арганізацыях ды не хацелі ўскладняць адносінаў з уладамі, нехта з-за свайго характару проста ня ўліўся ў калектыў. Невялікі адток людзей працягваўся й надалей. Але ён на фоне энтузіязму й вялікай колькасьці навабранцаў вясны-лета 2002-га быў незаўважны.

Да "Зубра" далучылася частка актывістаў БПС. Дэлегаваў у "Зубр" частку сваіх людзей і "Край". З "Маладога фронту" ў "Зубр" не перайшоў амаль ніхто.

"Хартыя" бачыла сябе кіроўным органам апазыцыі, а "Зубру" адводзілася роля галоўнай ударнай і мабілізацыйнай сілы. Мусіла спрацаваць сэрбская схема.

9—10 верасьня некалькі соцень "зуброў" на чале са сваімі камандзірамі стаялі да канца. Раніцай 10 верасьня яны пабачылі, што засталіся ў адзіноце. "Сэрбскага варыянту " не атрымалася, рэвалюцыя не адбылася. У выніку "байцы" мусілі пакінуць нікому не патрэбны Палац прафсаюзаў...

"Зубр" быў створаны "пад выбары". Пра ягоную будучыню ў выпадку паразы ніхто ня думаў, як і пра саму паразу. Таму пасьля 10 верасьня быў пэрыяд разгубленасьці і нявызначанасьці. Частка камандзіраў "Зубра" адправіліся ў адпачынак на Чорнае мора. "Хартыя" чакала рэакцыі ўладаў: не выключаўся, у выпадку хвалі рэпрэсіяў, варыянт эміграцыі (але не спыненьня палітычнай дзейнасьці). Лёс "Зубра" вырашыўся дзесьці ў кастрычніку 2001-га, калі было прынятае рашэньне яго захаваць. Аднак арганізацыя раставала: параза на выбарах, расчараваньне й апатыя моладзі, адсутнасьць грошай у касе... Ня дзіва, што да студзеня 2002-га "Зубр" зьменшыўся практычна да тых самых 40 чалавек, што былі напачатку...

Трэ было нешта рабіць. І кіраўнікі "Зубра" вырашылі распачаць сацыяльную кампанію. У сакавіку Зьміцер Бандарэнка, Мікалай Халезін, Валеры Шчукін, Юры Хашчавацкі, Цімох Дранчук абвясьцілі пра акцыю "Так жыць нельга!", прымеркаваную да 19 красавіка. Многія загаварылі пра тое, што яна расьцярушыць апазыцыйныя сілы й зьменшыць колькасьць удзельнікаў "Чарнобыльскага шляху". Аднак "Хартыя" палічыла, што трэба самастойнай акцыяй паказаць свой мабілізацыйны патэнцыял. І стаўку ў гэтай "дэманстрацыі сілы" яна зрабіла на "Зубр". Акцыяй 19-га "Хартыя" хоча даказаць, што яна ня толькі жывая, але і мае ранейшы творчы і арганізацыйны патэнцыял. Вось толькі каму даказаць?

"Хартыя" перастае быць сыстэмным элемэнтам дэмакратычнай апазыцыі і спрабуе намацаць сабе новую нішу. А інтарэс пэўных палітычных элітаў да гэтай зьявы беларускай палітыкі ёсьць. Гэты інтарэс — зарука яе існаваньня. Новы імпульс для дзейнасьці яна атрымае з самага непрадказальнага боку. Сам факт, што рэкляма акцыі 19 красавіка выключна расейскамоўная, шмат пра што кажа.

**Мікола Бугай**

**Каардынатар "Хартыі'97" Зьміцер Бандарэнка адказаў на пытаньні "НН" напярэдадні акцыі "Так жыць нельга!".**

**"НН": Чаму "так жыць нельга", калі ў краіне ў першым квартале ВУП вырас на 3,2%?**

**З.Б.:** Ня ведаю, наколькі можна давяраць гэтым афіцыйным лічбам. У савецкія часы таксама ўсё было добра. Мы ж бачым, што рэзка зьнізілася рэнтабэльнасьць, напаўненьне бюджэту складае толькі 50% ад заплянаванага. Выплата пэнсіяў і заробкаў затрымліваецца нават у Менску. Адным словам, абяцанкі-цацанкі.

**"НН": Чаму ўся рэкляма акцыі "Так жыць нельга!" расейскамоўная?**

**З.Б.:** Я не адказваю за рэкляму, але ведаю, што ёсьць налепкі і беларускамоўныя, нават відэафільм.

## Кнігі поштай

| Назва | Цана |
|---|---|
| **ARCHE-Пачатак** 2000, №7 "Слоўнік свабоды" | 1500 р. |
| **ARCHE-Пачатак** 2000, №9 "Мэдыцына" | 1500 р. |
| **ARCHE-Пачатак** 2001, №2 "Народны нумар" | 1750 р. |
| **ARCHE-Пачатак** 2001, №5 "Украінскі нумар" | 3500 р. |
| **ARCHE-Скарына** 2000, №3 | 1000 р. |
| **ARCHE-Скарына** 2000, №6 | 1000 р. |
| **ARCHE-Скарына** 2000, №8 | 1000 р. |
| **ARCHE-Скарына** 2001, №4 | 1000 р. |
| **ARCHE-Скарына** 2001, №6 | 1000 р. |
| **Vostraja Brama 0: Глёбус Адам.** "Post Scriptum". 176 с. | 2600 р. |
| **Vostraja Brama 1: Быкаў Васіль.** "Пахаджане". 192 с. Кніга прыпавесьцяў, напісаных за час побыту пісьменьніка ў Фінляндыі і Нямеччыне | 2600 р. |
| **Vostraja Brama 3: Лукашук Аляксандар.** "У фіялетавай ночы вугал крыла". 160 с. Кніга пра БССР 80-х. Працуючы ў галоўнай партыйнай газэце "Звязда", аўтар шмат назіраў за паводзінамі вялікага і малога начальства, а таксама звычайнага "гома саветыкуса" | 2600 р. |
| **Vostraja Brama 5: Глёбус Адам.** "Браслаўская стыгмата". 192 с. Новая кніга Адама Глёбуса, якую склалі апавяданьні апошніх гадоў | 2600 р. |
| **Беларуская палітычная сыстэма і прэзыдэнцкія выбары 2001 г.** 480 стар. Зборнік артыкулаў, падрыхтаваных аналітычнай групай (Менск) і Цэнтрам дэмакратыі ва Ўсходняй Эўропе (Варшава), пад рэд. Валер'я Булгакава | 3000 р. |
| **Беларускі гістарычны агляд.** Том. 6. 400 с. Часопіс | 1000 р. |
| **Беларускія маршы і песьні.** 62 с. Зборнік патрыятычных песень з нотамі | 1000 р. |
| **Быць альбо ня быць сярэднеэўрапейцам.** Сучаснае польскае мысьленьне. 472 с. Кніга дае ўяўленьне пра сучасную гуманітарную сытуацыю ў Польшчы, знаёміць чытача зь перадавым эўрапейскім інтэлектуальным досьведам і заахвочвае яго да самастойных разважаньняў і высноваў | 1800 р. |
| **Дубавец Сяргей.** "Дзёньнік прыватнага чалавека". 80 с. | 1000 р. |
| **Дударочак.** Дзіцячыя песьні. 44 с. | 500 р. |
| **Ёрш Сяргей.** "Усевалад Родзька. Правадыр беларускіх нацыяналістаў". 36 с. Брашура прысьвечана асобе старшыні Беларускай незалежніцкай партыі, маёру Беларускай краёвай абароны й кіраўніку Беларускай вайсковай арганізацыі Ўсеваладу Родзьку | 1 200 р. |
| **Нацыяналізм у сьвеце (частка другая).** 54 с. Брашура пра нацыяналістычныя рухі Эстоніі, Аўстрыі, Харватыі, Італіі, Японіі, Літвы, Мэксыкі, Палестыны, Курдыстану, Краіны Баскаў | 840 р. |
| **Паліталёгія.** Асноўны курс. 680 с. Перакладзены зь нямецкае мовы фундамэнтальны падручнік паліталёгіі, напісаны прафэсарамі паліталёгіі ўнівэрсытэтаў Франкфурту-на-Майне, Бэрліну, Мюнстэру і г.д. | 3600 р. |
| **Трагедия на Немиге.** Факты. Свидетельства. Комментарии. 608 с., цьвёр.вокл. Кніга падрыхтаваная Праваабарончым цэнтрам "Вясна" пры дапамозе Цэнтру сацыяльнай абароны "Няміга-99" | 1000 р. |
| **Харэўскі Сяргей.** "Зьвяры-суайчыньнікі". 92 с. Кніжка прапануе чытачу незвычайны погляд на жывёльны сьвет Беларусі. Прадмову напісаў Уладзімер Арлоў | 500 р. |

Цэны ў каталёгу – для Менску. Для рэгіёнаў прадугледжаныя зьніжкі (30% для распаўсюднікаў і аптовых пакупнікоў, 15% для прыватных асобаў). Да супрацоўніцтва запрашаюцца таксама выдаўцы, зацікаўленыя ў распаўсюдзе сваёй прадукцыі сыстэмай "Кнігі-поштай".

**Кантакт: п/с 537, Менск, 220050; пэйдж.: 289-12-12 аб.116-133; e-mail: exlibris@tut.by**

## КОНКУРС "ГІСТОРЫЯ З ПАШТОВАЙ СКРЫНІ"



**Грамадзкае аб'яднаньне "Дыярыюш"** пры ўдзеле ТБМ і ТБШ абвяшчае конкурс "Гісторыя з паштовай скрыні". У ім могуць браць удзел вучні сярэдніх навучальных установаў (з 7-й клясы) – школаў, ліцэяў, гімназіяў, – а таксама навучэнцы каледжаў, ПТВ, тэхнікумаў (да 19 год).

**Форма конкурснай працы адвольная:** сачыненьне, эсэ, інтэрвію, фільм і інш. Калі праца нятэкставая (аўдыё-, відэа-, фатаздымкі), да яе трэба далучыць тэкставы камэнтар. Праца мусіць быць напісаная па-беларуску, яе можна выконваць індывідуальна альбо групай, самастойна альбо з куратарам. Да працы абавязкова мусіць быць далучаная анкета ўдзельніка з прозьвішчам, імем удзельніка, ягонымі каардынатамі і назвай працы, а таксама з прозьвішчам, імем і каардынатамі кіраўніка (пры яго наяўнасьці).

**Працы прымаюцца да 30 верасьня 2002 г.** (дата вызначаецца па паштовым штэмпэлі). Дасылайце іх на адрас: "Блізкая гісторыя", а/с 128, 220064, Менск.

**Вынікі конкурсу будуць абвешчаныя 30 лістапада 2002 г.** Пераможцаў чакаюць прызы! Дадатковую інфармацыю, парады і брашуру, у якой падрабязна выкладзеныя ўмовы, можна атрымаць ад сакратаркі конкурсу Ірыны Коваль **(т. (8-017) 227-51-09, e-mail: office@dyjaryush.org.by).**

# 33 гадзіны бяз Чавэса

Працяг са старонкі 1.

Пасьля жорсткага сутыкненьня з прыхільнікамі прэзыдэнта невядомыя адкрылі агонь па дэманстрантах з дахаў, у выніку чаго 13 чалавек загінулі, а сотня была параненая. Чавэса арыштавалі, вывезьлі на вайсковую базу на востраве Ля-Архіля. Было абвешчана, што ён выракся ўлады, прасіўся на Кубу, але яго не пусьцілі.

Наранiцу ў краіне зноў было спакойна. На чале часовага ўраду стаў лідэр прадпрымальнікаў Вэнэсуэлы Пэдра Кармона. Але к вечару ў цэнтар Каракасу пачалі сьцякацца дзясяткі тысячаў жыхароў бедных кварталаў (у Вэнэсуэле 40% насельніцтва жыве за мяжой галечы). Чавэс — кумір беднякоў, бо ён стаў першым прэзыдэнтам краіны, які разгарнуў маштабную праграму будаўніцтва бясплатнага жытла. У суботу некалькі сотняў тысяч прыхільнікаў "народнага абаронцы" прарвалі кардоны путчыстаў, захапілі прэзыдэнцкі палац, тэлецэнтар і шэраг іншых ключавых будынкаў. Зноў 9 чалавек загінула, дзясяткі былі параненыя. Генэралы-путчысты не рашыліся вывесьці свае войскі супраць часцей, верных Чавэсу. Кармона быў вымушаны скласьці зь сябе паўнамоцтвы.

У нядзелю ўраньні Чавэс урачыста — пад вітальныя воклічы сваіх прыхільнікаў і граньне вайсковага аркестру — крочыў па прыступках Мірафлёрэс. Праз пару гадзінаў 5 галоўных генэралаў-хунтыстаў разам з Кармонам былі арыштаваныя. Уга Чавэс заклікаў грамадзтва да яднаньня і ўтварыў Найвышэйшую ўрадавую раду, якая мусіць "пракласьці шлях да дыялёгу". Хоць "вэнэсуэльскі Лукашэнка" і паабяцаў не паляваць на вядзьмарак, у панядзелак арышты сярод вайскоўцаў-бунтаўнікоў зрабіліся масавымі. У часе ўрачыстага прыняцьця прысягі Чавэс заявіў, што будзе справядлівым да змоўшчыкаў, але ня дасьць сябе зацкаваць, як гэта калісьці зрабілі з выз-



Пэдру Кармону, які ўзначаліў пераварот, пасьля двухдзённага зьняволеньня перавялі пад хатні арышт

валіцелем Вэнэсуэлы ад гішпанцаў Баліварам. Той, абылганы і пакінуты, памёр у выгнаньні ў 47 гадоў. Чавэсу сёлета столькі ж.

### Кантынэнт генэралаў

Лацінскую Амэрыку часта ўспрымаюць як рэгіён, дзе ці не штодня адбываюцца перавароты, выкрываюцца змовы, да ўлады прыходзяць партызаны-камуністы. У адной толькі Балівіі за няпоўныя 200 гадоў путчаў ды зьвярженьняў было пад 40. І амаль заўжды — вайскоўцы: маёры, палкоўнікі, генэралы, чырвоныя, карычневыя, чорныя. Чаму ўся лацінаамэрыканская гісторыя замяшаная на мілітарызьме?

Першапрычына тут у надзвычайным прэстыжы вайсковай службы ў лацінаамэрыканскіх грамадзтвах. Для карэннага індзейскага насельніцтва вайсковая кар'ера доўгі час была адзіна магчымай. Культ зброі й мундыру тым слабейшы, чым менш нашчадкаў карэннага насельніцтва жыве ў краіне. У Аргентыне, краіне імігрантаў, пасьля сыходу ў 1982 г. хунтыстаў, заплямленых крывёю 30 тыс. забітых, вайсковая кар'ера стала лічыцца за адну з самых ганебных, а тэрміновая служба была замененая на прафэсійнае войска. У Коста-Рыка, дзе крэолы, нашчадкі гішпанскіх імігрантаў, складаюць больш за 80% насельніцтва, войска няма зусім — там швайцарская сыстэма абароны. А ў Вэнэсуэле 80% нясуць у сабе кроў абарыгенаў.

### Vox populi, vox Chavezi

Уга Рафаэль Чавэс Фрыяс — Лукашэнкаў аднагодак, нарадзіўся ён у незаможнай сям'і 28 ліпеня 1954 г. Яго прадзед Майсанта быў камандзірам вэнэсуэльскае партызанкі ў 1920-я і давёў да сьмерці тагачаснага кіраўніка краіны Сыпрыяна Кастра.

У юнацтве Уга марыў стаць бэйсбалістам, але ў прафэсійны спорт не пайшоў: зьявіліся іншыя пляны. У 1975 г. ён скончыў Вайсковую акадэмію. У лютым 1989 г. адбываецца т.зв. "*caracazo*" — "каракаскі бунт": народ, незадаволены прыняцьцем чарговага пакету жорсткіх нэалібэральных рэформаў, выйшаў на вуліцы. Пэрэс загадаў ужыць зброю, і ад рук ахоўнікаў парадку загінула больш за тысячу чалавек. 4 лютага 1992 г. група вайскоўцаў з Чавэсам на чале зрабілі няўдалую спробу дзяржаўнага перавароту, каб кінуць прэзыдэнта Пэрэса, але й Пэрэсу праз год быў абвешчаны імпічмэнт.

Яшчэ праз год Чавэс быў вызвалены з турмы. Цікава, што Фідэль Кастра — "мой настаўнік", як заве яго вэнэсуэльскі прэзыдэнт, — у свой час таксама адседзеў толькі два гады з свайго тэрміну, атрымана за штурм казармы Манкада. На судзе Кастра скончыў прамову сваю абарону словамі "Гісторыя мяне апраўдае" і праз шэсьць год зьдзейсьніў на Кубе рэвалюцыю. Столькі ж год ішоў да ўлады і Чавэс, ды ня тым шляхам, што Фідэль: у сьнежні 1998 г. 56% вэнэсуэльцаў аддалі свае галасы таму, хто здолеў падслухаць няхітры *vox populi*: галоўным лёзунгам Чавэса была бязьлітасная барацьба супраць сацыяльнае няроўнасьці й карупцыі.

Адным зь першых крокаў пераможцы сталася рэфармаваньне Канстытуцыі, якое Чавэс назваў вяртаньнем да часоў Сымона Балівара. Новы Асноўны закон фармальна пашырыў дэмакратычныя свабоды: выбаршчыкі атрымалі права адклікаць дэпутатаў, быў зацьверджаны аднапалатны парлямэнт, абвешчанае права на бясплатную базавую адукацыю і медыцынскае абслугоўваньне, дэклараваласся абарона правоў індзейскага насельніцтва, жанчынаў і дзяцей. Адначасова Чавэс умацаваў свае пазыцыі.

Народная вера ў народнага прэзыдэнта ды байкатаваньне выбараў апазыцыяй (галасавалі толькі 47%) прывялі да таго, што ў новым парлямэнце (Нацыянальным сходзе!) 90% крэслаў належала "чавістам". Гэта дазволіла Чавэсу зацьвердзіць сябе на прэзыдэнцкай пасадзе ажно да 2006 г.

Былы дэсантнік увесь час атакуе алігархію, касьцёл, нячэсных масмэдыі, абвясьціў сябе шчырым прыхільнікам антыглябалісцкага руху. Ня толькі ў Вэнэсуэле, але й ва ўсёй Лацінскай Амэрыцы няма людзей, якія б ставіліся да Чавэса абыякава: на яго або моляцца, або ненавідзяць, зь яго сьмяюцца, але ягонымі парадамі спрабуюць выправіць памылкі.

Чавэс пасунуў сьсівелага Кастра з п'едэсталу самага калярытнага лацінаамэрыканскага лідэра. Калярыт падмацоўваецца вэнэсуэльскімі запасамі "чорнага золата". Краіна зьяўляецца чацьвертым у сьвеце экспартэрам нафты. Дзякуючы дыпляматычным увіхаьням Чавэса ў межах *АПЭК* (Арганізацыя краінаў-экспартэраў нафты) цэны на яе значна ўзьняліся. (Для



Вярніце нам нашага прэзыдэнта!

Беларусі лепш, каб Чавэс сышоў: патаньнее нафта. Аднак пры гэтым, зь іншага боку, зьнізіцца пакупніцкая здольнасьць расейцаў, якім Беларусь прадае большую частку гатовае прадукцыі.) Разумеючы каштоўнасьць нафтавай галіны, прэзыдэнт Чавэс нацыяналізаваў яе. Буйная буржуазія ў адказ пачала вывозіць з краіны мільярды даляраў.

### Амэрыканскі сьлед

Адразу пасьля перавароту мала хто асумняваўся, што ад путчу цягне духам ЦРУ. Старога жорсткага ЦРУ. Ужо не таго асьцярожнага, у белых пальчатках, якім яно стала ў часы Клінтана. "*New York Times*" апублікавала матэрыял, у якім Вашынгтон прызнаў, што цягам колькіх месяцаў перад путчам яговыя верхаводы сустракаліся з супрацоўнікамі адміністрацыі Буша (апошняя сустрэча адбылася за 4 дні да перавароту).

Вэнэсуэльскі прэзыдэнт рэзка крытыкаваў "разбэшчаны нэалібэральны капіталізм" і "амэрыканскі імпэрыялізм". Але пры гэтым палітыка Чавэсавага ўраду не пярэчыць лініі капіталістычнага разьвіцьця краіны. Рэжым Чавэса падтрымлівае буйны капітал (але "свой"), заплюшчваючы вочы на відавочныя фінансавыя махлярствы верных яму бізнэсоўцаў.

Пры гэтым Чавэс любіць ладзіць паказальныя працэсы над сваімі паплечнікамі.

Чавэс шмат чым не падабаецца Вашынгтону. Вэнэсуэла — насуперак патрабаваньням Белага дому — аднавіла гандлёвыя зносіны з Кубай. Чавэс навязаў стасункі і з адыёзнымі Муамарам Кадафі і Садамам Хусэйнам, даў палітычны прытулак зьбегламу шэфу пэруанскіх спэцслужбаў Уладзімеру Мантэсынасу, дапамагаў калюмбійскім партызанам з Рэвалюцыйных узброеных сілаў (*FARC*). Калі ж 11 верасьня абрынуўся Сусьветны гандлёвы цэнтар, Чавэс заявіў, што амэрыканцы самі гэта заслужылі, а штатаўскую інтэрвэнцыю ў Аўганістан назваў тэрарыстычнай імпэрыялістычнай вайной.

Ніхто да канца ня ведае, хваравітыя амбіцыі ці шчырае прастадушша кіруюць гэтым карыбскім мядзьведзем-бэйсбалістам, у шырыні абдымкаў якога колісь сумеўся нават мядзьведзік-дзюдаіст Пуцін. Калісьці Чэ Гевара сказаў: "альбо рэвалюцыя сацыялістычная, альбо карыкатура на рэвалюцыю". І гэта, бадай, пра Чавэса.

**Анатоль Прасаловіч**

**Больш пра Чавэса — у эсэ Габрыеля Гарсія Маркеса "Два твары Уга Чавэса" ў №33 за 2001 г.**

# Багушэвіч нарадзіўся тут

**6 красавіка аўтобусік зь віленскімі беларусамі і гасьцямі зь Менску ад'ехаў ад чыгуначнай станцыі і рушыў па старой менскай дарозе ў кірунку Меднікаў. Неўзабаве ён спыніўся ля сядзібы на ўскрайку Сьвіранаў, якія цяпер у Літве завуцца *Svironų Kaimas*. Людзі выйшлі з аўтобусу, але ў хату не сьпяшаліся — засталіся на панадворку, хоць было па-зімоваму сьцюдзёна і нават церушыў сьнег. Распакавалі прывезеное начыньне, застукалі малаткамі.**

**Гэтак пад Вільняй, на радзіме Францішка Багушэвіча, зьявілася яшчэ адна мэмарыяльная шыльда ў гонар паэта. Белая мармуровая дошка з барэльефам і надпісам беларускай лацінкай упрыгожыла хату, што стаіць на месцы фальварку Багушэвічаў.**

**Старыя гаспадары тае хаты Філіповічы ведаюць і памятаюць пра Багушэвіча. Цяпер жывы толькі стары гаспадар, але ён ужо зусім нямоглы, і яго даглядае дачка Марыя, якая адмыслова дзеля бацькі перабралася сюды зь Вільні. Марыя Філіповіч-Ранцавене ветліва сустрэла гасьцей, запрасіла прыязджаць яшчэ ды сказала, што пасьля, як пацяплее, сама высадзіць кветкі і зробіць дарожку.**



**Побач, у вёсцы Савічуны, на будынку вясковай бібліятэкі ўжо ёсьць мэмарыяльная дошка ў гонар паэта на трох мовах — літоўскай, беларускай і польскай. Сама вуліца, дзе стаіць будынак бібліятэкі, названая імем Багушэвіча.**

**Тацяна Каротчанкава, Вільня**




## міжнародныя навіны

### З турмы ў Раду

**Былы лідэр УНА-УНСО Андрэй Шкіль у мінулую пятніцу быў вызвалены з-пад варты** проста ў залі суду, бо, пакуль сядзеў у турме, набыў дэпутацкую недатыкальнасьць: яго абралі ў Вярхоўную Раду Ўкраіны. Арыштавалі яго летась у Кіеве за удзел у "кучмагейце".

### Крытыкуйма Буша!

**"Заклікаем эўрапейцаў крытыкаваць палітыку прэзыдэнта Буша", — напісалі ў лісьце, адрасаваным эўрапейскім СМІ, 128 амэрыканскіх інтэлектуалаў** — пісьменьнікаў, журналістаў, грамадзкіх дзеячаў. На іх думку, "бальшасьць амэрыканцаў недастаткова інфармаваныя пра небясьпеку ваеннага шляху, які абрала Бушава адміністрацыя". Аднак "любая крытыка глушыцца, паколькі СМІ адразу абвяшчаюць яе антыамэрыканскай". Сярод тых, хто падпісаў ліст, вядомы пісьменьнік Гор Відал. Гэтае пісьмо — адказ на ліст 60 інтэлектуалаў ЗША ў падтрымку вайны з тэрарызмам.

### 50 мільёнаў за пяць гадоў

**Былы прэзыдэнт Парагваю Хуан Карляс Васмосі, што кіраваў краінай з 1993 па 1998 г., атрымаў чатыры гады турмы** за махлярства, у выніку якога ён прысвоіў 50 млн. даляраў.

### Чад і ЦАР памірыліся

**Прэзыдэнты Чаду і Цэнтральна-Афрыканскай Рэспублікі Ідрыс Дэбі і Анж-Фэлікс Патасэ дамовіліся пра спыненьне пагранічнага канфлікту.** Адносіны паміж дзьвюма былымі францускімі калёніямі абвастрыліся летась у лістападзе, калі пасьля няўдалага перавароту ў ЦАР змоўшчыкі ўцяклі ў Чад. У часе канфлікту працўнікі часам выкарыстоўвалі атручаныя стрэлы.

### Леў на волі

**У пятніцу а 17-й у падмаскоўным горадзе Адзінцова з вальеры перасоўнага цырку "Зорка" ўцёк леў.** На вуліцы ён напаў на 16-гадовую дзяўчыну. Дрэсіроўшчыкі, што прыбеглі, пачуўшы крык, адратавалі яе. Аднак зьверына пасьпела яе моцна пагрызьці.

### Паглядзіце на Ікея—Жанг

**У ваколіцах Сонца цяпер знаходзіцца камэта Ікея—Жанг.** Яна будзе відаць няўзброеным вокам усю ноч да сярэдзіны траўня. Камэту адкрылі 1 лютага два астраномы-аматары. Адзін зь іх, Каору Ікея з Японіі, — вядомы "паляўнічы на камэты". У 1963—67 г. ён адкрыў іх аж 5 і праз 35 год зноў упісаў сваё імя ў гісторыю астраноміі. Камэта Ікея—Жанг ужо залятала ў Сонечную сыстэму ў 1661 г.

**Б.Т.**

# з усёй краіны

## На Аршаншчыне — нафта

**ВА "Белгеалёгія" разглядае магчымасьць эксплюатацыі радовішчаў бурага вугалю ў Дубровенскім раёне, запасы якога складаюць 26 млн. тонаў.** Таксама разглядаецца мэтазгоднасьць здабычы нафты на тэрыторыі Аршанскай упадзіны. Дзеля гэтага "Белгеалёгія" пляную сёлета правесьці там сэйсьмічныя дасьледаваньні ды зрабіць адну парамэтрычную сьвідравіну.

## Перасяляюць у вёскі

**Наваполацкі цэнтар занятасьці вырашае праблему беспрацоўя, расьсяляючы ахвотных па вёсках Дубровенскага, Браслаўскага, Дзісенскага ды Глыбоцкага раёнаў.** Перасяленцам выплачваецца дапамога ў памеры пяці "бюджэтаў пражытачнага мінімуму". Летась у вёскі пераехала 20 сем'яў.

## Новы асфальтабэтон

**Віцебскі дарожны трэст №1 першым у краіне паклаў у палатно маскоўскай трасы, якая праходзіць празь Беларусь, 400 тонаў выробленага ім новага асфальтабэтону падвышанай трываласьці.** Траса М1/Е30 бярэ на сябе найбольшую частку транзытных перавозак на Маскву, і яе палатно не вытрымлівае інтэнсіўнага руху цяжкіх "фураў". Дык дарожнікі прыдумалі падмешваць у асфальт для моцы цэлюлёзу з друзавай мастыкай.

## Уніяты ў Воршы

**Штонядзелю а 15-й у Аршанскім касьцёле Сьв.Язэпа адбываецца ўніяцкая імша.** Служыць яе айцец Зьміцер Грышан зь Віцебску. Аршанская грэка-каталіцкая грамада — трэцяя на Віцебшчыне (яшчэ ўніяты ёсьць у самім Віцебску і ў Полацку). Скантактавацца з аршанскімі грэка-каталікамі можна па т. 22-4-41.

**Міхал Чарвінскі, Віцебск**

## Зачыняюць выцьвярэзьнікі

**Менскі гарвыканкам вырашыў пакінуць у сталіцы толькі адзін мэдвыцьвярэзьнік — у Маскоўскім раёне.** Астатнія будуць зачыненыя. Тлумачаць такія зьмены эканамічнай немэтазгоднасьцю ўтрымліваць столькі выцьвярэзьнікаў і... зьмяншэньнем колькасьці п'яных. Але спэцыялісты-наркалягі лічаць гэтае рашэньне пасьпешлівым.

## Балацізацыя

**Лельчыцкі райвыканкам вырашыў ператварыць больш за 1000 гектараў ворыва ў балоты.** Гэтыя землі даўно ўжо амаль не давалі ўраджаю. Да 2005 г. яшчэ 4 тыс. гектараў ворыва выведуць з ужытку. Частку зямлі засадзяць лесам.

## Шанцаў асуджаны за валюту

**Старшыню магілёўскай абласной арганізацыі АГП Уладзімеру Шанцаву далі 500 тыс. рублёў штрафу за продаж валюты прыватнай асобе.** У Шанцава канфіскавалі 1500 даляраў. Ён сваёй віны не прызнае і кажа, што проста гутарыў з валютчыкам — сваім колішнім калегам.

## Злавіў кабету

**Участковы міліцыянт з Гомелю злавіў 40-гадовую кабету, якая скочыла зь сёмага паверху.** Кабета вырашыла забіцца, нацярпеўшыся ад мужа-алькаголіка. Міліцыянт стаяў на бальконе паверхам ніжэй і спрабаваў адгаварыць яе. Калі жанчына скочыла, участковы схапіў яе за сьцёгны і ўсьцягнуў на балькон. Самагубца не пераважыла міліцыянта, бо таго трымала за ногі мажная суседка.

## Па выходных — даражэй

**За адну паездку ў выходныя і сьвяточныя дні на ўсіх глыбоцкіх аўтобусных маршрутах давядзецца плаціць не 120, а ўжо 240 рублёў.** На такія непапулярныя меры пайшоў мясцовы аўтапарк, калі апынуўся ў цяжкім матэрыяльным становішчы. Мінулы год прынёс транспартнікам 32,9 млн. рублёў страт.

**Паводле "Вольнага Глыбокага"**

## Паляць траву — гараць кнігі

**У вёсцы Макровічы (Бялынічычына) згарэла бібліятэка.** Занялася яна ад сухой травы, якую хтось паблізу падпаліў. Сапсаваныя практычна ўсе 5 тысячаў бібліятэчных кніжак: што згарэла, што заліта вадой. Цяпер кніжны фонд давядзецца камплектаваць наноў.

## Забілі ў краме

**У тыя выходныя ў Крычаве хавалі тутэйшага жыхара, забітага ў Санкт-Пецярбурзе: зайшоў у звычайную харчовую краму ды трапіў пад бандыцкую перастрэлку.** У Пецярбург ён паехаў быў на заробкі: працаваў на будоўлі, меў нядрэнныя грошы.

**Андрэй Кузьмін, Крычаў**

## Абраімаўскі волат

**Дрыбінскі райвыканкам абвясьціў сасну "Абраімаўскі волат" батанічным помнікам мясцовага значэньня.** Цяпер вакол дрэва забароненая любая дзейнасьць, якая можа яму нашкодзіць. Вышыня хвоі складае больш за 25 мэтраў, дыямэтар ствала — 1,8 м, а верхавіна раскінулася на плошчу 30 кв.м.

**"Савецкая вёска", Дрыбін**

## Музыка пры сьвечках

**Настаўнікі Красьненскай музычнай школы (Маладачаншчына) прызначаюць вучням з навакольных вёсак заняткі ў "сьветлыя гадзіны", бо за нядоімкі ў школе час ад часу адлучаюць электрычнасьць.**

**Алег Раявец, Раёўка**



IREX-PROMEDIA

**Раней абаронцаў Курапатаў крытыкавалі за тое, што яны ставяць ва ўрочышчы крыжы, зробленыя зь нячэсанага й негабляванага дрэва, з сухастоінаў. Кансэрватыўна-хрысьціянская партыя БНФ крытыку ўлічыла. Крыжы, якія ейныя сябры ўсталёўваюць штосуботы ў часе курапацкіх талокаў, не паваліш, плечуком піхнуўшы. Дыхтоўныя, у два з паловай мэтры вышынёй, зробленыя з габляваных сасновых брусоў, амаль на мэтар укапаныя ды ўмацаваныя камянямі, яны мусяць доўга стаяць. Каб крыж ня гніў, тую частку, што ў зямлі, шмаруюць смалой ці алівай. Дрэва сябры КХП БНФ купляюць на партыйныя складкі й ахвяраваньні. Крыжы ўкопваюць не бессыстэмна: яны мусяць утвараць Алею смутку абапал курапацкае дарогі ды стаяць над кожнай ямай ва ўрочышчы. У талоках бяруць удзел ня толькі сябры КХП. Далучаюцца "беспартыйныя" менчукі, часам моладзь, якая дзяжурыць у Курапатах. Хоць у цэлым фронтаўцы скептычна ацэньваюць дзеяньні моладзі: ім непрыемна, напрыклад, што шмат сьмецьця валяецца вакол намёту... Аднак просяць не называць сябе. Пасьля таго, што здарылася ў аўторак, рабіць гэта не выпадае: 8 міліцыянтаў у цывільным сарвалі бел-чырвона-белы сьцяг ды арыштавалі трох хлопцаў і дзяўчыну, якія ў той вечар былі ва ўрочышчы. Аўторкавая *"Советская Белоруссия"*, нібы загадзя пра напад ведаючы, зьмясьціла на першай паласе словы міністра транспарту Баравога: "Усе заўвагі Інстытуту археалёгіі і прапановы грамадзкіх арганізацый улічаныя. Між будаўнікамі і прадстаўнікамі грамадзкіх арганізацый устанавілася поўнае ўзаемаразуменьне". Рамонт кальцавой дарогі блізіцца да канца, і кожны цяпер імкнецца паставіць кропку ў гісторыі вакол Курапатаў: улады — сваю, абаронцы — сваю.**

спорт

# Вяртаньне "Белшыны"



Да прэтэндэнтаў на чэмпіёнства-2002 далучылася "Белшына", кіраўніцтва якой здолела спыніць фатальны сыход футбалістаў у рамках звычайнай міграцыі ды набыць некалькі зорак. Цяпер у складзе бабруйчанаў — найлепшы бамбардзір чэмпіянатаў Стрыпейкіс (86 галоў) ды два самыя пасьпяховыя варатары Сініцын і Афанасенка (адпаведна 74 і 71 матч "на нуль"). 7 з 17-ці "белшынаўцаў" згулялі больш чым па 200 матчаў у вышэйшай лізе. Так што вельмі важным будзе матч наступнага туру "Белшына"–"Дынама" (Менск), які адбудзецца ў нядзелю, 21 красавіка. Несправальным фактарам для бабруйчанаў стане тое, што іхны стадыён зачынены на рамонт і ім давядзецца пакуль прымаць супернікаў на "нэўтральных" палёх. А тым часам 17-га беларуская зборная згуляла таварыскі матч з вугорцамі. Шкада, што гэтай гульні не паказалі на БТ. Замест гэтага нас пачаставалі хакеем з загадзя прадказальнымі астранамічнымі вынікамі. Хоць сапраўдны хакей нас чакае толькі ў суботу — з французамі. Там і пабачым, чаго вартая абноўленая беларуская зборная.

**A.U.**

***Наступны нумар "НН"***

**выйдзе 26 красавіка, у пятніцу. Бо "НН" з Новага году выходзіць у пятніцы. У Менску ў продажы — з абеду чацьвярга.**

калёнка Алеся Бяляцкага

# Паездка ў Касьцюковічы



Ніколі ня быў у Касьцюковічах. Вечна блытаў іх з Клімавічамі, бо і там таксама ня быў. Урэшце запомніў, як адрозьніваць: у Клімавічах вялікая вінакурня, а ў Касьцюковічах — цэмэнтны завод. І там, і там ёсьць людзі, якія, не зважаючы на перасьлед уладаў, робяць грамадзкую работу. Усе яны былі звольненыя з дзяржаўных прадпрыемстваў і ўстаноў, перабіваюцца хто як можа, але зацяліся і не паддаюцца. Гэткі ж і мой касьцюковіцкі знаёмы, да якога я еxаў літаральна на гадзіну — перадаць "Права на волю", абгаварыць рэгістрацыю аддзяленьня праваабарончага цэнтру і да ночы пасьпець у Магілёў.

Мы едзем з Бабруйску. Каля Рагачова праяжджаем паварот на Гарадок, за кілямэтар ад якога была сядзіба Бяляцкіх з ладным кавалкам зямлі і вялізным садам, у якой нарадзіліся мой дзед і мой бацька. Цяпер там нічога няма. Толькі ўзаранае поле і зьдзічэлы бэз.

За Краснапольлем пачынаецца чарнобыльская зона. Лес абапал дарогі пазначаны радыяцыйнымі знакамі на слупках. Неўзабаве наперадзе каля закінутых будынкаў сьвінакомплексу паказваецца міліцэйскі пост. Нас спыняюць. Тут даглядаюць усе машыны, каб людзі не вывозілі з забруджанай зоны рэчаў. Але ў нас "газэткі". Пасьля перамоваў з намесьнікам начальніка Краснапольскага РУУС на прадмет "газэтак супраць прэзыдэнта" два міліцэйскія старшыны атрымліваюць каманду трымаць нас, пакуль не прыедзе галоўны "гаёвы" раёну. Я саромлю міліцыянтаў, а яны шматзначна ківаюць угару.

Я тлумачу, што я рэдактар бюлетэню, што накладныя на яго не патрэбныя, бо ён не прадаецца, а колькасьць выпуску дазволеная — 299 штук. Міліцыянты зь цікавасьцю чытаюць бюлетэнь, пытаюцца, што такое ангельская мова — ці на ёй анёлы размаўляюць? — і чаму тады гэтыя "ангелы" бамбілі Сэрбію. Хто такія габрэі, і ці лічым мы, што выбары былі падтасаваныя.

...Прайшла гадзіна, за ёй другая. У адказ на нашыя пратэсты міліцыянты кожным разам зьвязваюцца з Краснапольлем. Іх супакойваюць — машына выехала, чакайце.

Урэшце зьяўляецца начальнік ДАІ. Пытаньні пра бюлетэнь паўтараюцца наноў. На запыт па рацыі, што з намі рабіць, ён атрымлівае каманду з Краснапольля — вазьмі па адным нумары бюлетэню і адпускай. Сьцямнела. Мы едзем далей.

На наступным міліцэйскім пасту перад Касьцюковічамі нас ужо чакаюць. Хітрая краснапольская міліцыя, каб з намі ня зьвязвацца, перадае навіну суседзям — як кажуць, падкладае ім сьвіньню. Нас зноў затрымліваюць, пакуль не прыяжджае намесьнік начальніка РУУС, а пасьля праводзяць з эскортам у касьцюковіцкую міліцыю. 23-я гадзіна. Прыяжджае неадкладна выкліканы начальнік міліцыі, чытае бюлетэнь, вывучае мае дакумэнты. Зразумеўшы, што прычапіцца да нас цяжкавата, ён просіць, каб я напісаў паперыну, што да касьцюковіцкай міліцыі мы ніякіх прэтэнзіяў ня маем, да пакінуў нумаркоў са сто бюлетэняў. Мы пакідаем адзін асобнік і ўрэшце дабіраемся да нашага знаёмага. Ён і патлумачыў, што 26-га, на чарнобыльскія ўгодкі, у Касьцюковічы павінен прыехаць Лукашэнка. У сувязі з гэтым міліцыя й узьняла вэрхал.

Уначы па той самай дарозе вяртаемся назад. Пад'яжджаем да краснапольскага міліцэйскага паста. Сыгналім, ніхто не выходзіць. Старшыны, мабыць, сьпяць у сваім будане. Мы самі адводзім шлягбаўм і коцім далей. Зямля просіць дажджу. Над намі зорнае неба, а паабапал дарогі на даляглядах трывожна палымнее сухая трава.

**Алесь Бяляцкі**

**Меркаваньні аўтараў-калюмністаў могуць не супадаць зь меркаваньнем рэдакцыі**

цілівізар

# Саша і Сірожа

**Сашу і Сірожу можна пабачыць у мэтро. Калі прыгледзецца, заўважыш сярод "народных цаліцеляў" ды "сэзонных распродажаў" мінімалісцкія рэкляманыя коміксы музычнай крамы "Падземка", пэрсанажы якіх сваёй брутальнасьцю й дыялёгамі без асаблівых вышукаў нагадваюць амэрыканскіх коміксавых бандзюкоў Бівіса й Батхэда, перасаджаных на беларускую глебу.**

Перасаджаных таленавіта й акуратна, з усімі належнымі мясцовымі атрыбутамі — трасянкай, саколкай *"BOSS"*, тэматыкай размоваў, сьветаадчуваньнем. (Разглядаючы з жалем сапсаваную кружэлку, Сірожа кажа: "Можна ў трактарэ павесіць...") Такіх сашаў і сірожаў мы бачым у транспарце, на вуліцах, нават у люстэрку. Але коміксы тыя пакідаюць станоўчае ўражаньне, бо відаць, што Аляксандар Хацкевіч — мастак, які Сашу і Сірожу прыдумаў, — ня зьдзекуецца, не глядзіць на іх-нас як на "тутэйшае быдла" ці аскалепкі "небалышога калхозу" і пэрсанажаў сваіх відавочна любіць.

Зрэшты, што з таго коміксу зразумееш — тры малюнкі, чатыры словы. Магчымасьць "расьпісаць" вобразы Сашы і Сірожы зьявілася тады, калі яны атрымалі этэрны



час на першым музычным канале. Штодня ў 23.30 там ідзе "Калыханка ад Сашы і Сірожы". У ёй сам "Саша" Хацкевіч і "Сірожа" Міхалок з гурту "Ляпіс-Трубяцкой", прылапіўшы вялізныя насы, распавядаюць "на сон" розныя рэальныя і ня дужа гісторыі. Іхныя дзікія экспромтныя "казкі жыцьця" пра "мэталіста, каторы хаваўся ад арміі", або пра "вадзяніка", які "падарыў добраму брату карту нефцяных скважынаў", напоўненыя мясцовымі геаграфічнымі рэаліямі, міталягічнымі ўяўленьнямі ды нашымі надзёнымі праблемамі. Сьмех выклікаюць не дурноты вядучых, а тая простасьць, зь якой яны падаюць сур'ёзныя рэчы, кшталту:

> Есьлі ўстаў з утра на ролік —
> Значыць, ты не алькаголік.

Тэлевэрсія засьведчыла, што Саша і Сірожа інтэлектуальна на галаву вышэйшыя за сваіх амэрыканскіх калегаў, якія апроч "факаў" ды "шытаў" рэдка нешта зь сябе выцiскаюць. Складана ўсё-такі дурнем прыкідвацца. Нават у "Сірожы" Міхалка, які мае багаты досьвед у гэтай справе, не заўсёды атрымліваецца: распавядае ён пра якія-небудзь "сьціральны парашок, каторы сьціpae памяць", а пасьля возьме ды ўверне цытату з Вальтэра. Псыхалягічна пэрсанажы Хацкевіча й Міхалка не падобныя да "нармальных пацаноў" — менскіх гопнікаў, выхаваных на расейскай блатной традыцыі, бо няма ў паводзінах Сашы і Сірожы пазёрства й бязглуздых табу. Таму й перадача атрымліваецца цёплая, свая.

Характэрная і скіраванасьць праграмы — гэта не "Навіны ад Сашы і Сірожы", не якое-небудзь "Як стаць міліянэрам ад Сашы і Сірожы", а менавіта "Калыханка" — аднолькава блізкая ўсім нам, незалежна ад веравызнаньня й палітычных перакананьняў. Былі ў беларускай "Калыханцы" гадоў 20 таму такія пэрсанажы — Мякіш і Сухар. Дык у мяне Саша і Сірожа асацыююцца найперш зь імі.

Зьяўленьне Сашы і Сірожы сьведчыць пра тое, што наша культура пазбываецца "элітнасьці" ў горшым сэнсе гэтага слова — пазбываецца замкнёнасьці й боязі пашырацца далягляды. Немагчыма прымусіць цэлую нацыю слухаць "Уліс" ды чытаць Бабкова. Трэба, каб у нас было ўсё: і бульварнае чытво, і эротыка, і праграмы для хатніх гаспадыняў. Трэба больш папсы! Тады наша жыцьцё стане паўнакроўным.

**Сірожа Мікулевіч**

# Праблема лідэра

**Гэтая гутарка рэдактараў "НН" і *"Советской Белоруссии"* Андрэя Дынька і Паўла Якубовіча запісвалася для радыё "Свабода".**

**Радыё "Свабода":** Газэта "Наша Ніва" надрукавала артыкул "Клімаў ня мае шанцаў", у якім аналізуюцца палітычныя пэрспэктывы Андрэя Клімава, нядаўна вызваленага з-пад варты. Тэму падхапіла *"Советская Белоруссия"*. Рэдактар газэты Павал Якубовіч у сваёй калёнцы ня толькі пагадзіўся з высновай "НН", што шанцаў стаць палітычным лідэрам у Андрэя Клімава малавата, але і ўзьняў больш шырокае пытаньне: "Чаму ўвогуле на палітычнай сцэне няма нікога, акрамя аднаго гульца, Аляксандра Лукашэнкі?" Андрэй, ці згодныя Вы, што палітычных лідэраў, акрамя аднаго, у Беларусі няма? Няма па вялікім рахунку.

**А.Д.:** Ня згодны абсалютна. Тое, што ў нас ёсьць палітычныя лідэры і яркія палітыкі, даказалі леташнія выбары. Чацьвёра здолелі сабраць больш за 100 тысяч подпісаў, што сьведчыць пра іх папулярнасьць, пра тое, што яны здолелі прыцягнуць да сябе людзей.

**П.Я.:** Я ня згодны з Андрэем Дыньком, і мне здаецца, што менавіта прэзыдэнцкія выбары і паказалі рэальную сытуацыю зь людзьмі яркімі і новымі. Такіх на палітычным полі ў гэты пэрыяд і не было, бо лічыць новым чалавекам, які прэтэндуе на лідэрства, Домаша, ці Чыгіра, ці Ганчарыка проста наіўна. А іншыя фігуры, якія сабралі 100 тысяч галасоў... Пры ўсёй маёй павазе да Гайдукевіча, я не магу назваць яго фігурай агульнанацыянальнай, палітычнай. Так ці інакш, я на сёньняшні дзень арыгінальных, цікавых палітыкаў ня бачу.

Для мяне палітычны лідэр — гэта асоба, якая на сёньня ў сабе канцэнтруе якасьці і харызматычнага лідэра, і аратара, і кіраўніка палітычнай партыі ці руху, нагул, чалавека, які здольны прапанаваць грамадзтву новыя ідэі. Сяргея Гайдукевіча ня ведаюць 90% жыхароў нашых буйных гарадоў, я ўжо не кажу пра рэгіёны.

У нас жа вось якая сытуацыя: і камуністычная партыя раскалолася напалам, і Народны Фронт раскалоўся напалам, і сацыял-дэмакратычных партыяў у нас з паўтузіна, ня меней. У нас, на вялікі жаль, партыі знаходзяцца ў стане шмат у чым віртуальным, шмат у чым яны зьяўляюцца кабінэтнымі, канапнымі...

**А.Д.:** Я думаю, што галоўная прычына дысбалянсу вядомасьці пэўных палітыкаў — гэта сам спадар Якубовіч, бо галоўная прычына таго, што 90%, як вы кажаце, людзей слаба ведаюць, хто такі Сяргей Гайдукевіч, у тым, што Сяргей Гайдукевіч зусім не прысутны на старонках *"Советской Белоруссии"*. У нас утварылася такая сытуацыя, калі пра 99% палітыкаў дзяржаўныя газэты, тэлебачаньне, радыё, якія кантралююць большую частку інфармацыйнай прасторы, альбо ня пішуць зусім нічога, альбо зрэдку пішуць кепска. У такой сытуацыі нельга чакаць, што нехта некага будзе добра ведаць. Але дайце тры месяцы іхнай прысутнасьці ў інфармацыйнай прасторы, і ўсё памяняецца.

Досьвед іншых краінаў паказвае, што ў пэўныя моманты падобная сытуацыя наведаньня пераварочваецца. І тады літаральна за некалькі месяцаў папулярнасьць нейкага палітыка расьце вельмі рэзка. Уявіце, што ў нейкім 93-м у рэйтынгах былі Кебіч, Шушкевіч, Пазьняк. Лукашэнкі яшчэ не было. Адкуль жа ўзьнік Лукашэнка ў 94-м годзе? Гэткая ж самая сытуацыя можа паўтарыцца зь некім іншым.

**П.Я.:** Я пакорліва прымаю словы Андрэя Дынька аб тым, што прычынай адсутнасьці новых лідэраў зьяўляюся і я асабіста. Ну што ж, давядзецца і такі крыж несьці.

Хачу не пагадзіцца зь некаторымі выказваньнямі паважанага калегі пра тое, што толькі сродкі масавай інфармацыі могуць даць новага лідэра. СМІ — гэта зброя на два бакі. І вось гэтыя рэйтынгі, што сталі касьмічна высокімі для шукальнікаў прэзыдэнцкага крэсла, — яны абрынуліся адразу ж, як толькі гэтыя людзі зьявіліся на экране. Экран высьветліў абсалютную немаштабнасьць прэтэндэнтаў. Менавіта тэлевізар рэзка скараціў цікавасьць да асобаў кандыдатаў у прэзыдэнты Рэспублікі Беларусі. Паважаны Ганчарык Уладзімер Іванавіч неяк вельмі пакрыўдзіўся, што вось ён выклікаў на тэледуэль Аляксандра Лукашэнку, а Аляксандар Лукашэнка адмовіўся ад дуэлі. І Ганчарык піша, што гэта ягоная капітуляцыя і г.д. Я напісаў у адказ, што наўрад ці Тайсан прыняў бы выклік школьніцы з той простай прычыны, што вельмі ўжо няроўныя сілы. Уладзімер Іванавіч павінен разумець, як ён выглядаў бы побач з такой харызматычнай асобай, як Лукашэнка... У адным я хачу пагадзіцца з Андрэем Дыньком: лідэр, палітык абавязкова зьявіцца, калі для гэтага зьявяцца ўмовы.

А сёньня на любым менскім мітынгу можна ўбачыць тых жа людзей, што калацілі паветра і ў 91-м годзе. Маладых няма. Няма ніводнай харызматычнай постаці, таго, хто стаў бы ўлюбёнцам Менску, улюбёнцам Віцебску. Я ўжо не кажу ў нацыянальным маштабе. Для таго каб зьявіліся новыя людзі, патрэбныя новыя партыі. Для таго каб зьявіліся новыя партыі, патрэбныя новыя ідэі. А для таго каб зьявіліся новыя ідэі, патрэбны генэратары гэтых ідэяў. Калі зьявіцца чалавек, якому ёсьць што сказаць, да якога адразу ж будзе прыкаваная ўвага, — гэта і будзе новы лідэр.

**А.Д.:** Каб вылучыўся нейкі лідэр, ён найперш мусіць мець сваю сацыяльную базу. Ён мусіць дакладна ўяўляць сабе, чые інтарэсы адстойвае. Як толькі нашы палітыкі адчуюць, хто стаіць за імі, а хто за імі ніколі ня ўстане, дык яны будуць лепш адпавядаць чаканьням сваіх выбарцаў.

Наступным крытычным этапам беларускай палітыкі стануць мясцовыя выбары. Калі гэтыя мясцовыя выбары адбудуцца пры мінімуме свабоды і з захаваньнем нейкага мінімуму дэмакратычных працэдураў, то менавіта мясцовыя выбары вылучаць новых лідэраў, прадэманструюць, хто зь іх здольны падаць сябе на мітынгу, прабіцца ў сродкі масавай інфармацыі, заваяваць давер і павагу беларускай інтэлігенцыі. Хто зможа зрабіць гэта адначасова, той і стане новым нацыянальным лідэрам. Вялізны патэнцыял маюць таксама тыя лідэры, якія засьведчылі сябе ў мінулыя гады на папярэдніх выбарах. Трэба, каб былі пэўныя штуршок, каб іх выштурхнула наверх. І яны запрацоўць, яны змогуць даказаць, што ўмеюць ня толькі размаўляць і рыхтаваць праграмы.

**П.Я.:** Мой паважаны апанэнт казаў, што апазыцыйныя палітыкі ня маюць доступу да прэсы. Я кажу зусім адкрыта і шчыра: калі б хтосьці (мне зусім нецікава, апазыцыйны ён ці не, я гэтых людзей ведаю сама меней па 10 год кожнага) прынёс тое, што Андрэй называе высокадухоўным, высокапад'ёмным артыкулам, ён бы адразу быў надрукаваны. Але калі сёньня папрасіць любога палітыка, які лічыць сябе апазыцыйным, надрукаваць артыкул, гэта будзе набор вядомых штампаў пра тое, што ў Беларусі жыць кепска, што тэрор гуляе па вуліцах, эскадроны сьмерці і г.д. Як галоўны рэдактар я ня ўпэўнены, што гэта запатрабавана чытачом. Новага, сур'ёзнага ніхто пакуль грамадзтву не прапаноўвае.

Замест гэтага я са зьдзіўленьнем прачытаў, калі арыштавалі Міколу Статкевіча, як усе дружна зласловілі: маўляў, такое фіяска зьдзейсьнілася зь ім, а іншыя на гэтым фоне мудрыя і дальнабачныя.

Калі зьявіцца сур'ёзная партыя, аплодненая сур'ёзнай, агульнанацыянальнай ідэяй, у гэтай партыі зьявяцца і газэты, інфраструктура, якая данясе па мэтадзе "ад дзьвярэй да дзьвярэй" гэты высокі і актуальны вобраз. І калі зьявяцца гэтыя ўмовы — асоба, ідэя, партыя, і інфраструктура — зьявіцца і лідэр. Для пачатку павінен зьявіцца чалавек, які можа прайсьці ўвесь гэты шлях.

**А.Д.:** Я думаю, што спадар Якубовіч лепей за мяне ведае, хто палітык, а хто не палітык, бо лепей ведае, якое месца хто адводзіць сабе ў гэтай сыстэме і якое месца ім адводзіцца самой гэтай сыстэмай. І таму я зь цікавасьцю праслухаў ягонае меркаваньне.

**Паводле аўдыёзапісу гутаркі**

# Шаноўны спадару Севярынец!

**Я вітаю Вашае нядаўняе вызваленьне зь несправядлівага зьняволеньня, якім пакараў Вас адыёзны рэжым. Добра ведаючы пра Вашую палітычную актыўнасьць, высока цаню Вашую асабістую мужнасьць і рашучасьць.**

Аднак я не магу прамаўчаць, калі асоба Вашага рангу, адказваючы на недарэчную інсынуацыю, зьвязаную з гомасэксуальнымі адносінамі, пры гэтым публічна абражае, прыніжае і дэманізуе значную частку насельніцтва сьвету. Пакуль існуюць такія забабоны, геі паўсюль будуць змушаныя выносіць на палітычную арэну тое, што ёсьць, урэшце, глыбока прыватнай справай.

Таксама глыбока прыватнай справай чалавека зьяўляюцца рэлігійныя перакананьні, якія, на маю думку, ніяк нельга зьмешваць з палітычнымі пытаньнямі. Вы маеце права на свае погляды, але гэта не азначае права адмаўляць сябрам групаў палавых меншыняў хадзіць пад бел-чырвона-белым сьцягам, не азначае права сьцьвярджаць, быццам гэтым дыскрэдытуецца справа — якая, дарэчы, не належыць Вам асабіста.

Па-першае, геі не дыскрэдытуюць ідэі адраджэньня. Па-другое, свабода і дэмакратыя — ня толькі Вашая прыватная справа. А па-трэцяе, хто ўпаўнаважыў Вас быць паліцыяй нораваў?

Як беларус-амэрыканец, я вельмі засмучаны, што лідэр так званага "дэмакратычнага" руху моладзі ў Беларусі мае такія погляды. Тое, што Вы чалавек малады, толькі падвойвае маю занепакоенасьць, паколькі будучыня Беларусі жыве ў сэрцах і розумах менавіта Вашага пакаленьня. Хацелася б спадзявацца, што ідэі, якія Вы спавядаеце ў гэтай справе, не тыповыя для Вашых раўналеткаў.

Вы прыхільнік "вяртаньня Беларусі ў Эўропу". Хачу Вам нагадаць, што жыхары дзьвюх вялікіх эўрапэйскіх сталіцаў — Парыжу і Бэрліну — нядаўна палічылі дастаткова годнымі й абралі ў якасьці мэраў сваіх гарадоў менавіта геяў — людзей, якіх Вы лічыце "няшчаснымі", "пакалечанымі", "хворымі" ды вартымі шкадаваньня. Няўжо Вы мяркуеце, што дэмакратычная Эўропа прыме з раскрытымі абдымкамі краіну з такой жорсткай неталерантнасьцю, якую выказваеце Вы?

Заклікаю Вас пераасэнсаваць сваю пазыцыю і далучыцца да тых, хто любіць свабоду і падтрымлівае роўнасьць, годнасьць і правы *кожнага* чалавека — незалежна ад узросту, колеру, полу, рэлігіі, сэксуальнай арыентацыі альбо фізычных недахопаў.

Зразумейце, калі ласка, што тыя людзі, якіх Вы ды іншыя "дэмакраты" з Кангрэсу беларускай моладзі так безаглядна выкрэсьліваеце, — вашыя суседзі, вашыя сябры, вашыя браты і сёстры ў змаганьні.

Шчыра,

**Данчык, Прага**

# Плач перапёлкі

**Не сказаць, каб быў літаратурным крытыкам ці паліттэхнолягам. Але ў захапленьні ад сп.Дубаўца. Можа, ня так, як сп.Тарлецкі ад сп.Севярынца, але ж моцна.**

Для Беларусі майго часу (як я пачаў усьведамляць сябе беларусам) заўсёды была характэрная дваістасьць. Ува ўсім. З аднаго боку — Беларусь беларуская, з другога — Беларусь беларуская дэманстратыўная. 5% апантаных апазыцыянэраў, што пачуваюць сябе беларусамі, і 95% тых, хто так сябе называе.

Апантанай меншасьці патрэбны добрыя й якасныя кніжкі з CD-ROMамі, беларускамоўныя садкі й школкі ды чарка са шкваркай на 25.03 зь сябрамі. Пераважнай большасьці патрэбныя артыкулы ў прэсе аб нястачы добрых і якасных кніжак з CD-ROMамі, рэпартажы на радыё пра адсутнасьць беларускамоўных садкоў і школак ды тэлекарцінка бойкі з АМАПам на 25.03.

Інтарэсы адных і другіх натуральна блізкія й раз-пораз перакрыжоўваюцца. Але асаблівага плёну з гэтага не назіраецца. Бо мэты дасягае той, хто нешта робіць. А ня толькі "гаварыт". Пры бліжэйшым разглядзе выяўляецца, што ніхто і нішто не замінае будаваць сваю краіну. Акрамя ляноты.

Так, з народам (і зь ягоным кіраўніком) нам не пашанцавала, з усходнім суседам таксама. Але ж усе маем галаву, дзьве рукі ды чым хадзіць. Застаецца прыкласьці ўсё гэта да справы. Замест апошняга паліваем сваю любімую краіну брудам. За мяжой, прыкладам. І не здаецца, што сябе паліваем. Ці ня мы абралі сабе "дурное" начальства, не навучылі сваіх дзетак калісьці, што такое грамадзянская супольнасьць ды правы чалавека? Мы.

А дома ўпарта ходзім шэсьцем па адным і тым самым маршруце. Адным і тым складам. Убухваючы вялізарныя матэрыяльныя й чалавечыя рэсурсы. Якія далёка не суадносяцца з мэтай. Калі апошняя ўвогуле вызначаецца. А таму з году ў год анічога не зьмяняецца. І ніхто не зьбіраецца зьмяняць. Ці, можа, спадары партбосы, нехта з вас займаецца партыйным будаўніцтвам? А можа, ёсьць распрацаваная стратэгічная лінія на 5—10 год? Не.

А ў дзяржавы ёсьць. Яна, нядобрая, нат клапоціцца пра беларускасьць школак ды бароніць нацыянальную інфармацыйную прастору. Але апазыцыянэры замест таго, каб шукаць кропкі судакрананьня зь ёй, крычаць пра рэжым, тым самым апраўдваючы сваю бязьдзейнасьць. Ды адразу па выбарах заяўляюць пра сваю перамогу. Маўляў, пабудавалі грамадзянскую супольнасьць...

Можна яшчэ прыводзіць багата прыкладаў па тэме ды разважаць над стратэгіяй ды тактыкай. Але проста дужа хочацца, каб як мага больш людзей пачалі *жыць* у *сваёй* краіне. А як толькі там апынёмся, пачнём *змагацца* за дабрабыт.

**Андрусь Кавалёў, Магілёў**

дзяржаўны інтэрас

# "Левыя" левыя



Сацыёлягі абяцаюць, што на выбарах у Францыі 24 красавіка трэцяе месца зойме кандыдат-нацыяналіст Жан-Мары Лё Пэн, чацьвертае месца дастанецца кандыдатцы ад "пралетарскіх ячэек" трацкістаў Арлеце Лягіе, а пятае — камуністу Рабэру Ю. Яны зьбяруць прынамсі 13, 8 і 6 працэнтаў галасоў. Жаку Шыраку і Ліянэлю Жаспэну — канвэнцыйным правым і левым — у першым туры мае дастацца каля 20%.

Нашай "левай" апазыцыі папулярнасьць француcкіх трацкістаў і камуністаў пакуль ня "сьвеціць". Прычыны бачацца ня толькі ў недэмакратычнасьці рэжыму і яго гёбэльсаўскай прапагандзе, але і ў этыцы палітыкаў.

У Францыі дэпутаты-камуністы здаўна маюць за правіла пакідаць сабе заробак, роўны сярэдняй зарплаце парыскага рабочага. Рэшта ж парлямэнцкага ганарару пералічаецца ў партыйную касу. Партыйцы-трацкісты ўвогуле пагарджаюць дабротамі спажывецкага грамадзтва.

На левым флянгу беларускага палітычнага спэктру канкурэнцыя незвычайная. Акцыі пратэсту пад сацыяльнымі лёзунгамі памножыліся ў нас да "жыть нельзя". Аднак пры гэтым ня ведаю ніводнага кіраўніка беларускае левае партыі, які б не карыстаўся сотавым тэлефонам. Між тым, няшмат работнікаў могуць дазволіць сабе такое задавальненьне. Пакуль яно каштуе ў нас, як тыя французы кажуць, *"les yeux de la tête"*. І чым такім апэратыўным займаюцца нашыя сацыял-дэмакраты й камуністы, што ім гэтак пільна патрэбная мабільная сувязь?

Праблема нашых левых у тым, што іхную нішу ў беларускім палітычным спэктры надзейна займае Лукашэнка — больш бедны, чым Лягіе, больш русафіл, чым Ю, і больш лібэрал, чым лідэр французскіх сацыялістаў Жаспэн, адначасова.

Эўрапейскіх левых можна падзяліць на дзьве групы: левыя апартуністы кажуць ня тое, што думаюць, а робяць ня тое, што кажуць. Левыя нанканфармісты ня любяць дарагіх машын і сотавых тэлефонаў, усё яшчэ захапляюцца Савецкім Саюзам і ненавідзяць Амэрыку. Лукашэнка — ідэальны гібрыд першых і другіх. Марныя надзеі, што некаму ў Беларусі ўдасца стаць больш левым за Лукашэнку.

А ў чым тады дзяржаўны інтэрас, спытаецеся вы. У тым, каб у Беларусі ў процівагу леваму Лукашэнку нарэшце зьявілася адзіная моцная правая сіла, якая б, не баючыся ні Ўсходу, ні Захаду, рогам стаяла, адстойваючы інтарэсы беларускага капіталу, вартасьці нацыі, сям'і, веры і ўсе правыя вартасьці беларусаў.

**Барыс Тумар**

RADIO FREE EUROPE
RADIO LIBERTY

БЕЛАРУСКАЯ СЛУЖБА

РАДЫЁ СВАБОДА

*Новыя хвалі й частоты ад 31 сакавіка 2002:*

| | | | |
|---|---|---|---|
| 18:00 - 20:00 | 9565 кГц (31 м)<br>11725 кГц (25 м)<br>15215 кГц (19 м) | 22:00- 24:00 | 9530 кГц (31 м)<br>9750 кГц (31 м)<br>11865 кГц (25 м) |
| На сярэдніх хвалях частата — 612 кГц | | На с/хвалях частоты — 612 і 1188 кГц | |
| 20:00 - 22:00 | 7190 кГц (41 м)<br>11730 кГц (25 м)<br>15480 кГц (19 м) | 06:00 - 08:00 | 6170 кГц (49 м)<br>7295 кГц (41 м)<br>9635 кГц (31 м) |
| На сярэдніх хвалях частата — 612 кГц | | На с/хвалях частоты — 612 і 1188 кГц | |

*Інтэрнэт: www.svaboda.org Адрас: 220005, Менск-5, п/с 111;*

*Vinohradska 1, Praha 1, 110 00, Czech Republic*

НАСТРОЙЦЕСЯ НА "СВАБОДУ"!

Фундамэнтальны падручнік паліталёгіі

Паняцьці, аналізы, тэорыі

680 старонак.
Пераклад зь нямецкай В.Булгакава, Я.Бяласіна, Г.Гірынай, А.Крукоўскага, А.Пяткевіча.
Пад рэдакцыяй В.Булгакава.
Даведкі праз пэйджэр 289-12-12, аб.116-133.




Ясная думка, добрая мова

"Мёртвыя душы". Чытае Міхаіл Ульянаў.
13.30 "Страсьці па-італьянску".
14.30 "Залаты п'едэстал". Уладзіслаў Трацьцяк.
15.00, 17.30, 23.00 Навіны культуры.
15.10 "Нечаканыя канікулы".
15.30 "Прыгоды Васі Куралесава". Мультфільм.
16.00 "Малыя музэі Санкт-Пецярбургу". Мэмарыяльны музей-кватэра акадэміка І.П.Паўлава.
17.50 Арт-панарама.
18.15 "Страчаныя шэдэўры". "Графскае дабро".
18.45 "Час музыкі".
19.10 "Песьня — любоў мая". Да 95-годзьдзя з дня нараджэння В.П.Салаўёва-Сядога.
19.30 "Дзевяць дзён аднаго году". Маст. фільм.
21.20 "Культурная рэвалюцыя". "Адукацыя ў Расеі павінна быць платнай". Праграма М. Швыдкага.
22.20 "Эпізоды". Іосіф Райхэльгауз.
23.25 "Начны палёт". Вядучы А.Максімаў.

### НТВ

7.00, 7.30, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00, 23.15 Сёньня.
7.10, 7.35 Раніца на НТВ.
7.50, 18.35 "Тайны сьледзтва".
9.25 Сквапнасьць.
10.20 Кватэрнае пытаньне.
11.20 Дэтэктыў "Расьсьледаваньне".
13.20 "Прынцып "Даміно". Ток-шоў.
14.40, 17.35 Крымінал.
15.30, 19.40 "Бандыцкі Пецярбург".
16.45 "Увага· вышук!". "Чорныя рыэлтары".
18.00, 21.00 "Сёньня" з Тацянай Мітковай.
21.35 Герой дня.
22.10 "Зусім сакрэтна". "Свае не чужыя".
23.36 Гардон.
0.10 Усе зоркі чэмпіянату сьвету па футболе.
0.50 Кіно не для ўсіх. "Апошнія халады".

### Эўраспорт

9.30, 13.30 Цяжкая атлетыка. Чэмпіянат Эўропы. Паўтор.
11.00 Гольф. Паўтор.
12.00 Аўтагонкі сэрыі Гран Турызм.
12.30 "Супэргоначны ўік-энд". Тэлечасопіс.
13.00 "Гоначныя сэрыі".
14.30, 17.30, 20.00 Цяжкая атлетыка. Чэмпіянат Эўропы. Жывая трансьляцыя.
16.00 Тэніс. Турнір АТР. Барсэлёна. Жывая трансьляцыя.
19.00 Футбол. "Каманда мары" Жылет.
19.30, 2.00 Футбол. "Каманда мары" Жылет. Паўтор.
22.00 Прафэсійны бокс.
0.00 "Адзін сьвет — адзін кубак". Тэлечасопіс.
1.30 "Унутры формулы". Паўтор.

## ПЯТНІЦА, 26 КРАСАВІКА

### БТ

6.00, 7.00, 8.00, 9.00, 12.00, 15.00, 18.00, 1.15 Навіны.
6.10, 7.10, 8.10 Добрай раніцы, Беларусь!
9.15, 17.00 "Людзі ў цывільным".
10.05 Сад мары. Перадача для дачнікаў.
10.35, 15.45 "Прыгоды Шэрлі Холмз".
11.00, 21.50 "Сямейныя повязі".
12.20 Добры дзень, Беларусь!
15.05 "Месца сустрэчы зьмяніць нельга". Маст. фільм. 5-я сэрыя.
14.30 Да Дня чарнобыльскай трагедыі. "Падарожжа ў Атлянтыду". Дак. фільм.
15.20 "Маленькія хітруны". Дак. сэрыял.
16.10 "Пяць цудаў".
16.20 "5х5". Інфармацыйна-забаўляльная праграма для старшаклясьнікаў.
18.25 Зона Ікс.
18.35 Гадзіна прафэсіянала.
19.05 Крымінальны баявік "Рэйнджэр з атамнай зоны" (Беларусь).
20.40 Калыханка.
21.00 Панарама.
22.45 Спорт-кур'ер.
22.55 Скачкі ў ваду. Міжнародны турнір памяці С.Партнова.
23.35 Дэтэктыўны сэрыял "Камісар Шыманскі" (Германія).
1.25 Беларуская дваццатка.

### СТВ

6.00, 16.30 "Паўэр рэйнджэрз, ці Магутныя рэйнджэры".
6.30 "Сьвет Бобі".
7.00, 15.45 "Фэрма страшыдлы".
7.30, 23.20 "Аўтапанарама".
7.45, 23.20 "Віртуальны сьвет".
7.55, 18.50 "Тэма дня".
8.05 "Сьнеданьне з Лікай".
8.10, 18.00 "Прэм'ер-парад "Сталічны".
8.15 Баявік "Пячорная брама".
10.30, 18.35 Спартыўныя навіны.
10.45, 23.35 Навіны СНД.
11.00 "Канал гісторыі": "Рытуалы вуду". Дак. фільм.
12.00, 15.00, 19.00, 23.05 "24 гадзіны".
12.15 "Агенцтва".
12.50 "Зона цемры". Тэлесэрыял.
13.50, 20.00 "Лэдзі Бомж". Тэлесэрыял.
15.15 "Сакрэтныя матэрыялы сабакшпіёнаў".
16.05 "Менск на скрыжаваньні стагодзьдзяў".
16.20 "Прафэсія, якую ты выбіраеш".
16.55 "Чарцяня".
18.05 "Партрэт у інтэр'еры".
18.20 Фільм, фільм, фільм.
19.15 "Добры вечар, маленькі...".
19.30 Баявік "Карпарацыя "Неўміручасьць".
0.05 Драма "Кволае неба".
2.10 "М1".

### 8 канал

17.30 Мультфільм "Жыў-быў сабака".
17.45 Дак. сэрыял. "Погляд на ўладу". 2-я сэрыя.
18.15 Баявік "Моцны арэшак-3".
20.20, 21.25 Тэлекрама.
20.25 "Вечарніца".
20.40, 23.15 Навіны.
21.00 Дак. фільм "Легенды пра вялікага Ала".
21.30 Фантастычны баявік "Людзі ў чорным".

### ОРТ

8.00, 11 00 Навіны.
8.15, 18.00 "Сямейныя повязі".
9.15, 23.00 "Расейскі экстрым".
9.45 "Слабае зьвяно".
10.45 "Ералаш".
10.50 Бібліяманія.
15.00 Маст. фільм "Спадчыньніцы". 1-я сэрыя.
16.00 Вялікае мыцьцё.
17.00 Вячэрнія навіны.
17.25 "Самі з вусамі".
19.00 Поле цудаў.
20.00 Час.
20.35 Маст. фільм "Спадчыньніцы". 2-я сэрыя.
21.40 "Зоркавы атрад".
22.30 Начны "Час".
23.30 Трылер "Вінаваты без усякага сумненьня".

### РТР

8.00, 10.00, 16.00, 19.00 Весткі.
8.10 "Тытанік". Дак. фільм.
9.10 "Брат за брата". Маст. фільм.
10.20 Мэлядрама "Жонкі і дочкі". Тэлесэрыял.
16.20 "Усе зоркі і варатар". 50 год Уладзіславу Трацьцяку
17.30 Уся Расея.
17.50 "Камісар Рэкс".
18.50 Дабранач, дзеці!
19.35, 22.20 Мясцовы час. Весткі — Масква.
19.55 Тэлесэрыял "Сямейныя тайны".
20.55 "Марш Турэцкага". Фільм 10-ы.
22.00 Весткі — Падрабязнасьці.
22.30 Маст. фільм "Забаронены ўдар" (ЗША).

### Культура

9.15 "Рамантыка рамансу". Вядучы Л.Сярэбранікаў.
9.40, 16.30 "Рэнэсанс". "Сьвятло і свабода". Дак. фільм.
10.40 "Волат-эгаіст". Мультфільм.
10.50 "Эпізоды". Іосіф Райхэльгаўз.
11.30, 15.00, 17.30, 23.00 Навіны культуры.
11.50 Разам з Фафалем.
12.05 Чым жыве Расея.
12.20 "Культурная рэвалюцыя". Праграма М.Швыдкога.
13.15 "Урокі расейскай". М.В.Гоголь. "Мёртвыя душы". Чытае М.Ульянаў.
13.30 "Страсьці па-італьянску".
14.30 Архітэктурная галерэя.
14.40 Улада факту.
15.10 Кіно — дзецям. "Маўглі". Мультфільм.
16.00 Сэнсацыя! Сэнсацыя? Сэнсацыя...
17.50 "Са столі".
18.15 "Страчаныя шэдэўры". "Эрмітажная Амэрыка". Частка 1-я.
18.45 Білет у Вялікі...
19.25 "Дваранскае гняздо". Маст. фільм.
21.15 Блеф-клюб.
21.55 "Марш Радзецкага".
23.25 "Джазафрэнія".

### НТВ

7.00, 7.30, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00 Сёньня.
7.10, 7.35 Раніца на НТВ.
7.50, 18.35 "Тайны сьледзтва".
9.25 Свая гульня.
10.10 "Увага: вышук!". "Чорныя рыэлтары".
11.20 Камэдыя "Непапраўны лгун".
13.20 "Прынцып "Даміно". Ток-шоў.
14.40, 17.35 Крымінал.
15.30, 19.40 "Бандыцкі Пецярбург".
16.45 Скваспнасьць.
18.00, 21.00 "Сёньня" з Тацянай Мітковай.
21.35 Герой дня.
22.10 Вострасюжэтны фільм "Мёртвы штыль".
0.15 Кома. "Вуліца тых, хто пайшоў".

### CNN

7.00 Навіны.
10.00 Бізнэс-цэнтар.
11.00, 14.00, 15.00, 17.00, 18.00, 19.00, 20.00, 22.00, 23.00, 2.00, 3.00, 5.00, 6.00 Сусьветныя навіны.
12.30, 14.30, 17.30, 0.30 Навіны спорту.
13.00, 16.00 Бізнэс Інтэрнэшнл.
18.30, 22.30, 3.30 Пытаньне — адказ.
19.30. 6.30 Амэрыканскія навіны.
21.30 Бізнэс-навіны.
23.30 Вечаровыя бізнэс-навіны.
0.00, 5.30 Погляд зь сярэдзіны.
1.00 "Грошы" з Лу Добзам.
2.30 Рэпартажы замежных карэспандэнтаў.
4.00 Лары Кінг.

### Эўраспорт

9.30, 14.30, 0.45 Цяжкая атлетыка. Чэмпіянат Эўропы. Турцыя. Паўтор.
11.00 Супэргоначны ўік-энд. Агляд. Паўтор.
11.30 "Гоначныя сэрыі". Тэлечасопіс. Паўтор.
12.00 Гольф. ЗША. Паўтор.
13.00 Парусны спорт. Паўтор.
13.30 "Адзін сьвет — адзін кубак". Футбольны тэлечасопіс. Паўтор.
16.00 Тэніс. Турнір АТР. Барсэлёна. Жывая трансьляцыя.
17.30, 20.00 Цяжкая атлетыка. Чэмпіянат Эўропы. Турцыя. Жывая трансьляцыя.
19.00 Футбол, гісторыі з кубку сьвету. Паўтор.
19.15 Футбол, матч стагодзьдзя.
22.00 Мастацкая гімнастыка. Чэмпіянат Эўропы.
23.00 Футбол. Легенды кубку сьвету. Італія. Паўтор.
0.15 Экстрэмальныя віды спорту.

## СУБОТА, 27 КРАСАВІКА

### БТ

7.00, 9.00, 15.00, 19.00 Навіны.
7.10 Сэрыял "Безь сям'і".
8.05 Пазнавальны сэрыял "Пятае вымярэньне".
8.30 Існасьць. Духоўная праграма.
9.15 Экран індыйскага кіно. "Я пакахаў". 1-я і 2-я сэрыі.
12.25 Сад мары. Перадача для дачнікаў.
12.55 Каралеўскае паляваньне.
13.20 Здароўе.
13.45 Сэрыял "Чака Зулу". Фільм 1-ы.
14.30 "Картэс". Дак. фільм пра народнага артыста Беларусі кампазытара Сяргея Картэса.
15.20 Дэтэктыўны сэрыял "Камісар Шыманскі" (Германія).
16.50 Беларуская дваццатка.
17.15 "Пяць цудаў".
17.45 Чароўны куфэрак "Саюзмультфільму". "Сіняя птушка".
18.35 З дакладных крыніц.
19.25 КВК. 1/8 фіналу Эўралігі.
21.00 Панарама тыдня.
22.05 Спорт-кур'ер.
22.15 Крымінальная драма "Парушальніца" (ЗША—Канада).
23.50 Скачкі ў ваду. Міжнародны турнір памяці С.Партнова.
0.30 Сэрыял "Адысэя" (ЗША).
1.20 Дак. сэрыял "Пары і дуэты".

### СТВ

6.15 "Канал гісторыі": "У пошуках сьнежнага чалавека". Дак. фільм.
7.15 "У гасцях у Тофіка".
7.30 Мультсэрыялы "Русалачка", "Цік — герой", "Джын-Джын з краіны Пандаленд", "Сымпсаны".
10.00 "Пароль — "Вечнасьць". Тэлесэрыял.
11.00 "Дыскаверы" на СТВ.
11.15 "Рамонт".
11.30 "Аўтапанарама".
11.50 "Сьнеданьне зь Лікай".
12.15 "Сьвет спорту".
12.45 Крымінальная драма "Небясьпечныя сябры".
14.50 "Сьведка".
15.20 "Радыёкропка".
15.40 "Партрэт у інтэр'еры".
15.55 "Запрашаем паскардзіцца".
16.05 "Чалавек-павук".
16.45 "Мяжа. Таежны раман".
18.00 "Прэм'ер-парад "Сталічны".
18.20 Дак. фільм "Анатомія катастрофы".
19.20 "Прафэсія, якую ты выбіраеш".
19.30 "Тры хіты ў "Алькатрасе".
20.00 "Гадзіна пік".
21.00 Камэдыя "Амэрыканская нявіньніца".
23.05 "Мутанты Ікс". Тэлесэрыял.
0.10 "Навіны сусьветнай шоўіндустрыі".
0.40 "М1".

### 8 канал

15.00 Фільм-казка "Стары Хатабыч".
16.30 "Простае пытаньне".
16.40 Мультфільмы 50-х... "У некаторым царстве...".
17.10 "Справы даўно мінулых дзён".
18.00 Гурман-клюб.
18.20 Камэдыя "У джазе толькі дзяўчаты".
20.20 К-відэа. "Топ-8".
20.25 "Ракурс".
20.45 "Вечарніца".
21.00 Тэлекрама.
21.15 Маст. фільм "Гадзіла".

### ОРТ

8.00, 11.00 Навіны.
8.15, 18.00 "Сямейныя повязі".
9.15 Дак. дэтэктыў. "Разгром Баўманскай злачыннай групоўкі". Справа 2001 году.
9.45 Поле цудаў.
10.45 "Ералаш".
10.50 Бібліяманія.
15.00 "Спадчыньніцы". 2-я сэрыя.
16.00 Вялікае мыцьцё.
17.00 Вячэрнія навіны.
17.25 Дак. дэтэктыў "Як узарвалі Дудаева". 1996 год.
19.00 "Хто хоча стаць мільянэрам?".
20.00 Час.
20.35 Камэдыя "На рыбалку!".
22.25 "Ніка-2002". Урачыстая цырымонія.

### РТР

8.00, 10.00, 16.00, 19.00 Весткі.
8.10 "Вэрсія". Дак. фільм.
8.30 Залаты ключ.
8.50 Экспэртыза РТР. Дайджэст.
9.00 Сямейныя навіны.
9.10 "Брат за брата". Маст. фільм.
10.20 Мэлядрама "Жонкі і дочкі".
16.20 Футбол. Чэмпіянат Расеі. "Тарпеда" (Масква)—"Анжы" (Махачкала). Жывая трансьляцыя.
18.00 "Камісар Рэкс".
18.50 Дабранач, дзеці!
19.35 Мясцовы час. Весткі — Масква.
19.55 "Сямейныя тайны".
20.55 "Марш Турэцкага". Фільм 10-ы. "Кантрольны стрэл". Частка 2-я.
22.15 Дэтэктыў "Кантракт са сьмерцю".
0.45 Чэмпіянат сьвету па аўтагонках у клясе "Формула-1".

### Культура

9.15 "Экспэдыцыя "Чыж". Гісторыка-этнаграфічная праграма.
9.40, 16.30 "Рэнэсанс". "Канец Рэнэсансу". Дак. фільмы.
10.40 "Вас любіць ня дзіва" Творчы вечар Веры Васільевай.
11.30, 15.00, 17.30, 23.00 Навіны культуры.
11.50 "Дзюймовачка". Мультфільм.
12.20 "Фрак народа".
13.15 "Урокі расейскай". М.В.Гогаль. "Мёртвыя душы". Чытае М.Ульянаў.
13.30 "Свой мэтад", "Сумны гатэль". Кароткамэтражныя маст. фільмы.
14.30 Графаман.
15.10 Кіно — дзецям. "Маўглі". Мультфільм.
16.10 Л.Бэтховен. Два рамансы для скрыпкі з аркестрам.
17.45 "Дэбют пакаленьня". Дак. фільм.
18.15 "Эрмітажная Амэрыка". Частка 2-я.
18.45 "Рамантыка рамансу". Вядучы Л.Сярэбранікаў.
19.30 "Свой сярод чужых, чужы сярод сваіх". Маст. фільм.
21.00 Кінапанарама.
21.45 "Марш Радзецкага".
23.25 Прагулкі па Брадвэі.

### НТВ

7.00, 7.30, 9.00, 11.00, 13.00, 15.00 Сёньня.
7.10, 7.35 Раніца на НТВ.
7.50 "Тайны сьледзтва".
9.20, 16.45 Скваспнасьць.
10.05 "Зусім сакрэтна".
11.20 Баявік "Мэрсэдэс" уцякае ад пагоні".
13.20 "Працяг будзе...".
14.15 Пэпсы-чарт.
15.30 "Бандыцкі Пецярбург".
16.45 Скваспнасьць.
17.40 Крымінал.
18.00 "Сёньня" з Тацянай Мітковай.
18.35 "Свабода слова" з Савікам Шустэрам.
20.15 Вострасюжэтны фільм "Выкуп" (ЗША).
22.55 "Усе адразу!". "Начныя забавы"
23.25 "Зоркавая брама". "Яд".

### CNN

7.00, 8.00, 9.00, 10.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 16.00, 17.00, 18.00, 19.00, 20.00, 21.00, 22.00, 23.00, 0.00, 1.00, 2.00, 3.00, 6.00 Сусьветныя навіны.
7.30, 3.30 Міжнародны рэпартаж.
8.30 Навіны бізнэсу за тыдзень.
9.30, 13.30, 23.30 Рэпартажы замежных карэспандэнтаў.
10.30, 20.30 Эўропа буйным плянам.
11.00, 4.00 Лары Кінг.
12.30, 14.30, 17.30, 0.30 Навіны спорту.
15.30, 6.30 Дыпляматыя.
16.30 Героі выпускаў навін.
18.30 Прафэсійны гольф.
19.30 Афрыка буйным плянам.
21.30 Незвычайны бізнэс.
22.30 Пытаньне - адказ.
1.30 Навіны бізнэсу за тыдзень.
2.30 CCN.dot.com.
5.00 Азія буйным плянам.

### Эўраспорт

9.30 Экстрэмальныя віды спорту. Паўтор.
10.00 Футбол. Легенды кубку сьвету, Італія. Паўтор.
12.00 Футбол. "Каманды мары" Жылет. Паўтор.
12.30 "Адзін сьвет — адзін кубак". Футбольны тэлечасопіс. Паўтор.
13.30, 17.00 Цяжкая атлетыка. Чэмпіянат Эўропы. Турцыя. Жывая трансьляцыя.
15.30 Формула 3000, Барсэлёна. Жывое ўключэньне.
19.00 Вэляспорт. Кубак сьвету, Амстэль.
20.00 Мастацкая гімнастыка. Чэмпіянат Эўропы, Грэцыя.
21.00 Тэніс. Турнір АТР. Барсэлёна.
22.00 Бокс.
23.00 Конны спорт. Манака. Жывая трансьляцыя.
0.15 Футбол. Кубак сьвету. Карэя—КНР. Таварыскі матч.
2.15 Экстрэмальныя віды спорту.

## НЯДЗЕЛЯ, 28 КРАСАВІКА

### БТ

7.00, 9.00, 15.00 Навіны.
7.10 Сэрыял "Безь сям'і". 2-я сэрыя.
8.05 "Аграсьвет". Інфармацыйна-аналітычная праграма.
8.30 Арсэнал. Праграма пра войска.
9.10 Слова мітрапаліта Філарэта на сьвята Ўваходу Гасподняга ў Ерусалім (Вербніца).
9.25 Мультыклюб.
9.50 Фільм-казка "Іванка і цар Паганін".
11.15 "Усё нармальна, мама!".
12.00 Тэлевітамін.
12.25 "Адысэя". 1-я сэрыя.
13.15 Лёс чалавека. Бажэна і Сяргей.
13.40 III Міжнародны фэстываль цыркаў у Будапэшце (МФК).
14.30 "Наша спадчына". Шэдэўры нацыянальнага мастацкага музэю Беларусі. Частка 2-я.
14.45 "І іншыя афіцыйныя асобы".
15.20 Сьвет і мы.
15.40 Камэдыя "Я і Кацярына".
17.35 Крымінальнае дасье.
18.00 "Сустрэча ў Траецкім" з Аляксандрам Дамарацкім.
18.30 "Час мясцовы". Рэпартажы з правінцыі.
19.00 Плянэта "АРТ".
19.30 Тэлебаромэтар. Прагноз надвор'я.
19.45 Энцыкляпэдыя беларускага спорту. Гандбол.
20.00 Панарама аналітычная.
20.40 Спорт-кур'ер.
20.50 Маст. фільм "Ганна на шыі".
22.20 Футбол. Чэмпінат Беларусі. "Дынама-Менск"—"БАТЭ" (Барысаў). 2-гі тайм.
23.10 Мілянскі тыдзень моды ў праграме "Новая калекцыя".
23.35 "Жулі Леско".

### СТВ

6.00 "Канал гісторыі": "Рытуалы вуду". Дак. фільм.
7.00 "1/52". Спартыўны агляд.
7.15 "У гасьцях у Тофіка".
7.30 Мультсэрыялы "Русалачка", "Цік — герой", "Джын-Джын з краіны Пандаленд".
9.00 "Гадзіна пік".
10.00 "Пароль — "Вечнасьць".
11.00 "Тры хіты ў "Алькатрасе".
11.30, 18.10 "Дыскаверы" на СТВ.
12.00 "Сьнеданьне зь Лікай".
12.25 "Прэм'ер-парад "Сталічны".
12.45 Драма "Прыгавораны".
14.50 "Відавочца".
15.20 "Агенцтва".
15.50 "Чалавек-павук".
16.40 "Мяжа. Таежны раман".
18.00 "Добры дзень, доктар!".
18.25 "Арт-экспрэс".
18.45 "Пакуль гарыць сьвечка...".
19.15 "Аўтапанарама".
19.35 "Запрашаем паскардзіцца".
19.40 "168 гадзін Менску".
20.45 Баявік "Уцёкі зь Нью-Ёрку".
23.05 "Сакрэтныя матэрыялы".
0.10 "Альфрэд Хічкок прадстаўляе".
0.45 Начны музычны канал.
1.50 "М1".

### 8 канал

15.00 Фільм для дзяцей "Фокуспокус".
16.30 "Эўропа сёньня".
17.00 "Качыныя гісторыі".
18.00 Дак. фільм "Погляд на ўладу". 3-я сэрыя.
18.30 Маст. фільм "Адпачынак у верасьні".
20.40 Тэлекрама.
20.45 "Вечарніца".
21.00 "У бары "Ў Алега".
21.45 Баявік "Залаты палец".

### ОРТ

7.00, 9.00, 14.00 Навіны.
7.10 Служу Расеі!
7.40 "Дзіцяняты джунгляў".
8.05 Ранішняя зорка.
8.50 Бібліяманія.
9.10 "Падарожныя нататкі".
9.30 Пакуль усе дома.
10.10 Выратавальнікі. Экстранны выклік.
10.40 Клюб падарожнікаў.
11.20 "Тайны айца Даўлінга".
12.15 "Самі з вусамі".
12.50 Разумніцы і разумнікі.
13.15 Скарбы Крамля.
13.35 "Мікі Маўс і ягоныя сябры".
14.10 Песьня году. Вясна.
16.00 Жывая прырода. "Блакітная бездань".
17.00 Вячэрнія навіны.
17.20 Камэдыя "Кухарка".
18.50 "Жарт за жартам".
19.25 Баявік "Паветраная турма".
21.30 Часы.
22.45 Вострасюжэтны фільм "Хофа".

### РТР

6.35 "Астэрыкс і Клеапатра". Мультфільм.
7.50 Расейскае лато.
8.40 "ТБ Бінга шоў".
9.20 Добрай раніцы, краіна!
9.55 Сам сабе рэжысэр.
10.50 "Гарадок"
11.25 Камэдыя "Матыльда".
13.00 Весткі.
13.20 Парлямэнцкая гадзіна.
14.05 Дыялёгі аб жывёлах.
15.00 Вакол сьвету.
15.50 "ТБ Бінга навіны".
15.55 Аншляг.
17.00 Баявік "Вулічны баец".
19.00 Весткі тыдня.
20.10 "Пакой сьмеху".
21.10 Камэдыя "Вясельле найлепшага сябра".
23.15 Спорт за тыдзень.
23.45 Чэмпіянат сьвету па аўтагонках у клясе "Формула-1".

### Культура

9.10 "Дзікія жывёлы". "Ізноў сябры".
9.35 "Перапутавы астравы". Тэлегульня для школьнікаў.
10.05 "Пасля дожджычка ў чацьвер...". Маст. фільм.
11.20 Нядоўгія гісторыі.
11.35 1001 аповед пра кіно.
11.50 "Калегі". Маст. фільм.
13.30, 21.30 Навіны культуры.
13.45 Магія кіно.
14.10 "Людзі зямлі і неба". Дак. фільм.
15.00 "Тайна трэцяй плянэты". Мультфільм.
15.50 "У сьвеце танцу".
16.50 Зорныя гады "Ленфільму".
17.35 Тым часам.
18.15 Дом актора. "З каханымі не расставайцеся...".
18.55 "І жыцьцё, і сьлёзы, і каханьне". Маст. фільм.
20.32 Асабістыя ўспаміны пра вялікае жыцьцё.
20.35 "Госьць у акторскай студыі".
21.50 "Малох". Маст. фільм.

### НТВ

7.00, 9.00, 11.00, 15.00 Сёньня.
7.20 "Вуліца Сэзам".
7.40 Ох, ужо гэтыя дзеці!
8.10 Пэпсы-чарт.
9.15 Крымінал. "Шчырае прызнаньне".
9.45 Усё адразу!
10.20 Кватэрнае пытаньне.
11.20 Баявік "Заступнік".
13.20 Смачныя гісторыі.
13.25 Служба выратаваньня.
14.00 Свая гульня.
15.20 Прафэсія — рэпарцёр. "Шалёныя гонкі".
15.40 "Я і мой сабака".
16.30 "Жаночы погляд".
17.15 Вочная стаўка.
17.45 Шоў Алены Сьцепаненкі.
18.50 "Тайны сьледзтва".
20.00 "Надоечы".
21.15 Лялькі.
21.35 Вострасюжэтны фільм "Мутанты".
23.50 "Зоркавая брама".
0.55 Часопіс Лігі чэмпіёнаў.

### CNN

7.00, 8.00, 9.00, 10.00, 12.00, 13.00, 14.00, 15.00, 17.00, 18.00, 21.00, 22.00, 23.00, 0.00, 5.00, 6.00 Сусьветныя навіны.
7.30, 3.30 Міжнародны рэпартаж.
8.30, 18.30 Рэпартажы замежных карэспандэнтаў.
9.30, 23.30 Эўропа буйным плянам.
10.30 Незвычайны бізнэс.
11.00, 4.00 Лары Кінг.
12.30, 14.30, 17.30, 0.30 Навіны спорту.
13.30 Героі выпускаў навін.
16.30 Афрыка буйным плянам.
19.00 Ток-шоў Вульфа Блітцэра.
21.30 Навіны бізнэсу за тыдзень.
22.30 CNN.dot.com.
1.00 Навіны.
5.30 Дыпляматыя.
6.30 Агляд гульняў НБА за тыдзень.

### Эўраспорт

9.30 "Аднатура". Тэлечасопіс пра прыгоды на прыродзе.
10.30, 15.30, 19.00, 1.45 Цяжкая атлетыка. Чэмпіянат Эўропы. Турцыя. Паўтор.
12.00 Матакрос. Чэмпіянат сьвету. Германія.
13.00 Матацыклетныя гонкі. Жывое ўключэньне.
13.30, 17.00 Цяжкая атлетыка. Чэмпіянат Еўропы. Турцыя. Жывая трансляцыя.
16.00, 0.15 Мастацкая гімнастыка. Чэмпіянат Эўропы. Грэцыя.
19.30 Матацыклетныя гонкі. Імола.
20.00 Тэніс. Турнір АТР. Барсэлёна.
21.00 Конны спорт. Лексынгтон. Жывая трансьляцыя.
22.00 Аўтагонкі сэрыі Наскар.
23.00 Індыкар, Назарэт.
0.15 Мастацкая гімнастыка. Чэмпіянат Эўропы. Грэцыя.

З Новага году "НН" выходзіць на 16 старонках з тэлепраграмай. Дык падпісвайся!



# Лёнік Тарасэвіч: “Падлеткам мне

**— У Польшчы цябе лічаць беларускім мядзьведзем. А як ты адрэкамэндоўваешся за мяжой?**

— Мастак з Польшчы, і ўсё. Бо нешта большае там цяжка патлумачыць. Неяк яшчэ за савецкім часам пісьменьнік Сакрат Яновіч, мой сусед праз лес з Крынак, намагаўся давесьці некаму на Захадзе, што ён беларус. Ягоны суразмоўнік быў зьдзіўлены: “Спадар такі малады — і белагвардзеец?” Цяпер Беларусь займела ўласнага рэклямнага агента — Лукашэнку. Але мне таксама даводзілася даваць ідыёцкія тлумачэньні. У варшаўскім мастацкім асяродку шмат каму нават здавалася, што ў мяне нейкая псыхічная хвароба, нейкая манія, якая завецца Беларусь і беларускасьць. Цяпер гэта ўжо мінула. А немцу ці італьянцу якая розьніца, хто я? Толькі ў Беластоку на гэта яшчэ зважаюць.

**— Чаму б табе не пераехаць у Варшаву?**

— Што я буду там рабіць? Сьцены грызьці?

**— Цябе любяць у Бэрліне, Токіё, Нью-Ёрку. Чаго табе даўся той Беласток, што згадваеш пра яго ў кожнай размове?**

— Я жыву за кошт чужых комплексаў. Дзякуючы выставам у Нью-Ёрку я магу ладзіць імпрэзы ў Варшаве. Дзякуючы Варшаве мяне трываюць у Беластоку. А дзякуючы ўсяму гэтаму я магу жыць у вёсцы. Гэта мая бронекамізэлька. Цяжка высьмеяць мае карціны, бо іх бароняць аўтарытэты. Каб не яны, Беласток умэнт зганьбіў бы ўсё, што я прынёс у польскае мастацтва, як Сталін бэсьціў пачварнае мастацтва Захаду. А маю беларускасьць можна бэсьціць, бо за яе ніхто не заступаецца.

Беласточчына — гістарычная мініятура санацыйнай дзяржавы, з фэстам “тутэйшай” паэзіі і патрыятычнай песьні, якой нідзе болей ужо не пачуеш.

Мне даводзіцца ўвесь час прыкладаць страшэнныя намаганьні, пераплачваць, перажываць асабістую трагедыю, каб заставацца беларусам, жывучы ў Валілах.

**— Табе калі-небудзь хацелася “быць як усе”?**

— Так, калі я быў падлеткам. Я папрасіў маці вызваліць мяне ад вывучэньня беларускай мовы. Яна згадзілася. Гэта быў толькі дадатковы прадмет, апошнія два ўрокі ў суботу, калі астатнія хлопцы ішлі гуляць у футбол. Усе навокал казалі, што беларуская мова псуе расейскую і гэта гукнецца на ўступных экзаменах. Што гэта дыялект. Традыцыйны набор аргумэнтаў, якім паддаешся ў маладосьці.

**— Ты саромеўся сваёй нацыянальнасьці?**

— У часы майго дзяцінства нельга было не саромецца. Калі нехта размаўляў па-беларуску, цэлы аўтобус паварочваўся і адразу ж нехта нагадваў: “Тут Польшча!” Калі я вучыўся ў ліцэі, у грамадзкіх месцах ужо знарок размаўляў па-свойму. Неяк з Валікам Сельвесюком ехалі хуткім цягніком зь Беластоку ў Варшаву, гутарылі. Людзі пачалі дэманстратыўна выходзіць, забіраць багаж. Мы засталіся зь нейкай кабетай. Яна папрасіла, каб мы паводзілі сябе прыстойна. Беларуска, я пазнаў па вымаўленьні. Беласток перажыў шок, калі ў 1990-м у праграме “*Wiadomości*” на першым канале польскага тэлебачаньня я выступаў па-беларуску, а зьнізу ішлі польскія субтытры. Сёньня гэта, на шчасьце, ужо нікога не зьдзіўляе.

**— На якой мове гаварылі дома?**

— На тутэйшай. У часы майго дзяцінства, у 60-я гады, ніхто яе беларускай не называў. Польская яшчэ ня дужа была пашыраная. Такая была спадчына передваеннага падзелу сьвету: мясцовае насельніцтва — суцэльна беларускае, а поруч з гэтым — польская школа, самакіраваньне, горад.

Была ў мяне яшчэ сваячка, якая ў свой час выйшла замуж за багатага. Дом з самаварам, з кубкамі, якіх я раней ня бачыў. Яна пады-

> *Цяпер Беларусь мае ўласнага рэклямнага агента — Лукашэнку.*

ходзіла да мяне з папяросай, з кіёчкам і пыталася на дзіўнай мове: “Лявонцій Васільевіч, папа дома?”. Я не разумеў, чаго гэта старая баба ад мяне хоча. Яна таксама была рэліктам перадваеннай цывілізацыі, бо тады ўсе, хто дасягнуў пэўнага маёмаснага ўзроўню — ці багатыя жыды ў Беластоку, ці беларусы ў Гарадку — ператваралі дом у салён з элітарнай расейскай мовай. На працы бацька гаварыў па-польску. І калі нехта незнаёмы заходзіў у дом, ён аўтаматычна пераходзіў на польскую. А мама гаварыла толькі па-беларуску.

**— Дык твая сям'я не была багатая?**

— У нас не было сваёй гаспадаркі. Дзед перад вайной працаваў на чыгунцы. Калі ў XIX ст. будавалі чыгунку зь Беластоку на ўсход, за 5 км ад яго зьявілася станцыя Валілы. Паступова яна пертварылася ў рабочы пасёлак. З тартаком, з каменяцамі, пры якіх часам у загародках яшчэ трымалі жывёлу. Бацька выхоўваўся ў вартоўні каля чыгуначнага мосту. У маленстве ён сябраваў з Аляксеем Карпюком, тым, што пазьней “Вершалінскі рай” напісаў. Думаю, гэтае сяброўства адыграла вялікую ролю. Падчас вайны бацька пабываў у Чэхіі ў складзе ІІ Арміі. Трохі пабачыў сьвету, быў менш кансэрватыўны, чым мама. Мама паходзіць зь вёскі Мілешкі каля Гарадка. Калі я быў малы, яна ў дзьве зьмены працавала ў Гарадку на трыкатажнай фабрыцы. А бацька — у Беластоку на будоўлях.

**— Хто цябе навучыў польскай?**

— Тэлебачаньне і школа. Я добра ёю авалодаў, калі вучыўся ў ліцэі, — размаўляў без акцэнту. Лепш, чым цяпер, бо размаўляю па-польску толькі падчас нейкіх афіцыйных кантактаў.

**— Які вобраз гісторыі ты вынес з дому?**

— Мы і яны. Мы — беларусы, праваслаўныя — адчувалі сябе часткай Вялікага Княства Літоўскага, да якога некалі належалі гэтыя землі. У 1919 г. наш край упершыню далучылі да Польшчы. Маладыя ня вераць, што гэта было так нядаўна. У Гарадку з 1488 г. стаіць царква, а касьцёл быў пабудаваны толькі ў 1937-м. Нашы дзяды вярталіся зь бежанства ў Польшчу — страшэнна прасякнутую сваёй незалежнасьцю, польскасьцю і каталіцызмам. Калі я пра гэта кажу, чую пратэсты: як гэта, каб на крэсах панавала дыскрымінацыя, абмяжоўвалася правы на адукацыю, чыніліся агрэсіўныя, шавіністычныя акцыі Корпусу памежнай аховы!.. Адразу пасьля вайны сюды прыйшла ІІІ Віленская брыгада Нацыянальнага ваеннага саюзу, так званы атрад “Бурага”, які прарываўся ў Лазіцы. Яны спаткалі ў лесе беларускіх сялянаў з падводамі, якім солтысы загадалі нарыхтаваць дровы для мясцовых уладаў. Усе трапілі ў лапы “Бурага”. Хто ведаў папольску “Ойча наш” — адпускалі. Рэшту, трыццаць чалавек, скарысталі для перавозкі параненых і зброі. А потым у Старых Пухалах зьнішчылі. Каго застрэлілі, каго забілі прыкладамі ці друкамі. 50 гадоў пра іхны лёс нічога не было вядома. Праўда адкрылася ў 1997-м. Сёньня фурманы ляжаць на могілках у Бельску-Падляскім, а беластоцкі ваявода некалькі гадоў не дазваляў іхным сваякам збудаваць помнік. Толькі праз Вярхоўны адміністрацыйны суд яны дабіліся на гэта дазволу.

Усё жыцьцё я чую: “Лёнік, асьцярожней з гэтымі палякамі. Думаеш, зь імі можна па-нармальнаму, па-сяброўску? Ня ведаеш, на што яны здольныя, калі маюць уладу?”

**— Пасьля 1945 г. беларусы таксама не займелі.**

— Беларусы супрацоўнічалі з партыяй, службай бясьпекі, войскам. Я ўвесь час пра гэта чую, калі ўваходзіў у дарослае жыцьцё. Сёньня я ганаруся, што належу да народу, які быў такім нешматлікім у Польшчы, але здолеў заняць такое важнае становішча ў партыі і службе бясьпекі. Тады я ня ведаў, як да гэтага ставіцца. Я яшчэ не разумеў, што былі розныя беларускія пакаленьні. На бок камуністаў станавіўся бядняк. Ён атрымліваў кватэру ў горадзе — Бельску-Падляскім ці Гайнаўцы — і месца дворніка. Павышаўся па службе. Гэта было зьдзяйсьненьне мар. Памятаю швайцара зь Беластоку, які хваліўся, што мае ў склепе пяць канап-ложкаў, а ў ягонай пані ў маёнтку не было ніводнай. Гэтыя канапы былі для яго знакам дабрабыту. Палякі, якія зь вёскі перажджалі ў Ломжу ці Беласток, мысьлілі гэтаксама. Але зьвярнуўся ў беларускае таварыства, можа, у іх нешта будзе. Не было, але затое яны далі мне адрас Юр'я Туронка, гісторыка. Я параразмаўляў зь ім дзьве гадзіны, і ў маёй галаве ўсё стала на свае месцы.

**— Пра што ты дазнаўся?**

— Што ёсьць людзі, апантаныя ідэяй незалежнай Беларусі: Юры Туронак — гісторык, аўтар кнігі “Беларусь пад нямецкай акупацыяй”, Юры Геніюш — сын выдатнай беларускай паэткі Ларысы Геніюш, доктар з Гарадка, Ян Жамойцін — падчас вайны старшыня Саюзу беларускай моладзі ў Навагрудку, арыштаваны пазьней польскай службай бясьпекі і выдадзены расейцам. Інжынэр Юры Латышонак, пісьменьнік Сакрат Яновіч. Старэйшыя за нас больш чым на 20 год, адкінутыя сыстэмай. Іхнае пакаленьне пагарджала імі, лічыла іх ворагамі, шпегамі.

**— Чаму?**

— Гэтае пакаленьне, як і наступнае, не сфармулявала ніводнай палітычнай ідэі. Ім цалкам хапала БГКТ з членамі ЦК партыі і службы бясьпекі. Я добра іх ведаю. Яны папрыяжджалі зь вёсак, пакончалі ВНУ. Выбіралі тэхнічныя інстытуты альбо расейскую філялёгію — але не дзеля цікавасьці, а толькі для таго, каб стаць настаўнікамі. Іх вабіў Савецкі Саюз, расейская літаратура. Калі я прачынаўся раніцай у некага зь іх, дык ня мог зразумець, дзе знаходжуся — у Бельску, Беластоку ці Варшаве. Усё выглядала аднолькава. Канапа, два крэслы, дыван, пальма, нязьменныя паліцы з Чэхавым у залатых пераплётах, “Тры мядзьведзі” Шышкіна на сьцяне.

Толькі маё пакаленьне перастала нагадваць тых інжынэраў. Нас адрозьнівала стаўленьне да СССР і беларускасьці, якую яны лічылі нечым антырасейскім, ледзь не антыславянскім. Маглі размаўляць са старэйшымі, якія жылі беларускай ідэяй, але не хацелі.

Мы прагнулі нейкага абнаўленьня. Яновіч, Туронак, Латышонак зрабіліся для нас узорамі, мы знайшлі зь імі супольную мову. Між нас хутка ўтваралася група, у якой беларуская мова сталася элітарнай. Калі нехта ня ўмеў размаўляць па-беларуску, хоць бы на дыялекце, ён адчуваў сябе непаўнавартым і стараўся хутчэй выправіцца.

**— Што гэта за група?**

— Беларускае аб'яднаньне студэнтаў, зарэгістраванае ў 1981 г., скарочана БАС. Але, як зазвычай у той час, шмат што раблася бессыстэмна. Вандроўкі па Беласточчыне, дасьледаваньні гісторыі кожнай мясцовасьці, музыка, студэнцкі часопіс, стварэньне містычнай плыні ў Брацтве праваслаўнай моладзі, самаўдасканаленьне...

У дадатак я, як і многія іншыя, вучыўся чытаць і пісаць кірыліцай. І навучыўся-такі па кніжцы “Вершалінскі рай”. Яна мяне захапіла, бо яе дзеяньне адбываецца тут — у Валілах, Гарадку, Крынках. У нейкі момант я перастаў заўважаць, як перагортваю старонкі, — кірыліца знайшла ўрэшце сваё месца. Памятаю, як зь Янкам Максімюком (тым, што пазьней пераклаў на беларускую мову “Уліса”) перакладалі мой тэкст пра прысутнасьць пэйзажу. Трэба было шукаць невядомыя словы, напрыклад “прыгожае” ў філязофскім значэньні. Пераклад слова “*obecność*” — прысутнасьць — заняў у нас два дні. Так мы назвалі выдзеленую нам, студэнтам, старонку ў беларускай газэце “Ніва”. Альбо пакуты са словам “бацькоўшчына” — спадчына ад бацькі. Так мы афіцыйна назвалі сваю першую вандроўку. А паміж сабой казалі “бацькаўшчына”, што значыць “айчына”. Памятаю, Эла Бязюк — сёньня польская дыпламатка — першая напісала песьню “Ня плач, айчына” на словы Андрэя Сьцепанюка, цяпер бурмістра Бельску-Падляскага. БАС быў кузьняй. Ян Максімюк сёньня працуе на радыё “Свабода” ў Празе, Юрка Каліна — на беластоцкім тэлебачаньні, Малгося Пракапюк — на тэлебачаньні ў Варшаве, Коля Ваўранюк і Гандзя Кандрацюк — у “Ніве”, Юры Хмялеўскі ўзначальвае “Часопіс”... Кожны недзе працуе, нешта робіць.

**— Той час — ваеннае становішча, дэманстрацыі на вуліцах. Чаму вы ня зблізіліся з “Салідарнасьцю”?**

> *Апалячаны ці парусачаны беларус заўжды будзе нікчэмам.*

у Беластоку ўвесь час жывяць міт, нібыта цяпер улада жыдоўская, а за камуністамі была беларуская.

**— У ліцэі ты пазбавіўся нават беларускага акцэнту. Што ж адбылося потым?**

— Я мог размаўляць папольску, але палякам ня быў. Сьвет не жадаў набываць для мяне цэласнасьць. Я іграў у аркестры на вясельлях. І 90% рэпэртуару складалі беларускія песьні. Тое самае ў хоры ў Гарадку. У Мастацкую акадэмію я ня трапіў, не хапіла аднаго пункту. Мяне забралі ў войска. Там я даведаўся, што Польшча не такая ўжо адзіная. Што паляк не заўсёды разумее іншага паляка. Былі там усе гаворкі — з самых закінутых кутоў. У другі раз я паступаў пасьля арміі. Гэта быў 1979 год. На курсе былі 24 студэнты і толькі я — не з Варшавы. Я ўбачыў, што належу да іншай супольнасьці, якая тут страшэнна не пасуе. У Варшаве я адразу пачаў задумвацца, дзе б тут знайсьці беларускіх песень.

**— Беларускіх песень? На першым курсе Мастацкай акадэміі?**

— А польскі студэнт у Германіі што б рабіў? Шукаў бы пальшчызны і палякаў, каб за нешта зачапіцца. Кнігі былі для мяне абстракцыяй, а песьні — пасьля таго аркестру — рэальнасьцю. Я пайшоў у Інстытут мастацтва, але не знайшоў запісаў са сваёй мясцовасьці. Тады сястра мне параіла, каб я





Лявон Тарасэвіч. Бяз назвы

# таксама хацелася быць як усе”

— Кантэкст “Салідарнасьці” быў нам чужы, а ў беластоцкай вэрсіі — варожы. У той час наша сытуацыя нагадвала становішча польскай моладзі пасьля падзелаў Польшчы. У нас не было сваёй дзяржавы, сваёй неперакручанай гісторыі, сваіх школ. Таму мы мусілі яднацца. Мы хадзілі зь бела-чырвона-белымі значкамі, з “Пагоняй” — гэта стварала пачуцьцё еднасьці. Варшава была для нас нечым накшталт эміграцыі, Парыжам, зь якога мы вярталіся ў Беласток. Дзе можна было ня думаць пра кар’еру, калі ты спавядаў беларускасьць інакш, чым гэта дапускалася. А тады ўлада падтрымлівала беларускасьць толькі ў вёсцы, без звароту да гісторыі, да спадчыны. Гэта была бачнасьць падтрымкі, бо яна не фармавала нацыянальнай сьвядомасьці. Хто пакідаў вёску, канчаў ВНУ — палянізаваўся. Бракавала эліт, якія стаялі б на варце беларушчыны. Польскі эмігрант у Амэрыцы ішоў у касьцёл, каб спаткаць сваіх. А беларус у Беластоку — у царкву, адзіны ягоны прытулак.

“Салідарнасьць” хацела дзяржавы з касьцёлам, з культам Пілсудзкага. На Беласточчыне гэта было непрымальна. У Гарадку габрэі і беларусы мелі некалі супольнага ворага — санацыйную адміністрацыю. А для “Салідарнасьці” гэтая адміністрацыя была проста польскаю. “Салідарнасьць” хоча мець панскую Польшчу”, — так казала мая мама. У гэтым каранi яе паразы тут пасьля 1989 г.

**— Чаму ты вярнуўся ў Валілы?**

— Нехта мяне папікнуў, што я тут не жыву, толькі ежджу па Варшавах. Ну дык што? Некаторыя езьдзяць на працу ў Беласток, а я трохі далей. У 80-я мы былі поўныя веры, энтузіязму. Вяртаньне пасьля вучобы на Беласточчыну, у вёску мы лічылі натуральнай зьявай. У акадэміі я сьвядома ня выбраў графікі, бо гэта прывязала б мяне да гораду. Адзінае месца, дзе я магу адчуваць сябе нармальна, — гэта ваколіцы Гарадка. Бо тут мая гісторыя і мая мова. Майстэрня ў доме бацькоў была занадта малая. Тады я знайшоў закінутую школу, адрамантаваў яе і маляваў там свае карціны. Гэта выглядала так: я ўставаў раным-рана, а шостай ехаў у Гарадок шукаць людзей для працы на будоўлі, потым а палове на пятую — да мамы на абед, а вечарам — у Бельск-Падляскі сустрэцца зь сябрамі ў Марылькі Базылюк, легендарнай настаўніцы беларускай мовы. І там — бясконцыя размовы пра Беларусь. Уночы вяртаньне, з раніцы — зноў рамонт. Выставы — “Белая галерэя” ў Любліне, “Дэканка” ў Варшаве, выезды ў Швэцыю, Італію, Германію, пазьней у Нью-Ёрк. Такі рытм захоўваўся ўвесь час.

**— Што пра цябе ў Валілах кажуць суседзі?**

— Тут я Лёнік Тарасэвіч, Васькаў сын. Маё мастацтва лічыцца хутчэй дзівацтвам. Зрэшты, у мяне “ўсё не як у людзей”. Мама заўсёды так казала, варта мне было нечым ня тым пацікавіцца, інакш апрануцца. Неяк я спытаў: “Пра якіх людзей ты гаворыш? Пра тую суседку, сына якой за п’янства выгналі зь міліцыі, ці пра тую, што хадзіць з падбітым вокам, бо муж яе б’е? На якія ўзоры я павінен арыентавацца?” Вяртаюся пасьля вучобы ў 1984-м, а суседзі: “Чаго вучыўся? Ані працы, ані грошай, ані выгады з таго ня маеш. Па-польску ня вывучыўся, ходзіш з сабакам у валёнках, ня здолеў застацца ў горадзе”. Усё ня так. Пачаў выяжджаць за мяжу. Кожны ведае, што туды езьдзяць па даляры, дый не на адзін тыдзень. А я да ўсяго вяртаўся з пустымі рукамі. Выглядала, нібы працаваў на службу бясьпекі, сусед-стукач яўна прымаў мяне за свайго. Заняў развалены будынак. Дрэнна — быццам злодзей. Маці пужае: “Прыйдуць рускія, то цябе раскулачаць”. Аднаўляю будынак — зьяўляюцца даносы. Хто напісаў донос, заўжды ўрэшце сябе выдае. Пачынаюцца спрэчкі. 1990 год, займаемся падрыхтоўкай да выбараў. Я зноў вар’ят. Потым мяняецца ўлада. Хто страціў на пераменах, вінавaціць мяне — таго Лёніка.

**— Ты тады стаў у Гарадку дэпутатам. Навошта?**

— Каб людзям паказаць, што яны таксама могуць нешта мець з дэмакратыі. Быў тут старшынём Беларускага дэмакратычнага аб’яднаньня. У паветовай радзе мы здабылі 17 месцаў з 20. Памятаю першае пасяджэньне. Устаў польскі дэпутат і кажа: “У гэтай залі патыхае беларускім шавінізмам”. Пачынае разьвіваць гэтую думку. Я на гэта: “Супакойцеся, калі ласка. Ужо той факт, што гэтае пасяджэньне ідзе па-польску, сьведчыць пра вялікую талерантнасьць”. Ён сеў бледны. У Гарадку зьявілася дзьвюхмоўнае выданьне. Два гады працягваліся выступы, што *“Gazeta Gródecka”* павінна выходзіць толькі па-польску. Альбо, прынамсі, лацінкай на гэтай нашай простай, гутарковай мове. Час ад часу даводзілася ламаць такія бар’еры. І гэта ўдавалася. Потым кінуў дэпутацтва. Няма сэнсу мне займацца будаўніцтвам дарог. Лепей замест гэтага стварыць у Акадэміі адкрытую для ўсіх майстэрню, такую, пра якую сам марыў у часе студэнцтва. Як магу, стараюся нешта разьвіваць. Калі ж бачу стомленую абыякавасьць асяродзьдзя, пераходжу на іншы грунт.

**— Калі ты заўважыў, што беларускае асяродзьдзе абыякавае?**

— Пасьля рок-фэсту “Басовішча”, які я арганізаваў у 1993 г. ва ўрочышчы Борык, паміж станцыяй Валілы і Гарадком, разам з “Томсанам” — Томашам Андраюком. Малгося Пракапюк, якую потым зганьбілі па беластоцкім тэлебачаньні, выступала разам са мной у ролі вядучай. А Сакрат Яновіч у кедах, у цёмных акулярах разам з маладымі выйшаў адкрыць імпрэзу. Мала хто мае столькі элегантнасьці, як Сакрат. Узровень быў агульнапольскі.

Але калегі-беларусы не ўпадабалі гэтай працы. У “Ніве” прачытаў, што любоў да бацькаўшчыны і хрысьціянскія каштоўнасьці даюць унутраны спакой. І тады ўжо чалавеку няма патрэбы крычаць у мікрафон. Выбачайце! Мікалай Ваўранюк усё жыцьцё змагаўся з абмежаваным разуменьнем культуры, а забыўся, адкуль паходзіць рок. Першы канал паказаў кадры з “Басовішча”, а Беласток — не. Усе мясцовыя газэты раскрытыкавалі фэстываль, найстражэй Ежы Нахіла ў *“Kurierze Porannym”*. Чапляўся абы-чаго, маўляў, там пілі піва. А я пытаюся: вой, а ў народзе на баседах ня п’юць? Яшчэ як, толькі ня піва, а гарэлку!

**— Ты страціў многа саюзьнікаў сярод беларусаў. Чаму так здарылася?**

— Час, у які мы жылі, быў нам за скакуна. Ён узьнёс нас на вышыні, якіх мы часам не заслугоўвалі. Крэслы, пасады былі вольныя. Калі атрымліваеш тое, чаго ня варты, — баішся. Зьнішчаеш усіх больш-менш актыўных вакол сябе. Абрастаеш структурамі, прыцягваеш няўдачнікаў. Колішнія бунтары сёньня ператварыліся ў кансэрватараў. Патыхае ад гэтай кампаніі такім нафталінам, што, здаецца, камуністы былі больш адкрытыя і энэргічныя.

Часам я бачу, што немагчыма нешта рабіць разам зь імі. Чакаю, што прыйдзе моладзь, зь якой я зраблю гэтую працу. Але няможна здавацца. Само рашэньне аб выданьні нашай беларускай газэты прымалася пяць год. Такое было супраціўленьне кансэрватараў.

Падобныя бар’еры я пераадольваў і ў мастацтве. Выкладчыкі ў акадэміі ставяць абмежаваньні: гэта жывапіс, а гэта — не. А для мяне любы сказ на мове жывапісу — гэта жывапіс. Неабавязкова на палатне — матэрыялам можа быць і зямля. Нават крэмзаньне пальцам па сьцяне чыгуначнай станцыі ў Калюшках. Кожная новая рэч найперш сустракае супраціўленьне з боку студэнтаў і калег. Потым набывае каштоўнасьць і насьледуецца. Трэба ствараць цывілізацыю, безь яе мы сядзелі б на дрэвах. Ёсьць вада, дрэвы і астравы. Лепей мець жаданьне па-новаму зірнуць на Аўстралію, чым, як мае равесьнікі, нічога больш не хацець. Лепей перасаджваць расьліны, але не апускаць рук. Гадую пародзістых курэй: гэты занятак у Польшчы занядбаны. Зьяўляюся старшынём клюбу аматараў дэкаратыўных курэй: заўсёды цікавіўся арніталёгіяй. Мару ўвайсьці ў курнік і ўбачыць птушку, якая няхай яшчэ не ідэал, але дае надзею на атрыманьне лепшага колеру і формы.

Толькі б не апускаць рук. Толькі б жыцьцё мела сэнс нават у элемэнтарных дзеяньнях. Гэта дае плён у мастацтве. Неўзабаве пасьля вучобы ў акадэміі я апынуўся за мяжой. Я пераканаўся, што на сьвеце мала мастакоў. Я не кажу пра дэкаратыўную прадукцыю, якую можна знайсьці ў тысячы галерэек. Усё стала бескампрамісна рэалістычным. Тое, што ты робіш, мала каго хвалюе. Ёсьць усяго пара людзей, зь якімі можна сустрэцца і паразмаўляць. Дзякуючы гэтым людзям я выжыў. У Вэнэцыі я размаўляю з Габрыэляй Гардацы, галерысткай, тут — з Сакратам Яновічам, Янкам Грыкам зь “Белай галерэі” ў Любліне. Я еду старой каралеўскай дарогай зь Вільні ў Кракаў, каб паўгадзіны паразмаўляць зь Ежы Навасельскім і пасьля гэтага паўгоду нармальна жыць. Бо я размаўляю зь ім пра мастацтва, а для яго гісторыя мастацтва не канчаецца за Бугам. Ён давёў мне, што Бізантыя — гэта ня тое самае, што расейская культура. І якім чынам Бізантыя зьвязана з рымскай культурай. Гэтыя некалькі людзей — доказ таго, што ў духоўных адносінах сьвет яшчэ жывы.

**— Дзе сёньня б’ецца сэрца Беларусі? На Беласточчыне ці ў Менску?**

— У 90-я Беласточчына была П’емонтам паміж савецкай Беларусяй і эміграцыяй, што захавала ідэю незалежнасьці. Сёньня гэтая энэргія ёсьць ужо ў самой Беларусі. Гэта велізарны патэнцыял. Калі ўмовы цяжкія, плёну мала. Але тым больш каштоўнае тое, што ўдаецца. Перашкоды, якія беларусы сустракаюць на сваёй дарозе, выхоўваюць незвычайных асоб. Шалупіньне адсейваецца. Калі я сустракаю апалячанага ці парусачанага беларуса, мне не шкада. Ён заўсёды будзе нікчэмам. У Дусэльдорфе вучацца маладыя беларускія мастакі. Ведаю, якія цяжкасьці яны мусілі пераадолець, каб апынуцца там. Але з гэтага будзе плён. Зь няшчасьцяў Беларусі можа нарадзіцца нешта добрае. Лепшае, чым зьняверанасьць і нігілізм сучаснай Польшчы.

**— Што цябе засмучае?**

— Палітыка ў дачыненьні да беларусаў мала зьмянілася. Літоўская дзяржава клапоціцца пра сваю меншасьць у Польшчы, пра добрыя школы, дае моладзі магчымасьць вучыцца ў Вільні і г.д. У немцаў заўсёды будуць два месцы ў польскім парлямэнце. Беларусаў больш, чаму ж нам усё замяняе адзін Цімашэвіч? Няма ўзаемнай падтрымкі. Лукашэнку прыводзіць у шаленства тое, што на Беласточчыне ёсьць беларускасьць. У Польшчы касьцёл настройвае адных супраць другіх, царкву ж усё задавальняе.

Беластоцкія ўлады занялі санацыйную пазыцыю, якая нясе страты для культуры. Хоць Сакрат і я нешта Польшчы даём. Ніхто не працуе над аб’ектыўнымі гістарычнымі дасьледаваньнямі гэтых земляў. У школах няма праграм, якія дапамаглі б дзецям больш даведацца пра сябе і сваіх продкаў. Напрыклад, што беларуская гісторыя больш крывавая, чым польская, — з-за Расеі. Што ВКЛ ваявала з Масквой. Што Хадкевічы абаранялі Карону. Што савецкая ўлада забівала за перакананьні, што і сёньня за іх нярэдка даводзіцца цярпець, калі ў табе бачаць камуніста альбо пятую калёну чужой дзяржавы — Расеі.

**— Што можна зрабіць?**

— У школе на ўроках гісторыі мяне вучылі, што тут была зялёная пляма. Аніякай цывілізацыі, адны лясы. І толькі народная ўлада стварыла тут зямны рай. Усё няпраўда. Цывілізацыю на гэтую зямлю прынесьлі Хадкевічы. У духоўнай сфэры — бо гэта яны пабудавалі першую царкву і прывялі сюды праваслаўных манахаў, а праз два гады, у 1500 г., залажылі для іх у Супрасьлі манастыр. У сфэры культуры — бо дзякуючы ім тут зьявілася першая друкарня і ў 1568 г. была выдадзена першая кніга — Заблудаўскае Эвангельле. А таксама ў сфэры мастацтва: Хадкевічы прывезьлі ў Супрасьль сэрбскага мастака Нэктарыя. Ён маляваў тут царкву ў 1557 г., роўна за 400 год да майго нараджэньня.

Што можна зрабіць? Аднавіць возера. Вал ёсьць, яго збудаваў Рыгор Хадкевіч у 1568 г., трэба толькі затрымаць ваду, і Гарадок зноў апынецца на паўвостраве. І адбудаваць замак. Восем драўляных будынкаў, частакол — якая праблема. Паставіць конны помнік Аляксандру Хадкевічу, заснавальніку гораду. У замку стварыць музэй з партрэтамі Хадкевічаў. І каб там была копія “Люблінскай уніі” Матэйкі, на якой Ян Хадкевіч, ураджэнец Гарадка, роспачна хапаецца за галаву. Каб быў “Хоцім” Бранта, “Кірхальм” Косака — хоць бы копіі. Па-іншаму расло б маладое пакаленьне, бяз комплексаў. Але сёньня мне не ўдаецца нікога зацікавіць. Можа, калі-небудзь...

**Гутарыла Лідзія Асталоўская, пераклад з польскай.**
**Фота Гжэгажа Дамброўскага, Gazeta Wyborcza**



Лявон Тарасэвіч гадуе пародзістых курэй. Зьяўляецца старшынём клюбу аматараў дэкаратыўных курэй. Ён заўсёды цікавіўся арніталёгіяй. На ягоным падворку сакочуць дзясяткі экзатычных птушак.

*Усё выглядала аднолькава: канапа, два крэслы, дыван, пальма, нязьменныя паліцы з Чэхавым у залатых пераплётах, “Тры мядзьведзі” Шышкіна на сьцяне.*



Лавон Тарасэвіч. Бяз назвы

Зося Баброўнік

# 6 Шэсьць цудаў Лунінца



**Сябры мае ўсьміхаюцца: ты, Зосечка, заўсёды так пра Лунінец распавядаеш, нібы там пуп зямлі. А хіба ж ня так?! Тут ён, гэты пуп, недзе пад навакольнымі балотамі. Здаўна людзі марылі адшукаць яго і, як толькі на сьвеце зьявіліся магутныя машыны, адразу ўзяліся за справу. Панакапалі канаваў, каб тыя балоты асушыць ды зямлю за пупок памацаць, але, дзякаваць богу, пакуль ня здолелі. Але і без таго пупа ёсьць многа цікавага ў Лунінцы і ягоным навакольлі, а я заўсёды радая пра гэта распавесьці.**

## Астраномія і ружы

А зоркі ў Лунінцы вялізныя-вялізныя. Зь яблык кожная, і зьзяюць вельмі. Пад імі добра закаханым гуляць.

— Любая, калі зорачка падаць будзе, ты якое жаданьне загадаеш?

— Загадаю, каб іх як болей падала!

І месяцу добра між зорак каціцца. Ён — як вялікі ліхтар над горадам: асьвятляе вулачкі і завулкі, размалёўвае срэбрам лісьце на дрэвах, камяні старога бруку і траву ў дварах. Кожны яблык у траве — як маленькі срэбны месячык. А кроплі расы на ружах на плошчы — як маленькія зорачкі.

Гэтыя ружы — адзін з шасьці цудаў Лунінца. Яны квітнеюць тут кожнае лета, і іх хапае на ўсіх лунінецкіх дзяўчат. Калісьці ля кветак нават ставілі варту. Але ёсьць тая варта ці няма — усё адно атрымліваюць лунінчанкі цудоўныя букеты.

І я, вядома, атрымала ружу з кроплямі-зоркамі. І тое, чаго я не разумела ў студэнцкай аўдыторыі, зрабілася вельмі зразумелым тут. Добра сузіраць Млечны шлях з кубкам малака ў руцэ, разглядаць сузор'е Ганчакоў пад брэх калматага рудога сабакі.

А самыя вялікія астраномы — гэта каты. Яны ўзлазяць як мага вышэй — хто на плот, хто на дах, іншыя сядаюць на галіны, — і пачынаецца ў іх зорная "катфэрэнцыя".

## Фэадосія

Пакладіся аднойчы Міхась зь дзецьмі спаць пасьля абеду, а мы з матуляй засталіся посуд мыць. Аж тут госьць прыйшоў нечакана. Бачу я: матуля адным вокам вельмі ўзрадавалася, а другім — так сабе. Бо частаваць госьця не было чым: мы ўсё пад'елі. Вось яна мне й кажа ціхенька:

— Ты, Зосечка, зь ім пасядзі, пагавары з паўгадзінкі, а я на гароды ды ў краму схаджу.

Ніколі я гэтага чалавека ня бачыла, а матуля не пасьпела расказаць, хто такі й пра што зь ім гаварыць. Селі мы на канапу і разглядаем адно аднаго вельмі прыхільна.

— Жонка мая ў Фэадосію паехала, — кажа раптам госьць. — Я сёньня званіў у Фэадосію! Па міжгорадзе! Не дазваніўся... Пайшла кудысьці... А Вы Насьціна дачка будзеце? ...Ага, нявестка...

Патроху высьветлілася, што ён, як і мой Міхась, працуе ў тутэйшым ліцэі. Вось і ламаю я галаву, што б такое ў яго пра ліцэй спытацца, каб ён сам надоўга разгаварыўся. Трэба ж ведаць, пра што пытаць.



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Сама я толькі некаторыя словы ведаю. Напрыклад, "вучэбны плян". Ці "нагрузка". Яшчэ "прэміяльныя надбаўкі", "акадэмічная гадзіна"...

Склаўшы ўсё гэта разам, я пачала пытацца:

1) А які ў вас вучэбны плян?

Адказаў.

2) А якая асабіста ў Вас нагрузка?

Адказаў.

3) А ці ёсьць у ліцэі прэміяльныя надбаўкі?

Адказаў.

4) А колькі хвілін у Вас акадэмічная гадзіна?

Адказаў. І зноў маўчыць. Я зьбянтэжылася. А госьць:

— Я званіў сёньня ў Фэадосію. Па міжгорадзе. Жонка мая туды да дачкі паехала. Не дазваніўся. З дачкой пайшлі кудысьці...

Тады я падышла да размовы крыху зь іншага боку. Цяпер мае пытаньні гучалі так:

1) Хто ў вас складае вучэбны плян?

2) Ці задавальняе Вас нагрузка?

3) Ад чаго залежаць прэміяльныя надбаўкі?

4) Якія перапынкі паміж акадэмічнымі гадзінамі?

Госьць радасна адказаў. А потым дадаў:

— Вы, я бачу, трошкі разумная жанчына. Ва ўсім разьбіраецеся.

Я ніколі такіх дзіўных словаў ня чула. Мяне заўсёды лічылі, у залежнасьці ад абставінаў, альбо поўнай дурніцай, альбо надзвычай разумнай бабай. А госьць сказаў:

— А вось мая жонка — у Фэадосіі...

Ну, далей вы ведаеце.

Тут матуля прыйшла. Ежу прынесла. Я — да яе, кажу, давайце я прыгатую, а Вы з госьцем пабудзеце, а то я ўжо ня ведаю, аб чым зь ім гаварыць. А маці:

— А я ж чула праз акно, як ішла, дык надта вы добра зь ім гутарыце, відаць, яму вельмі падабаецца. Давай гэтак яшчэ хвілінаў пятнаццаць, а я пакуль зьбяру на стол.



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

Наступны варыянт пытаньняў гучаў так:

1) Якія дадатковыя спэцкурсы ўваходзяць у вучэбны плян?

2) Ці не зьяўляецца такая нагрузка цяжкой для вучняў?

3) Колькі гадзінаў у тыдзень займаюцца ліцэісты?

Пра прэміяльныя надбаўкі я больш пытаць ня стала, бо заўважыла, што для госьця гэта наагул складанае пытаньне. А тут і матуля пачала на стол несьці. Госьць вельмі ўзрадаваўся. Ён — для матулі — распавёў ізноў пра Фэадосію і міжгорад, а матуля растлумачыла, які наш госьць цудоўны чалавек:

— Ён жа ж даў нам каня бульбу пасадзіць, а што б мы безь яго рабілі?!

Выпілі за госьця. Паслухалі пра Фэадосію. Выпілі за госьця.

За дзьве гадзіны я пасьпела трохі адпачыць ад ролі ветлівай гаспадыні й цікавай суразмоўніцы. Госьць аж зіхацеў. Ён добра падгуляў і быў ня супраць паўтарыць размову пра нагрузку і вучэбны плян. На шчасьце, са спальняў палезьлі дзеці, і я хуценька падсадзіла іх да госьця з двух бакоў, а сама ціхенька зьбегла, ня маючы больш моцы слухаць пра Фэадосію. Матуля працягвала несьці на стол, але я ўжо была ёй не памочніца.

Зазірнуўшы гадзіны праз дзьве ў залю, убачыла поўную ідылію. Госьць, у якасьці баявога каня, поўзаў вакол стала з малым на карку і весела ржаў, а малая цягнула яго за цуглі, зробленыя з паяска і прывязаныя чамусьці за вушы.

...Вячэралі разам. Слухалі пра міжгорад і Фэадосію. Калі госьць зазьбіраўся дахаты, маці, добрая душа, сказала:

— Пайду падвяду яго, каб нідзе не збадзяўся...

Ня бачыла я ніколі той Фэадосіі і наўрад калі ўбачу. Але ўспаміны аб гэтым горадзе ў мяне ўжо ёсьць!

## Кінабізнэс

Прывезьлі ў Лунінец "Шляхціца Завальню". Убачыўшы на дзьвярах кінатэатру афішу, я падгаварыла Міхася й дзяцей пайсьці ў кіно ўсім разам. Я хацела забіць адразу двух зайцоў — разгледзець зь сярэдзіны тое, што дагэтуль бачыла толькі звонку, — кінатэатар, а таксама пабачыць экранізацыю ўлюбёнага твору.

Увечары мы прыбраліся і пайшлі ў кіно. На пляцоўцы ля кінатэатру гуляла басаногае дзіцянё і спаборнічалі ў сьпевах два каты. Непадалёк на лаўцы сядзелі дзьве кабеткі. Дзьверы былі зачыненыя.

— Мы першыя, — сказала я. — І, заўваж, апошнія.

— Пачакай, пачакай, яшчэ прыйдуць, — няўпэўнена супакойваў Міхась.

Кабеткі спыталі нас: "Вы на фільм? А вось калі пяць-шэсьць гледачоў набярэцца — тады адчынім!" — і радасна зарагаталі. Да іх далучылася яшчэ таварка, якая прынесла ім батон. Мы зразумелі, што гэта касірка, кінамэханік і, відавочна, адміністратарка.

Прайшло хвілін дзесяць — іншыя гледачы не зьяўляліся. Кабеткі далі нам параду — пайсьці лепей на плошчу Леніна, там якраз пачынаецца гарадзкое сьвята і падвезьлі прадукты. "Туды заўсёды пасьпеем!" — адказалі мы. Жанчынам вельмі хацелася на плошчу, але і нас нельга было пакінуць ля неадчыненых дзьвярэй ("Яшчэ скардзіцца пойдуць...").

І вось — дзіва!

Як яны ішлі! Не ішлі — павольна ляцелі да нас, як два анёлы, — гэтыя хлопец зь дзеўчынай. І з кожным іхным крокам усё больш выцягваліся твары касіркі, кінамэханіка і, відавочна, адміністраткі. Нас было ўжо чацьвёра! Нам нельга было не адчыніць!

— Які аншляг! — аптымістычна заўважыла дзяўчына, і мы зрабілі ля касы чаргу, далучыўшы да яе нашых дзяцей.

— Нас ажно шэсьць — давайце квіткі!

Але дасьведчаная касірка сказала, што рэшты ня мае. А калі мужчыны пайшлі ў краму разьменьваць грошы, увогуле ўзьнялася:

— Ня буду чатыром квіткі прадаваць (дзеці ня ў лік). Трэба пяць гледачоў, інакш невыгодна — сьвятла больш напалім.

А мы параіліся і кажам:

— Давайце пяць квіткоў — вось!

Як нас у кіназалю праводзілі! І дзьверы ў вэстыбюль урачыста адчынілі, і эскорт таксама быў: касірка, кінамэханік і, відавочна, адміністратарка.

Добра адпачылі... І фільм прыгожы, і дзецям было дзе пабегаць-пагуляць. І паветра ў залі вельмі шмат. Пасьля сэансу мы вырашылі, што кінабізнэс у Лунінцы — найлепшы ў сьвеце. Толькі да яго трэба падыход мець.

## Порна

Гэтае задавальненьне атрымаць зусім лёгка. Дастаткова сесьці на правым беразе Прыпяці ў сонечны дзень, узброіўшыся тэатральным, а яшчэ лепей — вайсковым біноклем. А глядзець трэба на левы бераг, што бліжэй да Лунінца. Пільнаму назіральніку пэўна пашанцуе, бо ахвотныя скокнуць у ваду галяком заўжды знойдуцца. Мясцовыя такім не займаюцца: усе ж адзін аднаго ведаюць, потым усё Палесьсе пальцамі паказваць будзе! Гэта прыежджыя параспранаюцца — і зь віскам у ваду. Якая ж тут эротыка? Порна сапраўднае!



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

## Шанхай

Мы сядзім ля вогнішча на левым беразе Прыпяці і з задавальненьнем пазіраем на шэрыя пасмы туману, што цягнуцца ад вады ў наш бок, — камароў уначы ня будзе. Нягледзячы на суботу, у Шанхаі вельмі ціха, толькі недзе ледзь чутна брынкае гітара. Шанхаем, патлумачу, тут ласкава называюць лецішчы, густа насыпаныя ля



IREX-PROMEDIA

вады. Ня ведаю, чаму яны яшчэ не сплылі ў паводку.

Наш вагончык на колах стаіць далей ад вады, на лузе ля хутару. Адсюль мы бачым усё навокал. Вунь статак каровак, пераблытаны з туманам, павольна цягнецца да нас, вунь коні ў загоне вырашылі адзначыць каханьнем зьяўленьне першай зорачкі, вунь заяц, перапалоханы грукатам матацыклу, уцякае ў высокую траву. Рыпіць калодзеж-журавель пад спрытнымі рукамі гаспадыні. Тут на хутары толькі і жыхароў дзед ды баба, гаспадарка ў іх добрая, ёсьць усё, што трэба: хата, хлявы пад стрэхамі з чароту, калодзеж і вялізны дуб, на якім начуюць гаспадарскія індыкі.

Хвілінаў сорак мы назіраем, як птушкі ўзьбіраюцца на дрэва. Спачатку самы вялікі індык ўзьлятае на ніжнюю галіну дуба. Крыху адпачыўшы, перабіраецца на наступную, а на ніжнюю ўжо цяжка плюхаецца ніжэйшы рангам родзіч — індык нумар два. Астатнія птушкі чакаюць сваёй чаргі, і, ледзьве індык нумар адзін пералятае вышэй, а індык нумар два займае ягонае месца, трэці нумар апынаецца на ніжняй галіне. Усё ішло вельмі арганізавана і гладка, пакуль нумар першы ня зрынуўся раптоўна зь нейкай галінкі, пазьбіваўшы па дарозе ўсіх, хто ўжо ўзьлез на дрэва. І ўсё пачалося спачатку... Ужо амаль зусім сьцямнела, калі вялізныя птушкі канчаткова застылі паміж лісьця й галінаў.

Дабранач, Шанхай.

## Кароб'е

Маршрут Шанхай—Кароб'е кожны пераадольвае згодна з асабістым густам і магчымасьцямі. Маеш човен — трапіш у вёску сухі. Маеш сілу — плыві цераз Прыпяць. Маеш час — вяртайся на Лунінецкі вакзал і чакай цягніка, а потым — праз лес, заліўныя лугі, чыгуначны мост, заліўныя лугі... І літаральна хвілін за пятнаццаць трапіш на станцыю Прыпяць. Адсюль шпацыруй назад да ракі.

Вёска завецца Кароб'е, бо раней хаты ў ёй плялі з галінаў, нібы карабы, а потым абмазвалі глінай. Цяпер дамы ў вёсцы драўляныя, а іхныя дахі даюць прытулак буслам. У вялікую паводку жыхары, як і сто гадоў таму, езьдзяць адзін да аднаго на сяло ў чаўнах.

...Мы сядзім ля вогнішча на правым беразе Прыпяці і дыхаем водарам траваў, які зрабіўся асабліва моцны пасьля навальніцы. З гадзіну Пярун грукатаў, кідаючы на спалоханую зямлю маланкі, ільючы дождж. Аж раптам ён зьнік — і запахлі цудоўна травы, і зьявілася ў небе вясёлка, ды якая! Пад ёю былі дзьве ейныя сястры, такія ж яскравыя, такія ж прыгожыя.

Неўзабаве да нас далучыліся буслы з дваімі ўжо даволі вялікімі бусьлянятамі. Яны паглядзелі ў наш бок, а потым пачалі танчыць: сталі ў кола, узьнялі крылы і то сыходзіліся разам, то разыходзіліся, прыгожа перабіраючы тонкімі чырвонымі нагамі...

Зьявіліся на небе першыя зорачкі, падаліся буслы на свой родны дах, трэба й нам пасоўвацца дахаты, карміць дзетак ды прыблуднага вожыка, які вельмі ласы на малако.

**Лунінец**



АНАТОЛЬ КЛЯШЧУК

# Гісторыя аднаго немца

**Часопіс "*Spiegel*" ("Шпігель") прызнаў найлепшай нямецкай кнігай за 2001 год "Гісторыю аднаго немца" — недапісаны твор, які 60 гадоў праляжаў у шуфлядзе. Ягонага аўтара, Сэбасьцьяна Гафнэра (сапраўднае імя — Раймунд Прэтцэль), ужо тры гады як няма, аднак лёс гэтага пісьменьніка і журналіста не перастае зьдзіўляць і захапляць. Гафнэр зьмяняў прозьвішча, грамадзянства, погляды, быў адным з самых выбітных і адначасова супярэчлівых публіцыстаў пасьляваеннай Нямеччыны. Хто ён? Хамэлеон? Апартуніст? А мо папросту геніяльны назіральнік і аналітык?**







## Жыцьцё як жыцьцё

Бліскучай кар'ерай Гафнэр "абавязаны"... Гітлеру. Калі б у 1933-м фашысты не прыйшлі да ўлады, 26-гадовы юрыст працаваў бы сабе далей у судзе і марнаваў пісьменьніцкі талент на складаньне афіцыйных паперак. Але пры нацыстах чыноўніцкі сурдут пачаў хутка набываць карычневае адценьне, і Гафнэр зьмяніў яго на вальнейшую адвакацкую тогу, якая, зрэшты, таксама выявілася вельмі нязручнай уніформаю, у якой цяжка было захаваць уласную пазыцыю ў гітлерызаванай Нямеччыне. Сякую-такую свабоду мелі яшчэ журналісты, і з 1936 г. Гафнэр пачынае пісаць артыкулы пра моду і скачкі, працаваць у снабісцкіх газэтках і рэдагаваць часопісы для жанчын. У 1938-м ён разам з нарачонаю эміграваў у Вялікую Брытанію.

Здавалася б, што асаблівага ў перадваенным жыцьці Гафнэра, каб надаваць яму такую ўвагу? Ён быў адным з тысячаў маладых людзей, чые найлепшыя гады прыпалі на час нараджэньня Трэцяга Рэйху. Ён не належаў да інтэлектуальнае эліты перадваеннай Нямеччыны і не прыстасоўваў сваю пазыцыю да нацысцкай ідэалёгіі. Гафнэру не прыйшлося, як Эгану Фрыдэлю зь Вены, знайсьці супакаеньне ў сьмяротным скачку з акна ці, як Томасу Ману, выехаць у змушаную эміграцыю. У Брытанію Гафнэр выехаў зь іншых прычынаў: ягоная сяброўка Эрыка была габрэйка, да таго ж яны ня бралі шлюбу. Займець зь ёю дзіця значыла б, паводле нацысцкіх законаў, зганьбіць "расавую чысьціню".

Незразумела, на што разьлічваў гэты літаратар-пачатковец амаль Хрыстовага веку, які ўзяўся ўвесну 1939 г. пісаць аповесьць пра сваё, мякка кажучы, малацікавае жыцьцё. І наўрад ці мог Гафнэр прадчуваць, што ягоны сьціплы твор некалі зробіць фурор, а крытыкі напішуць, што "пра яго будуць спрачацца і тады, калі бальшыня важных гістарычных падзеяў таго часу будзе забытая".

## Ліст з бутэлькі

Для сёньняшняга чытача "Гісторыя аднаго немца", якую Олівэр Прэтцэль знайшоў пасьля сьмерці бацькі ў пакінутых паперах, — гэта як ліст з бутэлькі, прынесенай хвалямі з востраву, ужо даўно затопленага морам. Тая выспа — мяшчанскі сьвет ваймарскай Нямеччыны. На вачах маладога бэрлінца ён гіне ад унутранай слабасьці пад ударамі бязьлітасных нацыстаў. Ва ўступе да кніжкі Гафнэр піша, што для яго гісторыя Трэцяга Райху — "двубой між двума няроўнымі праціўнікамі: вялізнай, моцнай і бязьлітаснай дзяржавай ды маленькім, безназоўным і невядомым простым чалавекам". Гэты Гафнэраў двубой, ягонае ўласнае процістаяньне і сталася тэмай кнігі, якую цягам двух апошніх гадоў прачыталі паўмільёна немцаў.

Калі пра зброю, рыштунак і амуніцыю мацнейшага суперніка можна ўсё дазнацца зь безьлічы кніжак, прысьвечаных гісторыі нацысцкай дзяржавы, дык пазыцыя "маленькага чалавека" зазвычай застаецца таямніцай. Што думаў і як жыў просты нямецкі абывацель, прадстаўнік праслойкі, якая, паводле словаў гісторыкаў і сацыёлягаў, першая трапіла ў абдымкі фашызму? Як ён пачуваўся ў гарачай атмасфэры Бэрліну, паміж полымем Райхстагу і вогнішчам з кніжак пад сьценамі Опэры? Як мог бараніцца "звычайны чалавек", ад якога, пісаў Гафнэр, грамадзтва патрабавала, каб ён "выракся ўласных сяброў, кінуў сваю сяброўку, адрокся сваіх поглядаў, а прыняў погляды загаданыя, вітаўся ня так, як прызвычаіўся, іначай еў, піў і кахаў"?

"Гісторыя аднаго немца" — гэта аповесьць пра роспачныя і дарэмныя спробы асобы захаваць сваю годнасьць насуперак уціску. А таксама пра тое, як асоба процістаіць мярзотнаму рэжыму.

## Згубны дар свабоды

Прычынаю посьпеху нацыстаў Гафнэр — лібэрал паводле перакананьняў — лічыць няўменьне немцаў жыць ненапружана, без надмерных эмоцыяў. "Вольнае прыватнае жыцьцё", якое ім падаравала ў сваё "залатыя гады" Ваймарская рэспубліка, выявілася цяжарам, які ў хуткім часе нацысты зьнялі з плячэй разгубленых абывацеляў.

> *Прычынаю посьпеху нацыстаў Гафнэр — лібэрал паводле перакананьняў — лічыць няўменьне немцаў жыць ненапружана, без надмерных эмоцыяў.*

Гафнэр шанаваў свабоду і лічыў, што яе можна зьберагчы нават ва ўмовах нацысцкай Нямеччыны, калі захаваць сваю індывідуальнасьць, свой твар. Падпал Райхстагу Гафнэр мог яшчэ апраўдаць тым, што немцы стаміліся ад тае кірмашовае забавы, якую разагналі баевікі *SA*. Праз пэўны час ён цешыў сябе ілюзіяй, што, працуючы ў судзе, здолее, насуперак усяму, захаваць свой твар. Прадчуваючы набліжэньне цяжкіх часоў, Гафнэр вывучаў... джыў-джыцу. Ён думаў пра выезд з краіны, але яшчэ ўвесну 1933 г. сустракаўся і дыскутаваў з калегамі-праўнікамі, якія выразна сымпатызавалі фашыстам.

Ілюзіям хутка надышоў канец: падчас чарговае аблавы на габрэяў нацысты ўварваліся ў суд і пачалі высьвятляць паходжаньне ўсіх сустрэчных. Гафнэр адказаў: "Я — арыец". "Якая ганьба! Сканіў, адразу сканіў! Трэ было даць сабе ў морду", — з горыччу згадваў ён у сваёй аўтабіяграфіі.

## Доктар Прэтцэль і містэр Гафнэр

"Гісторыі аднаго немца" Гафнэр ня скончыў. Пачалася вайна, і ён, на замову свайго выдаўца, пачаў пісаць аналітычныя матэрыялы пра нацысцкую Нямеччыну, якія падпісваў па-ангельску: "Нямеччына: *Dr.Jekyll & Mr.Hyde*" (тады ж, каб зьберагчы сваякоў на радзіме, ён зьмяніў прозьвішча з Прэтцэль на Гафнэр). Потым яго запрасілі на працу ў прэстыжны штодзённік "*Observer*", дзе ён працаваў за адным сталом з Джорджам Оруэлам. Пасьля вайны, у 1954-м, Гафнэр вярнуўся ў Нямеччыну, працягваў кар'еру журналіста. На забыты рукапіс не ставала ні часу, ні зацікаўленасьці.

"Гісторыя аднаго немца", знойдзеная сынам аўтара, абрываецца на 1933 г. Гафнэр апісаў толькі першыя месяцы фашысцкае ўлады. Што здарылася зь ім пазьней? Як ён пражыў у Райху наступныя некалькі гадоў — безь сяброў, бальшыня зь якіх разьбеглася па сьвеце ці здалася нацыстам? Расказы самога Гафнэра ня могуць цалкам замяніць ягонай біяграфіі (першую, ня дужа ўдалую, напісаў Увэ Зоўкуп, журналіст, які колькі гадоў таму спэцыяльна заснаваў выдавецтва, каб апублікаваць дзьве забытыя кніжкі Гафнэра).

Незвычайны посьпех сьціплых запісаў маладога эмігранта зь Нямеччыны мае шмат прычынаў. Ніводную зь ягоных кніжак ня хочацца, прачытаўшы, адкладаць убок, яе хочацца перачытваць і перачытваць. Гафнэр ніколі не пісаў твораў, па аб'ёме большых за вялікае эсэ. Ягоныя невялічкія "Заўвагі пра Гітлера" прызнаныя адной з найлепшых біяграфіяў фюрэра, а тое, што мільённы наклад гэтае кнігі хутка разышоўся, сьведчыць пра слушнасьць нямецкай прыказкі "*In der Kürze liegt die Würze*" ("У кароткім — самы смак").

> *Кропкі над "і" паставіла... Фэдэральнае бюро крыміналістыкі, якое дасьледавала рукапіс і пацьвердзіла ягоную аўтэнтычнасьць.*

"Гісторыя аднаго немца" была апублікаваная ў спрыяльны для яе час. На нямецкім чытацкім рынку "прыватная" гісторыя тых часоў карыстаецца сёньня вялікім попытам. Нават нашмат большыя за Гафнэраву кніжку выданьні — шматтомныя дзёньнікі Віктара Клемпэрэра ці тоўстыя ўспаміны Марсэля Райх-Раніцкага — вельмі папулярныя.

Аднак выйшла гэтак, што да "Гісторыі аднаго немца" свой "эпілёг" дапісалі крытыкі, і гэты эпілёг не супаў з ацэнкамі чытачоў. Крытыкі хутчэй зладзілі скандал. І нічога дзіўнага, улічваючы біяграфію аўтара. Гафнэр як публіцыст быў адным з галоўных ястрабаў "халоднай вайны" — у тыя часы ён выступаў у кансэрватыўнай прэсе канцэрну Шпрынгера, у прыватнасьці ў "*Welt*", а пасьля зь дзівоснай раптоўнасьцю зрабіўся прыхільнікам "новай усходняй палітыкі" Бранта. Ён жа быў адной з галоўных дзейных асобаў "афэры "Шпігелю"". У 1962 г. па загадзе міністра абароны Штраўса выдаўцоў гэтага часопісу арыштавалі, абвінаваціўшы ў дзяржаўнай здрадзе (пасьля аказалася, што гэта памылка). Нейкі час тыднёвік не выходзіў. Гафнэр адразу ж выступіў у абарону калегаў (хоць якраз да "Шпігелю" ня меў сымпатыяў) і ў знак пратэсту разьвітаўся з мэдыяканцэрнам Шпрынгера, які Штраўса падтрымаў.

У свой час буру выклікала і сэрыя артыкулаў Гафнэра пра рэвалюцыю 1918 г. у Нямеччыне: у іх ён усклаў на сацыял-дэмакратаў віну за крывавую расправу над камуністычным Саюзам Спартака ды абвінаваціў іх у саюзе з рэакцыяй. Пікантнасьць заключаецца ў тым, што Гафнэр выступіў з гэтымі артыкуламі ўжо пасьля таго, як перайшоў у "стан" сацыялістаў.

## Няўжо фальшыўка?

Цяперашнія спрэчкі вакол Гафнэра, аднак, мелі мала палітычнага. Летась вядомы бэрлінскі гісторык (між іншым, біёграф Конрада Адэнаўэра) і дрэздэнскі мастацтвазнаўца абвесьцілі на радыё і ў салідным штодзённай газэце "*Frankfurter Allgemeine Zeitung*", што "Гісторыя аднаго немца" не была цалкам напісаная ў 1939 г. і шматкроць зьмянялася — галоўным чынам у 60-я. Доказы? Хутчэй, меркаваньні: у 1939 г. Гафнэр, нібыта, ня мог столькі ведаць пра падзеі апошніх год першай сусьветнай вайны, дый ягоныя прадказаньні наконт разьвіцьця палітычнай сытуацыі ў Эўропе занадта дальнабачныя. Плюс, як сьведчыць мастацтвазнаўца, дэталі: у бэрлінскім мэтро тады яшчэ не было эскалятараў, пра якія згадвае Гафнэр. І слоўнікавы запас аўтара празьмерна сучасны ("масавае забойства").

Пасьля гэтае публікацыі на культурных палосах нямецкіх газэтаў пасыпаліся ўзаемныя абвінавачаньні й абвяржэньні. Шмат хто праводзіў аналёгію між "Гісторыяй аднаго немца" і найбольшым скандалам ў гісторыі нямецкай прэсы — фальшывымі дзёньнікамі Адольфа Гітлера, якія на пачатку 80-х надрукаваў штотыднёвік "*Stern*".

Бальшыня папрокаў была лёгка адбітая. Пра першую сусьветную вайну з "Гісторыі аднаго немца" можна даведацца столькі ж, колькі з выдадзенай годам пазьней кнігі Гафнэра "Доктар Джэкіл і містэр Гайд". Эскалятар у бэрлінскім мэтро ў той час ужо быў; лінгвістычныя сумневы таксама былі разьвеяныя. Кропкі над "і" паставіла... Фэдэральнае бюро крыміналістыкі, якое дасьледавала рукапіс і пацьвердзіла ягоную аўтэнтычнасьць.

Але што Гафнэру да гэтай мітусьні? Ён пануе сабе на паліцах бэрлінскіх кнігарняў, колькасьць ягоных чытачоў расьце ад пакаленьня да пакаленьня. Гісторыя аднаго немца яшчэ далёкая да фіналу.

# Там, на Памежжы

Выправіцца на польска-літоўска-беларускае памежжа, каб пасьпяхова трапіць у мястэчка Сэйны, якое дагэтуль выклікала ў тваёй сьвядомасьці толькі тры асацыяцыі — Кшыштаф Чыжэўскі, часопіс "*Krasnogruda*" й міжнародны культурны форум "*Na Pograniczu*". Кшыштаф Чыжэўскі — прафэсійны вандроўнік па Сярэдняй Эўропе, добра вядомы ў Беларусі сваімі публікацыямі. "Краснагруда" — тоўсты, але вытанчаны культурны пэрыёдык, адзін з апошніх нумароў якога прадставіў польскаму чытачу тваю краіну. Трэцяя асацыяцыя тычыцца імпрэзы, на якую цябе ласкава запрасілі. Выправіцца ў падарожжа ў таварыстве паэта, філёзафа і таксама прафэсійнага вандроўніка Ігара Бабкова, каб зразумець, наколькі няпоўнымі й павярхоўнымі былі твае папярэднія ўяўленьні пра Сэйны. Вось жа, узбагачаны найноўшым досьведам, ты сьмела можаш сьцьвердзіць, што Сэйны — гэта:

Месца адкрыцьцяў і прыемных неспадзяванак. Так, праграмка абяцала вялікі культурны форум з назвай "*Перад абліччам будучыні*", тады як ужо ў часе адкрыцьця арганізатар абмовіўся, назваўшы яго "*Перад абліччам канца*", чым пацешыў усіх аматараў Фройда.

Месца, дзе пачынаеш цаніць вартасьць прамоўленага слова й раскошу чалавечых зносін. Паселены ў кляштар, былыя жыхары якога мусілі выконваць зарок маўчаньня, ты разумееш, што гэтыя будынкі й памяшканьні проста створаныя для маналёгаў, дыялёгаў і палілёгаў. (Зрэшты, знаёмы філёляг даводзіў табе, што палілёгам старажытныя грэкі называлі зусім не размову трох і болей асобаў, а проста надзвычай гаваркую істоту, вялікага аматара пазюзюкаць.)

Месца, дзе тэмаю майстар-клясаў можа стацца "гульня шкляных пэрлаў", так што тыя, каму раней даводзілася адно плесьці фенечкі ды сыпаць пэрліны перад сьвіньнямі, атрымліваюць кароткачасовую візу ў Касталію.

Месца, дзе ў кавярні можна патрапіць за адзін столік з варшаўскім рабінам у шабас, самому ўзяць удзел ва ўсіх сьвяточных урачыстасьцях, прадугледжаных грунтоўнымі юдэямі. А пасьля — дзеля сусьветнай раўнавагі — на мяжы з блюзьнерствам танчыць у Белай Сынагозе пад выдатны джаз-бэнд з Коўна.

Месца, дзе славутыя эўрапейскія пісьменьнікі, раней вядомыя табе адно з публікацыяў, набываюць чалавечы твар і выяўляюцца някепскімі таварышамі ў попійках.

Месца, дзе сам ты выяўляешся падазрона знакамітым і ўжо ня ведаеш, калі больш дзівіцца — ці то сустрэўшы амаль незнаёмых польскіх красунь, што чытаюць на памяць твае вершы па-беларуску, ці то заўважыўшы, што дэмакратычныя наведнікі мясцовай забягалаўкі ўжо пазнаюць вас з Бабковым у твар і кожны сьвята ўпэўнены: вы абодва — літоўскія шпіёны.

Месца, дзе асабліва востра адчуваеш рамантычнае двухсьвецьце — і належыш дзьвюм рэальнасьцям адначасна, растаючы ў краявідзе й беручы ўдзел у інтэлектуальнай спрэчцы. Слухаеш дыскусію фундатараў і кнігавыдаўцоў, што сабраліся на памежжы, каб абгаварыць справы дыстрыбуцыі замежнай літаратуры ў сваіх краінах. Згадваеш кантрабандыста-габрэя, які 170 год таму, на патрэбу менскім і навагрудзкім маладзёнам, нелегальна ўвозіў у Літву кніжкі Адама Міцкевіча, забароненага царызмам. Думаеш пра сваіх нікім не забароненых беларускіх калегаў, якіх не чытаюць ні ў Наваградку, ні нават у Менску.

Месца, дзе насуперак грыгарыянскаму й юліянскаму календарам круглы год трывае шыкоўна-будысцкае лета, што так нагадвае вобраз з вашага супольнага ўлюбёнца Восіпа Мандэльштама. Месца, дзе можна ўсмак аблаяць беларускія пераклады яговых вершаў, а таксама перакладаць самім: рэшту польскай валюты — з кішэні ў кішэнь, адказнасьць — з хворай галавы на здаровую, крыштальнай чысьціні цьвярозыя думкі — на мову, зразумелую адно птушкам і п'яным сярэднеэўрапейцам.

Месца, дзе можна ўявіць сябе матыльком зь верша беларускага перакладчыка Мандэльштама; матыльком, якому сьніцца два вандроўныя дэрвішы ў сярэдзіне свайго хаджэньня-хаджу. Узяць нататнік, каб сфармуляваць пару думак для непазьбежнай дыскусіі, ды раптам злавіць сябе на складаньні верша.

**Андрэй Хадановіч**

## Ігар Бабкоў

*СЭЙНЫ.*
*КАРОТКАТЭРМІНОВАЯ*
*НІРВАНА ДВУХ ДЭРВІШАЎ*
*ПА ДАРОЗЕ НА ГАРУ ВУ-ДАНГ*

Поўдзень. Халодны сьнег.
Будысцкае лета.

Два дэрвішы імкнуцца ўзнавіць
раўнавагу
ў Паўночнай Сарматыі, на мяжы яе
канчатковага зьнікненьня
*w obliczu przyszłości*.

Звоняць у званочкі.
Сьпяваюць *Харэ-Крышна*.
Ратуюць птушак.

Пасьпяхова ўдаюць ліцьвінаў
у бары "Жывец".

Мараць аб новай уніі
Каралеўства Дрэваў
і Вялікага Княства Аблокаў.

Блытаюць межы.
П'юць піва.
Зьнікаюць сярод пагоркаў...

Плывуць на Захад аблокі. Дрэвы
застаюцца дрэвамі.
Сны — снамі.

## Андрэй Хадановіч

* * *

Марш-кідок на памежныя Сэйны.
Старажытны захоплены кляштар.
Разьліваюцца піва басэйны.
Надзімае паэзія лаштыр.

Два шляхі да нірваны ўявіце
й выбірайце, вагаючы шалі:
раставаць пакрысе ў краявідзе
ці высоўвацца, каб заўважалі.

За вячэраю зь першае спробы
элегантна ўпісацца ў тусоўку,
каб вандроўныя цешыць вантробы
й вінавата смаркацца ў насоўку.

Шырыня талерантных паглядаў.
Этыкет.
Палітэс.
Эківокі.
Сьвет тваіх зачакаўся балядаў —
не саромся, давай, сінявокі!

Аргумэнты на нітку налыгвай,
гумкай жуй пераверaны гумар,
слупяней саляною камлыгай:
кожны лот атрымае свой нумар...

Ад пачатку чаканьне працягу
й ратавальнае кавы,
у пярэрве ж
нехта скажа, што ты
тут ня брудны бадзяга,
а самотны здарожаны дэрвіш.

## вершы



УЛАДЗІМЕР СКАМАРОШЧАНКА

Грамадзкая арганізацыя "Беларускі зялёны крыж" ізноў ладзіць акцыю "Дзень Зямлі", у рамках якой адбываецца літаратурны конкурс для школьнікаў. Сёньня шчэ цяжка казаць пра ягоныя канчатковыя вынікі, але хацелася прапанаваць увазе чытачоў "Нашай Нівы" сёе-тое з паэтычнай намінацыі "Верш пра любоў і каханьне". Арганізатараў вельмі ўсьцешыла колькасьць цікавых матэрыялаў, дасланых на конкурс (лідэрства тут цьвёрда трымаюць Паставы). Палепшала якасьць паэтычных твораў, зьмяніліся суадносіны "працоўных" моваў конкурсу. Летась удзельнікі, пішучы па-беларуску, зьвярталіся зБольшага да патрыятычнай тэматыкі, прызнаваліся ў любові да роднай зямлі ды матчынай мовы, а самае інтымнае — мілоснае — выказвалі па-расейску. Сёлета мы атрымалі шмат арыгінальных беларускамоўных прызнаньняў у самым асабістым. Паменела мітынговай дэкляратыўнасьці. Пабольшала шчырасьці й пяшчоты. Трохі засмучае толькі тое, што юнакоў па-ранейшаму відавочна меней ад дзяўчат. Можа, хоць гэтая публікацыя змусіць нашых хлопцаў адказаць на прызнаньні?

**Андрэй Хадановіч**

### ЮЛІЯ БАЛЬЦЭВІЧ

STILL

Знаёмую постаць пазнаўшы здалёк,
Убачыўшы вочы ў натоўпе твае,
Я позірк убок адвяду і знарок
Прайду абыякава міма цябе.

Ты раптам пачуеш язьмінавы пах,
І сэрца чамусьці заб'ецца хутчэй,
Калі на танклявых дзявочых руках
Пярсьцёнак-раменьчык успыхне
ярчэй...

Натоўп ататрэ нас, імклівa памкне
Цябе — у адзін бок, мяне — у другі.
У думках пра шчасьце ўспамін
прамільгне,
І зойдзецца сэрца ад горкай тугі.

Згадаю міжволі, як мы, удваіх,
Па Менску ў той казачны вечар ішлі,
Як я затрымцела ў абдымках тваіх,
Як рот мой гарачыя вусны знайшлі...

Ты, першы, адзіным здаваўся тады,
Быў сонцам у змроку быцьця для
мяне...
Зьмяняецца ўсё, праплываюць гады —
Нязьменна цябе толькі бачу я ў сьне.

Я крок запаволю. Яшчэ крок бы раз
Мне ў вочы твае зазірнуць, залаты!..
І раптам, нібыта пачуўшы, у адказ
На просьбу маю азірнешся і ты.

*Менск*

### ДЗЯНІС БУШКОЎ

*ЦЬВІТУЦЬ САДЫ...*

Цьвітуць сады...
І ветрык водар іх нясе.
Цьвітуць сады...
Стаяць у квецені усе.

Цьвітуць сады...
І на душы вясна ізноў.
Цьвітуць сады...
Папрaзь няўмольны бег гадоў.

Цьвітуць сады...
Каханьне зноў да нас ідзе.
Цьвітуць сады...
Клякоча бусел у гнязьдзе.

Цьвітуць сады...
І зерне ўсходзіць на ральлі.
Цьвітуць сады...
І ўсё спакойна на зямлі.

*Хадаровічы, Лідзкі р-н*

### МАРЫНА ІВАНОВА

* * *

Яна... Яе вачэй зялёных зьзяньне.
А ён... Ён проста быў яе анёлам.
Яны сустрэліся. Было сьвітаньне,
Сьпявалі ў небе арфы і віёлы.
Але анёлы — дзіўныя стварэньні:
Імгненьне — і пара яму ў нябёсы.
Ён адлятаў. Прыходзіў дзень
асеньні.
З вачэй зялёных паліліся сьлёзы.
Яна чакала ўночы і на золку
І верыла, што можа дачакацца.
Ён прысылаў паштоўкі на вясёлках,
Зь нябес дарыў ёй зорачкі на
шчасьце.
Сьпявалі птушкі і шумелі хвалі
Там, дзе прайшоў іх самы першы
золак...
Ніхто ня ведае, як яе звалі.
А ён... Ён проста быў яе анёлам.

*Паставы*

### АЛЕСЯ ІЛЬКЕВІЧ

*ВЯРТАЙСЯ!*

Твае крокі заціхлі ў цемры,
Ты пайшоў і ня вернешся больш.
Толькі сьцішана грукнулі дзьверы,
І душу працяў немы боль.
І здаецца, жыць няма сэнсу,
Бо каханьне згасла ў душы.
Разрываецца беднае сэрца,
Ран былых смутак ты зварушыў.
Але я на цябе не злуюся,
Не кляну і ня плачу ўсьлед.
Хай сказаў ты: "Я не вярнуся!", —
Я ня веру, бо наш — цэлы сьвет.
І ты вернешся. Я адчуваю,
Як імкнешся ты побач пабыць
І пачуць, як табе я сьпяваю.
Ты ня зможаш пра гэта забыць!
Мой адзіны, хутчэй вяртайся,
Не магу болей я сумаваць!
У каханьні мне ціха прызнайся.
Ты вяртайся — я буду чакаць.

*Залесьсе, Смургонскі р-н*

### ВОЛЬГА КРЫШТАЛЁВА

*МАЁ КАХАНЬНЕ*

Палыновы пацалунак,
Шыр нябёсаў.
Недарэчныя спатканьні
Нашых лёсаў.
Недалёкія палёты
Нашых мараў,
Бы маленькія анёлы
Сярод хмараў...
Проста цяжка жыць на сьвеце
Нашым думам.
Абвявае сэрцы вецер
Лёгкім сумам.

*Чэрвень*

### КАЦЯРЫНА КУКЕЛЬ

*ТРЫЯЛЕТ*

А сьлёзы ціха падаюць на дол,
І на душы сумненьні і трывога.
Стаю я ўранку ля твайго парога,
А сьлёзы ціха падаюць на дол.
Стаю адна. Прастор зімы наўкол.
Чаму я тут? Чакаю дарагога.
А сьлёзы ціха падаюць на дол,
І на душы сумненьні і трывога.

*Юрацішкі, Івеўскі р-н*

### ВОЛЬГА МАРОЗАВА

* * *

Разьбітыя шыбы
дыхаюць проста ў твар:
дзе-небудзь схавацца
ад позірку іх немагчыма.
І я не магу азірнуцца назад:
я права ня маю
на тое, каб згадваць былое.
Пройдзе ўсё. І ня трэба мяне
шкадаваць,
бо чаканьне наступнай ілжы
ўжо не ўратуе.
Ты заўсёды казаў: "Кроч наперад".
Але...
Але што там, наперадзе?
Бітыя шыбы?

*Паставы*

### НАТАЛЯ СІМАНОВІЧ

* * *

Якая раніца! Якое сонца!
Як весела ўздымаецца трава!
Здаецца, гэта раніца бясконца,
Бо кружыцца ад шчасьця галава.
Я на сьвітанку босымі нагамі
Бягу па лузе — умыюся расой.
А ў сьне ўзьлячу над лесам і палямі...
Мне б толькі не парушыць іх спакой!

*Дзягілі, Мядзельскі р-н*

### ІРЫНА ШУБІНА

*САФІЯ*

"Сафія!.." — і срэбныя струны
Гучаць у маёй галаве.
І постаць Прадславы вандруе
Па землях бацькоў, па дрыгве,
Па полі, па ніве, па сэрцы...
Стагодзьдзяў і подзьвігаў рацьб...
І кліча да нас, каб ня ўмерці,
Каб памяць бацькоў захаваць.

Сафія! Ты зьвяз пакаленьняў,
Ты велічны скарб даўніны,
Ты сьведка ўрачыстых імгненьняў,
Ты розум, надзея і сны.
І хоць прамінаюць стагодзьдзі —
Нясецца твой срэбраны звон.
Няхай напамінам нам будзе
Пра спадчыну прадзедаў ён.

*Гомель*

Сёлета грамадзкая арганізацыя "Беларускі зялёны крыж" ладзіла сярод школьнікаў конкурс "Нам засталася спадчына", удзельнікі якога прэзэнтавалі свае праекты адраджэньня занядбаных помнікаў гісторыі й культуры Беларусі. Ад іншых конкурсаў сачыненьняў гэты розьніўся тым, што не даваў магчымасьці абстрагавацца й сьпісаць з хрэстаматыі па беларускай літаратуры агульныя словы пра любоў да роднага краю, патрабаваў больш канкрэтных і мэтанакіраваных сьцьвярджэньняў і дзеяньняў. Патрабаваў адказнасьці. Агульнай рысай усіх дасланых праектаў было спалучэньне яшчэ-наіўнасьці й ужо-прагматызму: дзеці, якія пайшлі ў школу пры незалежнасьці, самі меркавалі, дзе і якім чынам можна зарабіць грошы, каб укласьці іх у культуру. Яны вучыліся думаць сваёй галавой. Прываблівае й скіраванасьць конкурсу на мясцовыя праблемы. Дзеці вучыліся ўсьведамляць значнасьць і каштоўнасьць кожнага лапіка беларускай зямлі. У сёньняшняга школьніка няма грэблівага стаўленьня да цэркаўкі ў ягонай вёсцы, у параўнаньні са Сьвятадухаўскім саборам ці, па старой памяці, з храмам Васіля Блажэннага. Бо няма тае старой памяці.

Да ўвагі чытачоў "НН" прапануюцца тры праекты з дасланых на конкурс.

# Траецкая царква

**Летась у чэрвені на базе нашай гімназіі адбыўся рэспубліканскі пленэр юных мастакоў, прысьвечаны 500-годзьдзю стылю барока ў беларускай архітэктуры. Цэнтрам увагі пленэру сталася Траецкая царква ў вёсцы Белая Царква, што ў Чашніцкім раёне, — адзіны ў Беларусі помнік уніяцкай культавай архітэктуры, створаны за 100 год да афіцыйнага ўвядзеньня уніі ў ВКЛ. Цяпер унікальны гісторыка-культурны аб'ект знаходзіцца ў паўразбураным стане.**

Мы не жадаем, каб наша краіна згубіла яшчэ адзін цікавы помнік архітэктуры. Сродкі на ягонае аднаўленьне можна было б сабраць, зрабіўшы тыя мясьціны прывабнымі для айчынных і замежных турыстаў. Апроч Траецкае царквы, там у мястэчку Чарэя можна пабачыць праваслаўную царкву XVI ст., па дарозе да Чарэі — наведаць Цяпіна, дзе колісь месьціўся маёнтак Цяпінскіх (на тэрасаваным схіле дагэтуль захаваліся падваліны дому беларускага асьветніка XVI ст.), на беразе Чарэйскага возера знаходзяцца габрэйскія могілкі, дзе можна пабачыць рэшткі склепу роду Мілашаў — продкаў Оскара Мілаша.

Выгоднае геаграфічнае становішча Чарэі паблізу шляхоў Віцебск—Менск, Ворша—Менск і Полацак—Менск дае магчымасьць скіраваць сюды турысцкія патокі.

Гэты край можа быць цікавы ня толькі для нас: імёны Ф'яраванці й Мілаша здольныя прыцягнуць увагу італьянцаў, палякаў і французаў, у тым ліку інвэстараў.

Базыльянскі кляштар у Чарэі трэба адбудаваць і вярнуць уніяцкай канфэсіі. Тамсама можна стварыць музэй гісторыі ўніяцтва ў Беларусі, які будзе складаць адзіны комплекс з Траецкай царквой і кляштарнымі пабудовамі. Траецкая ж царква мусіць быць закансэрваваная ў сёньняшнім выглядзе — ня толькі таму, што поўная рэстаўрацыя вымагае вялікіх выдаткаў. Яна мусіць зрабіцца сьведчаньнем пэрыяду бездухоўнасьці і барбарскага стаўленьня да свайго мінулага. А для адпраўленьня набажэнстваў можна збудаваць іншую царкву, якая ў агульных рысах (бязьвежавы варыянт, контуры вежы на галоўным фасадзе пазначаныя пілястрамі) была б падобная да Траецкай.

**Зарыслава Камінская, Марыя Крупнова, Марыя Навумкіна, Надзея Ужэгава, Наваполацак**





Траецкая царква, збудаваная ў пачатку XVI ст. у стылі раньняга барока, увасабляла ўніяцкія ідэі, абвешчаныя на Фэрарскім аб'яднаўчым саборы. Царква ня мае традыцыйных для праваслаўных храмаў падкупальных слупоў, тонкае цаглянае скляпеньне абапіраецца непасрэдна на сьцены (няма ніводнай бачнай мэталёвай сьцяжкі), а самі сьцены разрэзаныя высокімі вокнамі. Гэта была б звычайная аднанэфавая базыліка, але на ўсходзе разьмешчаны тыповы для праваслаўя аднаапсыдны алтар. Цэнтральны фасад замкнёны масіўнай трох'яруснай вежай-званіцай, якая прызначалася для абарончых мэтаў. Таўшчыня ейных сьценаў 1,75 м, а паўночнай, у якой зробленая каменная лесьвіца, — 2 м. Завершаны храм шматгранным купалам з чатырма люкарнамі. Асноўны — прастакутны ў пляне аб'ём храму большы за аб'ём званіцы. Бакавыя сьцены разрэзаныя масіўнымі пілястрамі, дзьве сярэднія зьвязаныя пэрспэктыўнай аркай і ўтвараюць шырокі партал. Аздабленьне інтэр'еру не захавалася. Фундаваў храм прадзед Лява Сапегі Багдан. Крыху раней ён "удзелаў" у недалёкім мястэчку Чарэі базыльянскі кляштар. Шэраг простых і ўскосных сьведчаньняў дае падставы казаць, што ў будаўніцтве Траецкай царквы браў удзел інжынэр-архітэктар з Балоньі — Арыстоталь Ф'яраванці, якога італьянцы называлі "геніем, чые пабудовы зьдзіўляюць". У Італіі ягоныя шэдэўры не захаваліся.

# Аўгустоўскі канал

**Сучасная беларуска-польская мяжа падзяляе Аўгустоўскі канал на дзьве часткі. Польшчы належыць 80 км, нам — 22 км. У Польшчы канал дзейнічае, па ім плаваюць турысцкія чаўны і катэры. Нашая частка — закінутая, з разбуранымі шлюзамі і зьдзічэлым рэчышчам. Ім ніхто не карыстаецца, ніхто яго не рэстаўруе...**



Выкапаны канал быў у XIX ст., дзеля таго каб атрымаць гандлёвы шлях да Балтыкі ў абход Прусіі. Бо тая, кантралюючы вусьце Віслы, увяла высокія мытныя пошліны. Ініцыятыва стварэньня каналу належала князю Друцкаму-Любецкаму — міністру фінансаў Каралеўства Польскага. Спраектаваў канал і кіраваў працай генэрал Ігнат Прандзінскі. Будаўніцтва пачалося 27 ліпеня 1824 году сіламі інжынэрнага корпусу генэрала Малецкага. Спынялася яно толькі на час паўстаньня 1830—31 г. За 15 гадоў была збудаваная рэдкай прыгажосьці штучная водная артэрыя працягласьцю 101,2 кілямэтра, глыбінёй да двух і шырынёй да чатырох мэтраў. Канал быў суднаходным дзякуючы сыстэме шлюзаў. Але з разьвіцьцём чыгуначнага транспарту ў канцы XIX ст. ён паступова страціў сваю ролю і на яго зусім забыліся.

Пасьля другой сусьветнай вайны палякі адрэстаўравалі сваю частку каналу. "Польскі" Аўгустоўскі канал можна заслужана лічыць аб'ектам міжнароднага экалягічнага турызму. За адзін сэзон па ім праходзіць да 35 тысяч чаўноў і катэраў. Турысты падплываюць упрытык да польска-беларускай мяжы, разварочваюцца і плывуць назад у Аўгустаў. Грошы, затрачаныя на аднаўленьне каналу, акупіліся за некалькі гадоў. Канал — дзяржаўная ўласнасьць, і прыбытак ад яго папаўняе скарб. У 1999 г. польская частка Аўгустоўскага каналу была ўнесеная ў Сьпіс культурнай спадчыны ЮНЭСКА.

Беларускую частку каналу ніколі цалкам не рамантавалі. Аднак сказаць, што нашыя 22 кілямэтры ніяк не выкарыстоўваюцца, будзе няпраўдай. На дне каналу можна вырошчваць бульбу: шлюзы і дамбы парушыліся, і вады ў некаторых месцах амаль не засталося. А парушыліся яны не самі па сабе: людзі паступова разьбіраюць іх на цэглу.

У 1993 г. Беларускі інстытут праектаваньня аб'ектаў будаўніцтва воднай гаспадаркі распрацаваў праект рэканструкцыі каналу. Разьлікі паказалі, што на ўсю рэканструкцыю трэба 10 млн. даляраў. Спрабавалі рамантаваць частку каналу: вакол паўтаракілямэтровага адрэзку сьпілавалі лес, прыбралі тэрыторыю, разабралі шлюз для рэгуляваньня ўзроўню вады, паглыбілі і пашырылі фарватэр. На гэта пайшло 40 тыс. даляраў. На большае грошы знайсьці не ўдалося. Цяпер тая адрамантаваная дзялянка выглядае не нашмат лепш, чым да рэстаўрацыі, бо 9 апошніх гадоў яе ніхто не даглядаў.

А ніхто зь беларусаў не адмовіўся б адпачыць у экалягічна чыстай зоне, прайсьціся Аўгустоўскай пушчай ці, плывучы па канале на чаўне, паўзірацца ў дно праз крыштальную ваду. Тут няма чыгункі і буйной прамысловасьці, мітусьні і тлуму гарадзкога жыцьця. Тут ёсьць некранутая цывілізацыяй прырода і гаючая чысьціня.

Польскі досьвед пераконвае: адрамантаваны канал будзе карыстацца вялікай папулярнасьцю ў турыстаў. Але канал мала толькі адрэстаўраваць — ён патрабуе пастаяннага дагляду й паднаўленьня. А на гэта патрэбны вялікія грошы. Рэгулярныя інвэстыцыі можна забясьпечыць толькі шляхам бесьперапыннага выкарыстаньня каналу. Гэта і экалягічны, і спартовы, і этнаграфічны турызм, літаратурныя сустрэчы і музычны фэстываль "Аўгустоўская восень". Палякі, а таксама госьці зь іншых краінаў змогуць плыць праз увесь канал ад пачатку да канца. Насустрач ім ад Нёмана будуць плысьці беларусы.

Уздоўж каналу можна працягнуць лыжную дыстанцыю. На ёй можна праводзіць штогадовую лыжную ўнівэрсіяду з удзелам польскіх суседзяў. Гэта каштуе няшмат, а канал стане вядомы і як месца правядзеньня спартовых мерапрыемстваў.

Увесну на канале можна ладзіць пленэры мастакоў. Сама прырода там натхняе.

Аўгустоўскі канал — найлепшае месца для сустрэч беларусаў, якія цікавяцца Польшчай, і палякаў, якія цікавяцца Беларусяй. За асабліва цікавыя дасьледаваньні будзе выдавацца спэцыяльна заснаваная Аўгустоўская стыпэндыя.

А яшчэ тут можна ладзіць улетку рыцарскі турнір "Аўгустоўскае рысталішча". У Беларусі і ў Польшчы не адзін дзясятак рыцарскіх клюбаў. Рыцары зь іх спрабавалі б свае сілы адзін супраць аднаго.

Дзяржава можа ўкласьці невялікія грошы і атрымаць вялікі прыбытак, як у Польшчы. Ня трэба фантастычных комплексаў і грандыёзных мерапрыемстваў. Дастаткова збудаваць канцэртную залю — яна ж заля для правядзеньня фэстывалю, яна ж чытальня, яна ж памяшканьне для выставы, яна ж аўдыторыя для навуковых канфэрэнцыяў. Мы можам рацыянальна карыстацца тым, што маем.

Пройдзе дзесяць год, і...

Досьвітак. З порту Аўгустаў выходзіць човен з турыстамі. Тут ня толькі палякі. Большасьць — немцы, што едуць у гэтае падарожжа, бо стаміліся ад аднастайнасьці сусьветных курортаў. Яны выпраўляюцца ў Беларусь. Шлях гэты працягнецца не адзін дзень. Лодка бязгучна бяжыць па празрыстай роўнядзі. Для турыстаў гэта вандроўка ў невядомасьць, пра якую яны ўжо шмат чулі ад тых, хто быў там і прывёз незабыўныя ўражаньні.

А Аўгустоўскі канал на беларускай тэрыторыі — гэта ўжо ня хворы апэндыкс, а паўнакроўная аорта. І ўжо няма выразнай мяжы паміж 80 польскімі і 22 беларускімі кілямэтрамі воднага шляху.

**Наста Кавалёва, Гомель**



# Крыжовая гара

**Недзе за кілямэтар ад Гомелю на Чарнігаўскай шашы стаіць стары драўляны крыж. Зьявіўся ён пасьля вайны на месцы, дзе ў 1919—40 г. бальшавікі расстрэльвалі бязьвінных людзей.**

Звычайна, калі адведваеш памятныя мясьціны, пачуцьцё сьветлага смутку па тых, хто сышоў з гэтага сьвету, агортвае цябе. Але калі мы прыйшлі да крыжа, гэтае адчуваньне не пасьпела нарадзіцца. І справа ня ў тым, што крыж меў ня дужа прывабны выгляд: фарба зьлезла; шыльдачка, прымацаваная да крыжа, заржавела, і асобныя словы і лічбы немагчыма было прачытаць; ручнік выцьвіў. Усё гэта можна лёгка выправіць. А вось прыбраць жалезабэтонныя пліты ды аскепкі іншых будаўнічых матэрыялаў, паскіданыя ля самага крыжа, без адмысловае тэхнікі не атрымаецца. Дык мала таго, што гэтае месца ператворанае ў сьметнік, — пад самым крыжам хтосьці выкапаў катлаван, усталяваўшы на дне жалезабэтоннае калодзежнае кольца...

Пасьля другой сусьветнай вайны хваля рэпрэсіяў не абмінула і прыбалтыйскія краіны. Каля дзясятка чалавек зь невялікай літоўскай вёсачкі былі расстраляныя за ноч. Раніцай на месцы расстрэлу зьявіўся драўляны крыж. Яго адразу ж зьнішчылі служкі савецкай улады. Аднак назаўтра там стаяла ўжо некалькі крыжоў. І з кожным днём іх рабілася ўсё больш. Крыжы трушчылі бульдозэрамі, але яны нібы расьлі з-пад зямлі... Цяпер туды прыяжджаюць тысячы людзей з усяго сьвету, каб ушанаваць памяць усіх ахвяраў злачынных рэжымаў, каб пакінуць тут свой крыж ці крыжык. Гэтае невялічкае ўзвышша называюць Крыжовай гарой — тысячы крыжоў робяць яго велічным, значным. Вось бы і нам зрабіць вакол крыжа невялікі памятны астравок, які быў бы бачны з дарогі і вылучаўся сотнямі крыжоў на фоне зялёнага лесу. Для гэтага няшмат і трэба: прыбраць заправачную станцыю, што знаходзіцца мэтраў за дзьвесьце ад крыжа, разабраць жалезабэтонныя завалы, закапаць катлаван, пасадзіць кветкі і дрэвы, зрабіць дарожкі, пасыпаць іх жоўтым пясочкам.

Пакуль гэта толькі мара, якую мы самі рэалізаваць ня ў стане. Паспрабуем зрабіць хаця б найменшае, каб уратаваць гэты помнік. Мы самі не адужаем жалезабэтонных плітаў, але здолеем прыбраць больш дробнае сьмецьце. Дзяўчаты выткуць свой першы ручнік, якім і ўпрыгожаць крыж. Хлопцы паспрабуюць сябе ў сталярным майстэрстве, зрабіўшы з дошак невялікі плоцік, каб абгарадзіць ім крыж і лаўку. А цяпер, увесну, можна пасадзіць побач з крыжам кветкі, бо ўвесь час прыносіць сарваныя нязручна.

**Мацей Лішын, Аляксандар Падвальны, Гомель**

Адам Глёбус

# Расейская кунсткамэра

## Лімонаў і мэгафон

Порнабэлетрыст Эдзік Лімонаў — чалавек сквапны. Каб узяць у яго інтэрвію, журналістцы Лісіцкай давялося паабяцаць яму мэгафон. Эдзіку на мітынгу трэба выступаць, а мэгафона няма. Лісіцкая, дзеўка абароцістая, дастала мэгафон. Толькі ён, гад, не працаваў. Дзьве гадзіны рамантавалі і не далі рады. Нарцысіст Лімонаў даў інтэрвію бясплатна. Слабак.

## Дугін і трупны дух

У анатацыі да двухтомніка Дугіна "Расейская рэч" напісана, што ён найбуйнейшы расейскі мысьляр сучаснасьці. Трэба чытаць. Пачытаў: "Хай бурацца сэрцы і стогнуць пад нашай пятою блізьляжашчыя народы". Ніцшэ! Ні больш ні менш. Толькі няма вакол Расеі "блізьляжашчых", бо ўсе ўжо "блізстаяшчыя". Яшчэ... Калі ў Ніцшэ ў цэнтры сусьвету звышчалавек — бялявая бестыя, дык у Дугіна — сьмярдзючы труп расейскага салдата.

## Галяўкін і Хармс

Галяўкін-Халяўкін. Ёсьць у расейцаў і такі мастак-апавядальнік, як Віктар Галяўкін. Каб Хармс ня верыў у Бога, каб Хармс любіў дзяцей, каб Хармс ня ладзіў філязофскіх дыспутаў, быў бы ён Галяўкіным — добрым, ціхім і малацікавым.

## Ерафееў і характарыстыкі Расеі

Віктар Ерафееў (ня блытаць зь Венечкам) літкрытык, і, як кожнаму літкрэтыну, яму ведама, пра што трэба пісаць у бэлетрыстычных творах. Ён напісвае, я пачытваю... "Расея гарыць ад фармальнай рэлігійнасьці". Трапна. "Ці хачу я, каб Расея распалася на кавалкі? Каб Татарыя адлучылася ад Мардовіі? Каб Волга высахла? Каб сутарга прайшла па Сібіры? Каб скончыўся балаган? Хачу! Хачу!" І я ня супраць, і я хачу. "Расейскі народ чымсьці ўразьліва не ўнікальны. Ён падобны да іншых архаічных народаў Азіі, Лацінскай Амэрыкі, Афрыкі сваёй набліжанасьцю да жывёльнага сьвету". Люблю жывёл. Расейскі народ не ўнікальны, але і ад цнатлівай прыроды далёкі. "Што стане з Расеяй, калі яна закоіцца? Што рабіць з гэтым вялізным гнілым трупам? Прысыпаць гашанай вапнаю". Можна вапнаю. Лепей зямлёю. "Трэба аддзяляць расейцаў ад Расеі. Расея гаўнісьцейшая за расейцаў". Ну, няпраўда. Расейцы гаўнюкі яшчэ тыя. Яны і ў Амэрыцы гаўнюкі, і ў Францыі. "Расейцы — самыя сапраўдныя паразыты". Вядома! Хто супраць? "Расейцам ня трэба даваць занадта многа адукацыі. Дастаткова царкоўнапрыходзкіх школак. Ня трэба выпускаць за мяжу. Свалата мусіць сядзець



дома". Ня трэба дык ня трэба, але свалата мусіць сядзець у турме. Зрэшты, яна там і сядзіць. Расея заўсёды была турмою народаў, у тым ліку й расейскага. "Расея мяне загрызла канчаткова. Божа, як надакучыла! Яна сера па нагах. Яна сера. Мы серам". Засранцы, лепш ня скажаш. "У Расеі можна пражыць толькі на хлусьні, не вылучаючы гуманістычную хлусьню інтэлігенцыі". Праўда, чыстая праўда, як праўда і тое, што Расея "гістарычна "нячэсная" краіна". "Краіна вечнага рамонту. Тутака ўсё так падгніло, не пасьпееўшы сасьпець, што, за што ні вазьміся, каб зрабіць рамонт, трэба пачынаць спачатку, а лепш за ўсё і зусім не пачынаць". І гэта пра Расею-маці. А вось і кантрапункт: "Я люблю расейцаў. Я вельмі люблю расейцаў. Проста як Ясенін".

## Сарокін і г...

Віця Ерафееў назваў Вову Сарокіна "гаўнавозкай". Крытык меў рацыю. Сарокін любіць гаўно, піша пра гаўно. Капрафагія — асноўны матыў сракінскай творчасьці. Хто да мяне назваў Сарокіна Сракіным — неістотна, бо трапна. Варта спытаць Вову, ці тоне гаўно. Адказ мусіць быць такі: гаўно тоне. Вова ж майстар нечаканых канцовак.

## Мова і настаўніцы

Недалюбліваю расейскую мову, а тых, хто яе насаджае гвалтам, ня слухаю. Не пашанцавала мне з настаўніцамі вялікай і магутнай. Усе, як адна, яе ня ведалі. Першая, Казачка, ня мела вышэйшай адукацыі — ну што тут казаць. Другая, Серафіма, адукацыю мела, але вучні яе не паважалі настолькі, што трымалі дзьверы і не пускалі ў клясу. Серафіма плакала, гістэрычна верашчала і скардзілася дырэктару... Якая мова?! Трэцяя, Карэлка, блыталася ў мужчынскім і жаночым родзе. Ён прыйшла, яна прыйшоў... Дысцыпліна на ўроках была жалезная, а расейскага слова не было. Чацьвертая, Татарка, прыйшла да нас адразу пасьля інстытуту і спрабавала сябраваць. Знайшла сяброў. Выперлі яе са школы за прафнепрыдатнасьць. Пятая, Старая Дзева зь беларусаў, тое-сёе выправіла ў маёй адукацыі: да школьных выпускных іспытаў я вывучыў усе патрэбныя правілы, але атрымаў "4", бо прапускаю літары, калі пішу. Так яна патлумачыла заніжаны бал. Апошняя, шостая — Мянчучка з габрэяў — запомнілася сваім садызмам. У яе былі дзьве адзнакі — "1" і "4". Неяк я ўсё ж атрымаў залік, а колькі людзей пагублялі з-за непатрэбнай прынцыповасьці гады жыцьця — не пералічыць. Такі парадокс: нелюбоў да расейскай мовы мне прышчапілі кепскія настаўніцы.

Праўда, пазнаёміўся я з настаўніцай рашан мовы ў Тбілісі. Яна рабіла па 40 памылак у дыктоўцы для 4 клясы. Дык мае яшчэ ня з горшых: хоць чытаць-пісаць навучылі.

## дзе варта быць

### Кубкі й палумыскі

**У Нацыянальным музэі гісторыі і культуры Беларусі можна пабачыць выставу керамікі, фаянсу, парцаляны, шкла XVIII—XX ст. са збораў дзевяці музэяў Меншчыны.** Там ёсьць вырабы майстроў Урэцкай і Налібоцкай мануфактураў, якія праславілі беларускае шкло яшчэ 200 год таму, багата рэчаў, зробленых івянецкімі, радашкавіцкімі і лагойскімі ганчарамі. Гульня колеру і сьвятла затрымае наведнікаў каля вітрыны з работамі мастакоў Барысаўскага крышталёвага заводу. Зацікавіць і "імпартныя" рэчы XIX — пачатку XX ст.: вырабы Мэйсэнскай мануфактуры, сталовы посуд "Таварыства братоў Кузьняцовых" і заводу Гарднэра, расейскі агітпосуд 1920-х. Выстава будзе працаваць да 21 траўня. Даведкі праз т. 227-43-22, 227-06-33.

### Гарадзенская вандроўка

**20 красавіка гарадзенскія студэнты-гісторыкі запрашаюць усіх ахвотных далучацца да экскурсіі па гарадзенскіх замках.** Збор а 13-й каля помніка Вітаўту, што ля брамы Новага замку. Дадатковая інфармацыя па т.: (8-0296) 51-36-52 (Віктар).

### Кніга Цёткі

**22 красавіка ў менскім кінатэатры "Зьмена" выдавецтва "Беларускі кнігазбор" ладзіць прэзэнтацыю кнігі выбраных твораў Цёткі.** Там пакажуць фільм "Крыж міласэрнасьці" ды будуць прадаваць кніжкі "Беларускага кнігазбору". Пачатак імпрэзы а 19-й. Білет каштуе 1000 руб.

### Новы спэктакль

**20 красавіка ў тэатры "Вольная сцэна" (вул.Крапоткіна, 44) можна будзе паглядзець новы беларуска-францускі спэктакль "Чарнобыльская малітва" паводле кнігі Сьвятланы Алексіевіч.** Пачатак а 19-й. А тыя, у каго няма лішніх 3000 руб. на квіток, могуць завітаць у тэатар днём раней — 19 красавіка. А 12-й там адбудзецца генэральны прагон спэктаклю, на які ўсіх пускаюць бясплатна.

### Не без "Імпэту"

**Дана Жвалік, вакалістка гурту "Імпэт", што быў "Адкрыцьцём году" на "Рок-каранацыі"-2001 і перамог на "Басовішчы", пачала працу ў яшчэ адным беларускамоўным праекце — гурце *"Love Demise"* ("Каханьне ў пазыку").** Стыль новага праекту самі музыкі вызначаюць як *love*-рок. *"LD"* дэбютуе 18 красавіка ў якасьці гасьцей на прэзэнтацыі альбому БМА-*group* "Сэрца Эўропы *in rock*" у парк-клюбе "Менск". Адначасова Дана працягвае працаваць і з "Імпэтам".

### Паэзія

**24 красавіка а 16-й у залі Нацыянальнай бібліятэкі адбудзецца прэзэнтацыя зборнікаў паэзіі** Тацяны Будовіч "Дуэлі паглядаў", Алеся Сыцьпіна "Цені верасоў", Андрэя Бурсава "Дзівін".

## Прыватныя абвесткі

*вітаньні*

**Каханую зорачку Марыначку Працько** віншую з Днём нарадзінаў. Зычу шчасьця, каханьня, зьдзяйсьненьня ўсіх мар. Hienad

**Fajna,** što ty naradziŭsia! Niachaj tabie zoryć i sionńnia, i zaŭtra. Zaŭsiody

*ідэі*

**Севярынец!** Комікс у "Навінках" пра цябе і Папялушку проста бляск! Група гномаў

**Горадня й Менск**, хоць задушыцеся, мне ўсё роўна (Віцебск). P.S.: Толькі Магілёў не забываецца на мяне

**ZIDZI**, навошта табе калькулятар? Адразу мабільнік... Нічка-Зьнічка

**Прапаную рэдакцыі "НН"** выдзеліць старонку, прысьвечаную геям. Можа, чытачоў паболее. Ня гей

**Мікола**, гісторыю трэба выкладаць так, каб дзеці любілі і паважалі, а не баяліся. Вучні

**Помнікі Леніну** — на пераплаўку!

**Дзе** "снайпэр" на іхнага сьпікера? Агу!

**Ганьба** "гімнюкам"! Лепш ніякага гімну, чым з гэткімі словамі! Уладзіслаў Жыгалка. P.S. Дарэчы, сучасныя словы гіму РБ in heavy metal чакаюць выканаўцаў!

**Як больш пісьменна** зваць Менскі футбольны клюб: "Зьвязда" ці "Зорка"?

*кантакты*

**Усім ахвотным** вырошчваць айву дашлю бясплатна 10—12 парасткаў. Укладзіце ў ліст капэрту з адрасам. Больш нічога! No money! Зьвяртайцеся: а/с 461, Менск, 220050

**Гера**, кідай цыгарэту, прапаліш штаны! І Будучыню. Хвіл

**Барыс З-коў**, ты што, у больніцу трапіў, крый Божа? Хвалюемся і чакаем. Уніты

**Зьміцька**, што табе падарыць? Хвіл

**Альтэрнатыўнае літаратурнае аб'яднаньне "Ad Marginem"** шукае пісьменьнікаў, якія робяць штосьці новае ў беларускай літаратуры. Адрас: вул.Хмяльніцкага, д.6г, кв.35, 222310, Маладэчна

**Рэдкалегія "Трыкутніку"!** Чакаем сьвежых навінаў, незашмальцаваных прыколаў. Прачынайцеся! Вясна за вокнамі і ў сэрцах. Чытачы з 21 групы

**Запрашаем сапраўдных беларусаў** прыняць удзел у стварэньні сайту пра Лепельскае возера й Лепельшчыну. alehiv_st@tut.by

*кватэра*

**Здыму 1- ці 2-пакаёвую кватэру** недалёка ад цэнтру. Т.: 206-24-62, 289-72-41

*кнігі, музыка*

**Аўдыё, відэа, паштоўкі, іншае** — фольк, фольк-рок, пастфольк, Сярэднявечча, рыцарства. Т.: 220-68-74

**Новы погляд** на паходжаньне Русі, гісторыю Беларусі ў часопісе "Гістарычная Брама". Можна набыць у менскай кнігарні "Акадэмкніга"

**Часопіс "Нацыя"**. Выданьне Беларускіх Правых. Пэйдж.: 289-12-12, аб.4430. E-mail: Nacyja@hotmail.com

**Беларускае відэа,** аўдыё, CD у Гомелі: Піянэрскі сквэр (ля цырку) штонядзелю да 13.00

**Майкі "Крама"**, "NRM", "Deviation", "Пагоня" і інш. ёсьць у Гомелі. Т.: 45-11-51

*куплю, прадам*

**Прадам** 10 радаводаў беларуска-літоўскіх князёў у колеры з двума каляндарыкамі на 2002/3 рок. Т.: 251-30-15 (да 24.00)

**Куплю наплечнік** (пляцак) б/у ў добрым стане. Т.: 251-30-15 (да 24.00)

**Прадам** падшыўку "НН" за 1991—95 г. Т.: 258-43-54.

*праца*

**Танна створым** і разьмесьцім сайт любой складанасьці. alehiv_st@tut.by. Т.: 211-85-85, аб.1976

**Дапамагу пачаць** сваю справу ў хаце (не распаўсюджваньне). Прыбытак ад 200 у.а. Нескладана. Могуць усе. Ад вас капэрта са зв/а+купон б/а: а/с 122, Менск-89

*net*

**Наведайце,** калі ласка, сайт http://kino.iatp.by (кінаафіша, 100 самых касавых фільмаў, кіно-2002 ("Уладар пярсьцёнкаў")

НАША НІВА — КУПОН БЯСПЛАТНАЙ ПРЫВАТНАЙ АБВЕСТКІ

Запоўніце гэты купон, і мы надрукуем Вашу абвестку (не больш за 15 словаў) бясплатна. 220050, Менск, а/с 537

Тэкст ____________________

Імя і прозьвішча ____________________

## Паштовая скрынка

**Міхасю М. з Баранавіч.** Згодна з нашаніўскай традыцыяй, мы адзначаем 25-, 50-, 75-, 100-гадовыя і г.д. юбілеі.

**Ігару С. зь Берасьця.** Апавяданьне Вашае нам не падыходзіць. Намагаючыся дасягнуць максымальнае "жыцьцёвасьці" твору, часам да таго згушчаеце фарбы, што не застаецца аніякага прасьвету. З усіх магчымых словаў, дзеяньняў герояў, з усіх магчымых варыянтаў разьвіцьця сюжэту Вы абіраеце найчарнейшы. І дасягаеце адваротнага эфэкту — апавяданьне атрымлівaецца надуманым.

**Алесю А. з Полацку.** Урывак з аповесьці — не газэтны жанр.

**Аляксею Б. з Магілёва.** Во і аднавілі б Вы гэтую дыскусію, калі лічыце яе патрэбнай, замест таго каб іншых заклікаць.

**Вячаславу Д. зь Менску.** Артыкул Ваш злы, калі не сказаць зласьлівы. Не разабраўшыся ва ўсім самі, ня можам яго друкаваць.

жарт



НАША НІВА
незалежная газэта
заснаваная ў 1906, адноўленая ў 1991
галоўныя рэдактары "Нашай Нівы":
С.Вольскі (1906), А.Уласаў (1906—1914), Янка Купала (1914—1915), А.Луцкевіч, У.Знамяроўскі (1920), С.Дубавец (1991—2000).

| | |
|---|---|
| сакратарка рэдакцыі | Наста Бакшанская |
| галоўны рэдактар | Андрэй Дынько |
| мастацкі рэдактар | Андрэй Кузьнечык |
| карэктар | Сяргей Петрыкевіч |
| карэктарка | Галіна Рабянкова |
| нам. галоўнага рэдактара | Андрэй Скурко |
| выдавец і заснавальнік | Фонд выданьня газэты "Наша Ніва" |

АДРАС ДЛЯ ДОПІСАЎ:
220050, Менск, а/с 537
Tel/fax: (017) 288-12-32, (0296) 13-32-32.
E-mail: nn@irex.minsk.by
http://niva.s5.com

© НАША НІВА.
Спасылка на "Нашу Ніву" абавязковая. 8 палос фарматам А2. Друкарня РУП "Выдавецтва "Беларускі Дом друку". Менск, пр. Скарыны, 79. Рэдакцыя не нясе адказнасьці за зьмест рэклямных абвестак. Кошт свабодны. Пасьведчаньне аб рэгістрацыі пэрыядычнага выданьня № 850 ад 20 чэрвеня 2001 г., выдадзенае Менскім гарадзкім выканаўчым камітэтам. Юрыдычны адрас: г.Менск, вул. Калектарная, 20а, п. 2а.
Наклад 3768.
Нумар падпісаны ў друк 17.04.2002.
Замова № 2423.
Рэдакцыйны адрас: Менск, Калектарная, 20а/2а